# ХАЙ БУДЗЕ БОГАСЛАЎЛЕННЕ З УСІМІ ВАМІ!

Дарагія чытачы часопіса «Беларусь»!

Час, у які мы жывём,— незвычайны, у многім знамянальны. У ім спалучаецца трагічнае і радаснае, абцяжарвальнае і натхняльнае. Асноўнай яго прыкметай стала набытая духоўная свабода. І хоць чаканнем яе мы жылі доўгія дзесяцігоддзі, але не заўсёды ўмеем карыстацца прыдбанаю воляй. Але яна ёсць, і мы, стаўшы разняволенымі, вучымся цяпер вольнымі жыць.

Успомнім скіраванасць краіны да сваіх духоўных крыніц і традыцый у 1988-м годзе, калі святкавалася тысячагоддзе хрышчэння Русі. А цяпер Беларусь рыхтуецца ўшанаваць сваю гістарычную дату — тысячагоддзе Полацкай епархіі, тысячагоддзе Праваслаўнай царквы на беларускай зямлі.

Апостальскую пераемнасць і царкоўны лад нашы продкі прынялі з цэнтра старажытнай Русі — Кіева, калі ў 992 годзе быў прысланы ў нашыя землі першы епіскап і заснавана Полацкая епархія, у шэрагу з Наўгародскай, Валынскай і Чарнігаўскай. Сапраўды, беларусы, рускія і ўкраінцы — браты па крыві і па веры браты, бо ахрышчаныя ў адзінай купелі. Асаблівае духоўнае адзінства жыве ў свядомасці славянскіх народаў, у іх царкоўных і культурных традыцыях, якія бяруць свой пачатак ад асветніцкай працы святых роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія, настаўнікаў славянскіх.

Па сваёй сутнасці гэтае адзінства з'яўляецца стрыжнем усіх славянскіх народаў, пра што засведчыла цудоўнае свята славянскай духоўнасці — «Нязгасная лампада». Жыватворчы агонь ад Труны Гасподняй быў пранесены з Іерусаліма праз славянскія землі як агульны сімвал лучнасці, што абнаўляе і ўмацоўвае старажытную веру і паданні бацькоў.

Знамянальна, што гэтая падзея супала для Беларусі з тысячагоддзем усталявання яе царквы, якая дала так шмат сіл для маральнага ўзрастання народа і яго культуры, адкрыла магчымасць усталявання гістарычных і духоўных кантактаў са старажытнай Візантыяй і еўрапейскімі краінамі.

Полацкая і Тураўская землі падаравалі свету вялікіх падзвіжнікаў набожнасці — святцеляў Кірылу і Лаўрэнція Тураўскіх, Міну і Сімяона Полацкіх, правялебную Еўфрасінню Полацкую і Сафію Слуцкую, правялебнага пакутніка ігумена Афанасія Брэсцкага, вядомага асветніка Георгія Францыска Скарыну.

Тысячагоддзе Хрыстовай Царквы ў Беларусі — гэта ўшанаванне шматвяковай хрысціянскай культуры, высокіх маральных традыцый, духоўнага асветніцтва ў нашай Айчыне.

Святкавацца юбілей будзе ў Мінску, Заслаўі і Полацку. Ён распачнецца 25 верасня навуковай канферэнцыяй, вечарам таго ж дня адбудзецца Урачысты акт і канцэрт духоўнай музыкі ў Дзяржаўным акадэмічным вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь, 26 верасня раніцай свята прыйдзе ў Заслаўе, а вечарам у Полацку — манастырскае богаслужэнне. У нядзелю 27 верасня пасля Боскай літургіі — Хрэсны ход да труны правялебнай Еўфрасінні.

Напярэдадні гэтых духоўных урачыстасцей ад усяго сэрца жадаю вам, дарагія суайчыннікі, якія жывуць у роднай Беларусі і за яе межамі, душэўнай радасці, шмат цярпення і трывалай надзеі.

Хай будзе Богаслаўленне з усімі вамі!

**ФІЛАРЭТ, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

Хрысціна ЛЯЛЬКО

# ПРАЗ БОЛЬ І РАДАСЦЬ

Калі асэнсоўваем цяпер вялікую дату — тысячагоддзе хрысціянства на Беларусі, міжволі згадваю словы з несмяротнага рамана Генрыка Сянкевіча «Quo vadis» («Куды ідзеш»): «Але тыя, каму зрабіліся нясцерпнымі гвалт і вар'яцтва, каго прыніжалі, чыё жыццё было суцэльным горам і рабствам, усе прыгнечаныя, усе засмучаныя, усе спакутаваныя ішлі слухаць цудоўную вестку пра Бога, які з любові да людзей аддаў сябе на ўкрыжаванне, каб адкупіць іх грахі.

Знайшоўшы Бога, якога яны маглі любіць, людзі займелі тое, чаго нікому датуль не мог даць тагачасны свет — шчасце любові».

Чытала і перачытвала гэты раман, з сумам думаючы, што ўсё ў гісторыі паўтараецца. Далёкая эпоха Нерона, калі ў паганскім Рыме па волі патрыцыяў і баязліва-тупога правіцеля першых хрысціян разрывалі на цыркавых арэнах дзікія звяры, праз столькі часу паўтарылася на нашай зямлі ганеннем на хрысціянскую веру і вернікаў з тою, хіба, розніцаю, што цыркавыя арэны былі заменены не менш жахлівымі па сваёй жорсткасці гулагамі.

На шчасце, гісторыя паўтарае не толькі страшнае, але і светлае. Тысячагоддзе хрысціянства супала з яго адраджэннем. Святло Ісціны, не задзьмутае скразнякамі бязвер'я, бездухоўнасці, злосці, зноў узыходзіць над пакутнаю зямлёю Беларусі. Ці ж не найлепшы гэта доказ непераможнасці і вечнасці хрысціянскае веры і таго, што Божы Дух — адзіны сапраўдны Уладар гэтага свету. Якую б моц ні набірала сатанінская сіла, які б разгул ні ўчыняла на свеце, прыходзіць час і яна адступае. І над апаганеным, але няскораным, вечным, як само жыццё, Храмам зноў ажываюць званы, славяць Бога і клічуць верны люд на малітву. Пра гэта амаль стагоддзе назад прарока пісаў Мікалай Бярдзяеў: «Наступаюць часы такой тугі духу, такой неабходнасці рэлігійнага вырашэння супярэчнасцей жыцця, што непазбежна штосьці павінна пачацца». Пачынаецца адраджэнне самой рэлігійнасці ў народзе, адраджэнне веры, бо многія з нас ужо зразумелі: далей гэтак бяздумна, бездухоўна жыць нельга, пагоня толькі за матэрыяльным прыводзіць грамадства да краху, да жабрацтва. Але як жа цяжка бывае часам пазбыцца звыклых стэрэатыпаў, перайначыць сябе, узвысіцца над тым, што дасюль лічыў ледзь не мэтаю свайго жыцця.

«А сутнасць у тым, што калі святло прыйшло ў свет, то людзі больш упадабалі цемру, чым святло, бо злыя былі іх учынкі» (Св. Еванг. паводле Яна 3, 14—29). Аказваецца, мала таго, каб Святло прыйшло да нас — мы самі найперш павінны быць годнымі яго, каб не хавацца ў цень, баючыся высвецiць свае думкі і справы, а з шчыраю душою і адкрытым сэрцам ісці яму насустрач.

Калі разважаю над глыбокім сэнсам хрысціянскае веры, вельмі часта ў думках вяртаюся ў сваё маленства, да тых сваіх першых і такіх светлых момантаў спасціжэння яе сутнасці, ці, хутчэй, можа, нават проста судакранання дзіцячае душы з вялікім і прыцягальным яе святлом, з адкрыццём яе найпершых таямніц.

...Святы Вечар. Куцця. Ужо стаіць у хаце прыбраная ялінка, ужо прынесена з гумна і разаслана на стале пад белым абрусам жменя мурожнага сена, ужо даўно цякуць галодныя посныя слінкі ад паху смажаных у алеі баравікоў, ад салодкага водару румяных галушак — набрынялыя цёртым макам, яны стаяць пасярод стала ў глінянай місе. Але яшчэ сквірчаць на пліце вушкі з грыбамі; яшчэ толькі-толькі пасінеў змрок за акном, і не ўзышла яшчэ на небе тая першая, Вефлеемская зорка, якой я так чакаю: каторы ўжо раз нецярпліва выбягаю з цёплай хаты на ганак і з надзеяй пазіраю ў глыбокае, таемнае неба. І, нарэшце, бачу яе: яна загараецца проста над нашым гумном — вялікая, яркая, прамяністая. Пазнаю яе адразу, бо бачыла ўжо на калядпай паштоўцы над яселькамі маленькага Езуса... Кулём кідаюся ў хату, каб першай абвясціць радасную навіну маме. Яна запальвае на святочным стале вялікую свечку, а я, стаўшы перад ялінкай на табурэтку, палю маленькія рознакаляровыя свечачкі.

Потым усёю сям'ёю гаворым «Ойча наш» і, стоячы, ломім з бабуліных рук белы, танюткі аплатак, складаем узаемныя зычэнні. Спакой, лагода і разуменне пануюць у нашай хаце.

Глыбокі сэнс таго Святога Вечара, тае духоўнае еднасці ў веры я спасцігла значна пазней, але на ўсё жыццё асталося ў памяці ўпершыню адчутае ў маленстве высокае хваляванне і першыя чыстыя слёзы любові да ўсіх, хто быў побач, і праз іх, блізкіх, да ўсяго свету.

...Таемна адбіваюцца ў цёмным акне мігатлівыя агеньчыкі свечак, святочна пераліваюцца бліскучыя цацкі на ялінцы, ціха пазвоньваюць відэльцы, плыве гамонка, і над усім гучаць урачыста-прыгожыя калядныя песні... Іх цэлы вечар перадае польскае радыё.

Цяпер, калі згадваю тыя светлыя святыя вечары, да ўзнёслае радасці дамешваецца боль. На працягу стольких гадоў наш народ не меў магчымасці пачуць ні Божага благаслаўлення на роднай мове, ні песень сваіх святых па-беларуску. Беларусам-католікам адчуць свята дапамагала, дый цяпер дапамагае, польскае радыё. І каго маем вінаваціць у гэтым? Мяркую, што найперш саміх сябе, бо прыйшоў ужо час не толькі шукаць вінаватых збоку, сярод суседзяў, але й цвяроза зірнуць на свае справы і ўчынкі. Бо і цяпер, ужо ў гэтыя, такія адрозныя ад часу майго маленства, гады, усё яшчэ баімся пусціць Божае слова ў эфір. А калі ўсё ж асмельваемся даць на тэлебачанні некалькі хвілін святару, то абавязкова абстаўляем яго фальклорным, ледзь не паганскім відовішчам, ператвараючы ўсё ў бутафорыю. У вернікаў такія, з дазволу сказаць, імправізацыі выклікаюць толькі нязгоду, пярэчанне і боль. Не хутка, відаць, здолеем мы перабудаваць сваю псіхалогію, атручаную шматгадовым, па словах Купрына, «худосочным, припадочным» атэізмам.

І ўсё ж... Так хочацца спадзявацца, што тысячагадовая хрысціянская вера, якая гэтулькі перацярпела за сваю гісторыю, але выстаяла і цяпер перажывае сваё адраджэнне, дапаможа нацыянальнаму адраджэнню айчыны, што хрысціянства будзе яднаць нацыю, а не раз'ядноўваць, што ўрэшце вернікі прычакаюць таго светлага часу, калі ва ўсіх храмах на Беларусі размова з Богам будзе ісці на роднай мове.

«Quo vadis, Domine?» — спытаў апостал Пётр, сустрэўшы Езуса на дарозе ў гінучы Рым.

«Куды ідзеш, чалавек?» — пытаецца ў нас сёння сам Хрыстус.

Кожнаю сваёю думкаю, словам, учынкам, кожным пражытым днём мы адказваем Яму. Памятайма пра гэта.

Канстанцін ЛАМАКА,
прэсвітэр Мінскай царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ)

# БОГ ЁСЦЬ ЛЮБОЎ

Баптысты. Да нядаўніх часоў само слова гэта атаясамлівалася з асаблівай ступенню жорсткасці, зла. Не глядзець тэлевізар, не наведваць бібліятэку, тэатр, кіно — усё жыццё за глухой сцяною малітоўнага дома,— вось вобраз, што сфарміравала ва ўяўленні многіх людзей наша атэістычнае невуцтва, кнігі найбольш спрытных савецкіх пісьменнікаў, якія жыва апісвалі ледзь не фанатычныя, варварскія абрады братоў і сясцёр у Хрысце, страшэнныя кары, на якія яны асуджалі вераадступнікаў.

Які ж у сапраўднасці Бог гэтых людзей? Паспрабую растлумачыць.

Упершыню пераступіўшы парог нашай царквы, недасведчаныя са здзіўленнем азіраюцца навокал. У нас няма звыклага для храмаў таямнічага прыцемку, безлічы свечак ля лікаў святых, няма абразоў і зіхатлівага ўбрання. Светлая чыстая зала, роўныя рады крэслаў, прэзідыум, кафедра. І толькі на пярэдняй сцяне над сцэнай адліваюць золатам адлюстраванні крыжа, Евангелля, чашы з цярноўнікам і вінаградам, а таксама дэвіз: «Бог ёсць любоў». Служыцелі царквы ў звычайных свецкіх касцюмах.

Сімвалы царквы ЕХБ пабудаваны строга на аснове Святога Пісання, яны існуюць у хрысціянстве здаўна. Крыж — увасабленне пакут, якія дараваны нам і ўмацоўваюць дух цярплівых і праведных. Даючы настаўленне дванаццаці вучням Сваім, Хрыстос гаварыў: «І хто не бярэ крыжа свайго і ня йдзе за Мною, той ня варт Мяне». Адлюстраванне чашы з цярноўнікам і вінаградам пастаянна нагадваюць вернікам аб пакутах і смерці Сына Боскага дзеля вызвалення ад грахоў чалавечага роду. Сімвал жа кнігі — гэта сімвал вучэння, Ісціны Святога Пісання вечныя, бо ніколі пpарочае слова не ажыццяўлялася па волі чалавечай, і, кіруючыся жывым Словам Госпада, кожны з нас павінен будаваць сваё жыццё.

Абразы ў хрысціянстве ўзніклі недзе на мяжы VI стагоддзя, царква ЕХБ іх не прымае. Яшчэ ў Старым запавеце гучыць перасцярога: «не пакланяйцеся тварэнню рук чалавечых». Мы не маем дакладнага партрэта Сына Боскага Ісуса Хрыста. Пакланяючыся Богу ў сапраўднасці, чалавек павінен схіляцца не дрэву і металу, а — Ісціне. «...Праўдзівыя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэткіх паклоньнікаў шукае сабе Айцец...» — вучыў Ісус Самаранскую жанчыну. Для царквы ЕХБ недапушчальна ператварыць Храм Божы ў храм мастацкі, куды людзі заходзілі б, каб глядзець на прыгожыя роспісы, адмысловую разьбу, жывапісныя малюнкі, каб пазіраць за цікавымі абрадамі і малебнам.

Без глыбокай унутранай перакананасці чалавек у царкве нібы экскурсант. Вера — вось тое адзінае, што павінна прыводзіць нас сюды. Вернікам варта не называцца, а — быць; служыць Богу не з-за рабскага страху, а па сумленню. «Страх Гасподні — гэта пачатак мудрасці»,— абвяшчаў Саламон. Вера наша павінна быць асэнсаванай, дасягацца душэўнымі намаганнямі. Таму хрышчэнне ў ЕХБ адбываецца толькі свядома.

Наша царква не прымае кананізацыю, бо

лічыць, што ступень святасці вызначаць дадзена толькі Госпаду Богу.

Дэвіз евангельскіх хрысціян-баптыстаў «Бог ёсць любоў» найперш мае на ўвазе любоў Бога да чалавека. Яго стварэння. Любоў гэтая бязмежная і шматдаравальная: каб выратаваць усялякага чалавека, праведніка і злодзея, падвяргаўся пакутам і здзекам, страшэннай смерці Сын Боскі Ісус Хрыстос. І любіць Бога — значыць з любоўю і цярпеннем ставіцца адзін да аднаго, да ўсяго зямнога, што створана Айцом нашым. «Калі я гавару мовамі чалавечымі і ангельскімі, а любві ня маю, то я медзь зьвінячая ці кімвал гудзячы. Калі я маю прароцтва, і ведаю ўсе тайны і ўсякае веданьне, і калі маю ўсю веру, каб і горы перастаўляць, а ня маю любві, дык я нішто. І калі я раздам усю маёмасьць маю і аддам цела маё на спаленьне, а любві ня маю, дык няма мне ніякае карысці... Любоў ніколі ня чэзьне, а вось прароцтвы — і тыя чэзнуць, і мовы змоўкнуць, і вера зьніштожыцца... Рупцеся аб любоў; старайцеся аб духоўнае...» (Першае Пасланне да карынцянаў св. апостала Паўла).

Здавалася б, сёння наша грамадства павярнулася тварам да святой веры. Але аснова жыцця па-ранейшаму грэшная. Сказана: не ствараў куміра, бо прыйдзе антыхрыст, а мы і яму паклонімся. Бедны наш народ, пустыя паліцы магазінаў, шмат гора і слёз,— аднак людзі не йдуць тварыць Дабро згодна Божых запаведзяў, а кінуліся за імгненным шчасцем да ведзьмакоў, вешчуноў і іншай сатанінскай сілы. Антыхрыст — гэта не кніжны герой, а рэальная асоба, якая нясе маральную разбэшчанасць, растленне, калечыць душу чалавечую. «Якая карысць чалавеку, калі прыдбае ён увесь свет, а душу сваю загубіць».

Многія, асабліва моладзь, цяпер сталі часцяком наведваць царкву. Праўда, сувязі іншых з Богам абмяжоўваюцца пастаўленай свечкай... Ніякім чынам гэта не асуджаю. Добра, што сталі прыходзіць. Аднак бясспрэчна, што недастаткова пяці хвілін пабыць у Божым Храме, каб зразумець і сэрцам успрыняць Божыя сціны. Вера спасцігаецца паступова. Мы не дасведчаны ў духоўнай сферы і не ведаем, як адбываецца барацьба за нашы душы. Але менавіта сваёй любоўю павінны мы дапамагаць Богу весці барацьбу са злом, з сатанінскай сілай. Праяўляйце штодзённа цярпенне, велікадушнасць, літасцівасць, пачніце любіць сваю сям'ю, усіх навокал, каб на справе ажыццяўлялась Божы запавет аб бліжнім.

Толькі такім чынам вы зможаце сэрцам прыняць вялікага Настаўніка нашага.

На працягу дзесяцігоддзяў баптыстаў жорстка праследавалі, гналі, скажалі сутнасць нашага веравучэння. Імі палохалі людзей — і што? Хіба стала наша грамадства больш культурным, маральным? Яшчэ зусім нядаўна высокія чыноўнікі «выхоўвалі» мяне: «І вам не сорамна быць баптыстам?» Не, не сорамна! Я — веру, сумленне маё чыстае і перад Богам, і перад людзьмі. Мы нікога не зманьваем у сваю суполку ні сілаю, ні падманам. Членамі царквы становяцца па асабістай волі і перакананню.

Кожная сям'я прыходзіць да веры пасвойму. Двое маіх дзяцей, напрыклад, не прызнаюць яе, а я, жонка і трое астатніх рэгулярна наведваем малітоўны дом. Самае суровае пакаранне ў нас — адлучыць брата альбо сястру, якія моцна правінаваціліся перад грамадой, ад царквы.

У апошні час нам афіцыйна дазволена займацца дабрачыннай дзейнасцю і міласэрнасцю. Летась аднаверцы з Канады, ЗША і Германіі перадалі медыцынскія прэпараты, аднаразовыя шпрыцы: іх мы пераадрасавалі 4-й і 6-й гарадскім бальніцам і бальніцы хуткай дапамогі. Зімою перадалі партыі ласункаў у дзіцячы анкалагічны дыспансер і дзіцячыя дамы сталіцы. Шукаем шляхі, каб быць не толькі распаўсюджвальнікамі гуманітарнай дапамогі, але і самім дапамагаць тым, хто мае патрэбу ў міласэрнасці.

Бог ёсць любоў.

**Міхаліна**

# АЧУНЯЙ, МАЯ СЛАВА! ЗБУДЗІЦЕСЯ, ГУСЬЛІ МАЕ І ПСАЛТЫР!

Творыцца імша.

Мы, што ў тайны спосаб прадстаўляем херувімаў і Жыватворчай Тройцы тройчы сьвятую песьню пяём, адложым цяпер усе жыццёвыя клопаты.

Творыцца імша...

І быў вечар. І была ноч. З цяжка навіслымі хмарамі, з цьмянымі ліхтарнямі, што ледзь прабівалі цемру над мокрай дарогаю, і стоеным у кожным куце густым змрокам. З хворымі людзямі, што бязвольна скурчыліся ў сваіх пасьцелях ды шукалі паратунку ў снох. З працяглым енкам разьбітае скрыпкі, якога ніхто ня чуў...

Але ня было раніцы.

І ніхто не прыйшоў на ранішнюю літургію (як жа ісьці, калі ноч на дварэ?), не прашаптаў звыклыя словы малітвы, ня ўкленчыў, не запаліў сьвечку перад пацямнелым абразом Зыходзячага ў пекла.

Госпадзе ўсемагутны, Божа айцоў нашых, молімся Табе, пачуй нас і зьлітуйся.

І ніхто не адказаў: Госпадзе, зьлітуйся. Бо ніхто не прыйшоў на імшу.

Зьлітуйся з нас, Божа, паводле Тваёй вялікай міласэрнасьці, молімся Табе, пачуй нас і зьлітуйся.

І ніхто не адказаў: Госпадзе, зьлітуйся. Бо ніхто не стаяў на службе.

Хворыя людзі кідаліся ў сваіх ложках ды безнадзейна чакалі на раніцу. Але раніцы ня было. І гучала нячутна разьбітая скрыпка.

Каб нам прыняць Уладара ўсіх, Якога нябачна суправаджаюць анельскія сілы. Алілуя, алілуя, алілуя.

...творыцца імша...

*Але Госпад існуе навекі, Ён паставіў пасад Свой, каб чыніці суд, і Ён будзе судзіць сусьвет па праўдзе і чыніці суд над народамі паводле справядлівасьці. І будзе Госпад прытулкам для прыгнечанага, прытулкам у час тугі. І будуць на Цябе спадзявацца тыя, што ведаюць імя Тваё, бо Ты не пакідаеш тых, што шукаюць Цябе, Госпадзе! (Пс. 9: 8—11)*

Усе промні сыйдуцца ў кропку, і ўсе рэкі й воды сьцякуцца ў кроплю, і сьвет не пазнае сябе. Адбудзецца суд над народамі. Твой суд. Над Тваімі народамі, Божа! Над маім схаваным народам. Нада мной. Ці адбыліся мы? Чыя воля вяла нас? Чыімі мы сталіся?

Не шукаць тлумачэньняў, не шукаць апраўданьняў. Не прынізіць ды не прынізіцца. Не забыцца ні на што — і не прыгадаць нікому. Тады — адкрыецца. Блісьне загублены ў часох шлях. Вернецца пакінутая напярэдзе вера.

Яшчэ і яшчэ ў супакоі Госпаду памолімся.

— Госпадзе, зьлітуйся.

*З прадоньня клічу Цябе, Госпадзе! Госпадзе! Пачуй голас мой. Няхай вушы Твае ўчуюць голас маленьня майго. Калі Ты будзеш помніць правіны, Госпадзе Божа, каму ж устаяці? Ды ў Цябе й дараваньне. Спадзяюся на Госпада, спадзяецца душа мая; слова Ягонага прагну. Чакае душа мая Госпада болей, як варта начная — сьвітаньня, як варта сьвітаньня. (Пс. 129: 1—6)*

Каб нам выбавіцца ад усякага гневу, суму і недастатку, Госпаду памолімся.

— Госпадзе, зьлітуйся.

Няспынна творыцца імша, і прыносіцца ахвяра, і гучыць бясконцая літанія. Мы падыходзім і адыходзім, зазіраем у чужыя храмы, зачаравана слухаем нязвыклыя словы чужога маленьня і застаемся там надоўга, потым ізноў вяртаемся, стаім, сьцішаныя, і зноў сыходзім — з лагодаю ў сэрцы. Ды ніяк не прыступімся да сьвятога прычасьця.

А імша ідзе. Ці з намі, ці бяз нас. За нас.

За Богам сьцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас Госпаду памолімся.

— Госпадзе, зьлітуйся.

Ідзе імша. Ліюцца словы бясконцых літанняў і асьвячаюцца дары.

*Чаму народы бунтуюцца і плямёны дарэмнае задумляюць? (Пс. 2: 1)*

Недзе пасярод дарог на скрыжаваньні туманоў і промняў ляжала зямля. З людзямі вернымі, з душою багатай і чыстай. Пасярод сьвету ды нязнаная сьвету. Бо шмат шукалі загубіць ейную душу з-за прывабнасьці тае зямлі. І глыбока схавалася тая душа ад ліхога вока. Ды так схавалася, што нават дзеці гэтае зямлі згубілі шлях да яе. Адно ў аднога пыталіся, ды адказу ня мелі. І паўставалі адно на аднога, бо не знаходзілі яе. А іншыя бралі іх ды зямлю іхную.

*Госпад будзе сьцерагчы цябе ад усякага зла, будзе душу тваю сьцерагчы Ён. Ахоўваць будзе Госпад выхад твой і ўваход твой ад сяньня й давеку. (Пс. 120: 7—8)*

Цягам усяго жыцьця свайго шукаюць схаваную Матчыну душу дзеці гэтае зямлі ды рэдка знаходзяць, а не знайшоўшы, выракаюцца. Бо мала хто ўзьнімаецца да ейнага сховy. Бо шукаюць ня там. А яна шмат сьвятла й любові дзеля іх назапасіла — ды ня йдуць узяць. Блукаюць...

*Зграшылі мы ды з бацькамі нашымі, правініліся й беззаконьне чынілі. <...> пралівалі кроў бязьвінную, кроў сыноў сваіх і дачок сваіх, якіх прыносілі ў ахвяру ідалам Ханаанскім,— і апаганілася зямля крывёю; апаганьвалі сябе ўчынкамі сваімі, блуд рабілі паступкамі сваімі. І ўзгарэўся гнеў Госпада на народ Ягоны, абрыдла Яму спадчына Ягоная. І аддаў іх у рукі паганаў, і запанавалі над імі тыя, што іх ненавідзелі. І ўціскалі іх ворагі іх, і моцы яны пакарыліся. (Пс. 105: 6, 38—42)*

Каб увесь гэты дзень быў дасканалы, сьвяты, мірны і бязгрэшны, у Госпада просім.

— Дай нам, Госпадзе.

Анёла спакою, вернага настаўніка, апекуна душ і целаў нашых, у Госпада просім.

— Дай нам, Госпадзе.

Прабачэньня і адпушчэньня грахоў і правінаў нашых у Госпада просім.

— Дай нам, Госпадзе.

...Творыцца імша.

*Хай славяць Госпада за ласку Ягоную і за цуды Ягоныя для сыноў чалавечых: бо Ён наталіў душу сасьмяглую і душу галодную напоўніў дабром. Сядзелі яны ў цемры і ў ценю сьмерці, скаваныя мукамі й путамі за тое, што непакорныя былі Божаму слову і волю Найвышэйшага зьневажалі. Ён зьмірыў іх сэрца пакутаю; спатыкнуліся, і помачы ім ня было. Тады крычэлі да Госпада ў тузе сваёй, і Ён уратаваў іх ад іхных бедаў, і вывеў іх з цемры й ценю сьмяротнага і путы ім раскаваў. (Пс. 106: 8—14)*

Ці зразумелі мы свой паратунак?

Галіна САКАЛОВА

# «ЁСЦЬ СІЛА, ЯКАЯ НАКІРОЎВАЕ НАС...»

Я веурую. Дзякую Богу і... маёй дачцэ. Ёй дзесяць, раніцай яна заплятае коскі. Яна, сама таго не ведаючы, навучыла маю душу бачыць. Цераз яе да мяне прыйшоў Бог...

Аб сваёй веры нельга гаварыць гучна. Тым больш пісаць. Але я не пра сябе. Пра наша пакаленне, якое было народжана і вырасла ў страшныя часы татальнага бязвер'я і цынізму. Сёння да некаторых з нас Бог прыходзіць цераз нашых дзяцей.

Яшчэ гадоў пяць назад я не магла нават уявіць, што калі-небудзь пераступлю парог царквы не з пачуццём напаўбяздзейнай цікаўнасці, а з глыбокай пашанай перад вялікай тайнай і жаданнем пазнаць ісціну. Ісціну, якая жыве ў кожным чалавеку, а значыць і ўва мне.

Ёсць прадбачанне. Ёсць сіла, якая накіроўвае нас. Усё пачалося з канцэрта духавой музыкі. Мы з дачкою выйшлі адтуль нібыта іншымі людзьмі. Дакладней, людзьмі, якія зрабілі, можа, самы важны крок у сваім жыцці.

Пазней даведаліся, што пры Кафедральным саборы арганізуецца нядзельная школа. Прызнаюся, завяла туды Аляксандру хутчэй з жадання, каб дачка атрымала хоць якія-небудзь веды пра веру нашых продкаў, чым з рэлігійных меркаванняў. Ужо пасля першых заняткаў, якія вёў айцец Георгій Латушка, усвядоміла, што адкрываю штосьці вельмі важнае і для сябе. Бацькам дазвалялася прысутнічаць на ўроках, пасля мы дзяліліся сваімі адчуваннямі, і я зразумела, што не толькі са мною адбываліся такія змены.

Нашы дзеці ўваходзяць у жыццё ў складаны час. Але з усяго зла, на якое яно багатае, найбольш жахлівае — поўная адсутнасць веры. Веры ў прыстойнасць, дабро, справядлівасць, любоў. У школе ўсю ўвагу зараз удзяляюць вывучэнню прадметаў. Дома бацькі ў асноўным заняты матэрыяльнымі праблемамі. Ніхто не думае аб тым, што ў дзяцей ёсць душы, пра якія трэба клапаціцца не менш, чым аб хлебе надзённым. Самі таго не падазраючы, мы пазбаўляем іх самай дасканалай псіхалагічнай абароны, без якой чалавек проста не можа нармальна развівацца.

Не ў крыўду кажучы прадстаўнікам іншых рэлігій, я лічу, што праваслаўе — гэта цудоўная і зладжаная філасофская сістэма, якая дае чалавеку ключ да пазнання самога сябе. Яна вучыць цярпімасці, духоўнасці, павазе.

Палюбі бліжняга, як самога сябе. Што можа быць больш актуальным у наш век за ўсеагульную абыякавасць да бед блізкіх. Як часта вольна ці міжволі мы прычыняем людзям зло. Але абыходзячыся нядобра з іншым чалавекам, мы кожны раз распінаем у ім Хрыста. Бо ў кожным з нас Яго часцінка.

Як часта, выбіраючы паміж дабром і злом, мы выбіраем апошняе. І не таму, што жадаем камусьці дрэннага. Проста таму, што так прасцей. Дабро патрабуе велізарнай працы душы і самаадрачэння. Не кожны адважыцца на гэта. Без веры, бадай што, гэта і немагчыма.

У Максіміліяна Валошына прачытала: маліцца трэба не за таго, каго гоняць, а за таго, хто гоніць. Ахвяра пакутамі сваімі выкупіла свае грахі. Але часам здаецца, што ўсе мы адначасова і гнаныя і ганіцелі. Дык памолімся ж за сябе.

Кожны вечар мы з дачкою размаўляем аб пройдзеным дні. Што ў ім было добрага, а што не. Гэты духоўны самааналіз дазваляе ўбачыць тое, што ў мітусні раней проста не заўважалася. Напэўна, гэты паварот ад сытай бязбожнасці да трапяткой веры не быў выпадковым. Кожнаму з нас калі-небудзь даецца шанц, трэба толькі не прапусціць момант.

Расказалі такую гісторыю. Адна жанчына звярнулася да старца з пытаннем, чаму бывае цяжка на душы ў храме? Старац параіў ёй крыху пахадзіць у часе службы. Амаль усе прысутныя накінуліся на жанчыну за тое, што яна парушае парадак. «Ці ўсе?» — спытаў старац пад час наступнай сустрэчы. «Не, не ўсе, адна прыхаджанка сказала: «Праходзь, мілая». «Значыць, у царкве ў той момант быў усяго адзін сапраўды веруючы»,— сказаў старац.

Мы павінны быць цярпімымі адзін да аднаго. Гэтаму нас вучыў Ён. Угледзімся ўважліва ў нашых дзяцей. Магчыма, цераз іх з намі гаворыць Бог. Пастарайцеся пачуць Яго. Ваша душа набудзе апору, а жыццё — сэнс. У наш цяжкі час — без гэтага проста не выжыць.



КАНСТАНЦІНОПАЛЬ БЫЎ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ Ў ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫІ ПОЛАЧЧЫНЫ ПА ЎСХОДНЯМУ АБРАДУ, ПОЛАЧЧЫНА — У КАНАНІЗАЦЫІ СВАІХ СВЯТЫХ, А ПРАЗ ІХ — У СЦВЯРДЖЭННІ СВАЕЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ. ВОСЬ ТАКІМІ ПЕРШЫМІ БЕЛАРУСКІМІ СВЯТЫМІ І МАГЛІ ПАЎСТАЦЬ МНІШКА РАГНЕДА-АНАСТАСІЯ, НАБОЖНЫ ІЗЯСЛАЎ І ПАМЁРШЫ МАЛАЛЕТНІМ УСЯСЛАЎ (1003 г.).

# ХРЫС

Як лічаць праваслаўныя багасловы, пранікненне хрысціянства на землі ўсходніх славян можна звязваць з перыядам ад св. Андрэя Першазванага да княгіні Вольгі, г. зн. III—IX стст. ад Н. Х. Але трывала яно пачало прыжывацца толькі ў канцы IX ст. Прычым адразу трэба заўважыць, што ўсходнееўрапейскія прасторы засталіся на той час адзінымі нехрысціянізаванымі землямі Еўропы. Таму тут і скрыжаваліся інтарэсы апостальскага Рыма і Візантыйскай імперыі. Аб тым, што гэта было менавіта так, сведчаць, напрыклад, жыцці, перакладзеныя з латыні на стараславянскую мову, якія мелі распаўсюджанне на землях Усходняй Еўропы: Бенедыкта Нурсійскага, Анастасіі Рымлянкі, святога Віта і інш. Сама княгіня Вольга, якая першая з кіеўскіх князёў прыняла хрысціянства, вяла адначасна гэтага перамовы як з Канстанцінопалем, так і з Рымам. Яна звярнулася да германскага імператара Атона I (936—973) з просьбаю прысласць у Кіеў святароў, што тлумачылася яе няўдалымі перамовамі з візантыйскім імператарам Канстанцінам VII Багранародным пад час паездкі ў Канстанцінопаль у 957 г. Безумоўна, на той час сама Вольга трымалася яшчэ паганскае веры.

Найбольшую цікавасць для нас уяўляе епіскапская «Сага аб хрышчэнні», запісаная ў канцы XIII ст. аб падзеях канца X ст. Галоўнай дзеючай асобай аповеду з'яўляецца Торвальд Вандроўнік. Гэты чалавек, узведзены пасля смерці ў сан святога, прымаў чынны ўдзел у хрысціянізацыі Ісландыі. Адтуль ён выправіўся ў Іерусалім, дзе быў у вялікай пашане ў самога імператара і Канстанцінопальскага патрыярха. Здзейсніўшы духоўны подзвіг паломніцтва, Торвальд вяртаўся ў Скандынавію цераз Кіеўскую Русь. Тут ён пакінуў па сабе памяць у выглядзе заснаванага «в Русии» манастыра Іаана Хрысціцеля. Са спасылкаю на скальда Бранда Вандроўніка, сага апавядае, што Торвальд памёр, так і не дайшоўшы да сваёй ра-

*У патоку хрысціянскай інфармацыі нават спрактыкаванаму ў гісторыка-багаслоўскіх пытаннях чалавеку цяжка зразумець, адкуль узялося хрысціянства на Беларусі, якім яно было першапачаткова, як развівалася. У лепшым выпадку ў свядомасці засталіся імёны сапраўдных волатаў хрысціянскай культуры: Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўраамія Смаленскага, Сімяона Полацкага. Разам з тым, апісанне працэсу хрышчэння Усходняй Еўропы звялося да прыняцця рэлігіі св. князем Уладзімірам, хрышчэння кіяўлян, наўгародцаў. Пасля — да гісторыі кіеўскіх, наўгародскіх, пскоўскіх і падмаскоўных манастыроў. Пазней — да вядомай догмы: «Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не быць», да аб'яднання ўсходнеславянскага праваслаўя вакол маладой Маскоўскай дзяржавы.*

*Складалася ўражанне, што больш чым тысячагадовая гісторыя Беларусі ў гэтым ваколсвяточным «рушэнні» калі не ігнаравалася свядома, то, як бы мовіць, выпала. Але на самай справе мы маем вынік шматвяковай расейскай імперскай палітыкі ў галіне навукі і культуры, які, дарэчы, з зайздросным імпэтам быў падхоплены праваднікамі камуністычнай ідэалогіі. Стары-новы дагмат аб тым, што Беларусь — колішняе Полацкае княства — была састаўной часткай (правінцыяй) Кіеўскай Русі, меў на ўвазе, што і хрышчэнне гэтых зямель нічым не адрознівалася ад Кіева ці Ноўгарада. Але ці так гэта было на самай справе? Надышоў час паставіць і гэта пытанне.*

**Сяргей ТАРАСАЎ,**
**навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь.**

# АДКУЛЬ ПРЫЙШЛО ...ЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСЬ?

...дзімы, і пахаваны «ў высокай гары па рэчышчы Дроўна», «каля царквы Іаана Хрысціцеля, непадалёк ад Полацка». Гэтая сага — першы па часе дакумент або твор, у якім прыгадваюцца хрысціяне на землях Полацкага княства. Нагадаем яшчэ раз, што апісаныя ў ёй падзеі датуюцца канцом X ст. Мабыць, гэта не выпадкова. Па-першае, таму што ўжо ў канцы X ст. Полацкая зямля аформілася як самастойнае незалежнае княства. Яе першы летапісны князь Рагвалод як паўнапраўны гаспадар «трымаў, валадарыў і княжыў» Полацкую зямлю. Па-другое, Рагвалод хутчэй за ўсё быў выхадцам з паўночнай Нарвегіі, фюлька (воласці) пад назвай Рогаланд. Таму зразумела, чаму другі скандынаў —Торвальд Вандроўнік вырашыў заснаваць манастыр менавіта ў Полацку.

Манастыр Іаана Хрысціцеля (Прадцечы) на Востраве ў Полацку дакументальна фіксуецца ў старажытных крыніцах з XIV ст. Некаторыя даследчыкі адносяць яго ўзнікненне да XII ст. Але рэшткі самога манастыра дагэтуль не знойдзены. Археалагічнымі і геафізічнымі даследаваннямі апошніх гадоў вызначаны толькі месцы перспектыўных пошукаў. Што да «высокай гары», то такая існуе і сёння непадалёк ад былога манастыра. Пад час вайны 1812 г. на ёй была збудавана артылерыйская батарэя, пазней — курган Славы 1941—1945 гг. Няма падстаў сумнявацца, што сага прыгадвае менавіта Полацк і полацкі манастыр. Што ж да даты заснавання манастыра, то дакладна яе вызначыць могуць толькі археалагічныя даследаванні. Прычым, калі будуць знойдзены рэшткі мураваных пабудоў (а мураванае дойлідства пачало распаўсюджвацца на Полаччыне толькі з другой паловы XI ст.), то варта памятаць, што першыя хрысціянскія храмы на нашых землях былі ўсё-ткі драўлянымі, а манастыры пячорныя, як, напрыклад, у Кіеве, Пскове, нарэшце, і ў Палессіне.

Факт існавання ў Полацку напрыканцы X ст. хрысціянскага манастыра дазваляе крыху іначай паглядзець на асобы першых полацкіх князёў — Рагвалода і яго дачку Рагнеду. Шырока вядома летапіснае паданне, па якім барацьба за руку Рагнеды разгарэлася паміж кіеўскім князем Яраполкам Святаславічам і яго братам Уладзімірам Святаславічам наўгародскім, будучым хрысціцелем Русі. Абодва князі, як сведчаць крыніцы, былі паганцамі: Яраполк ужо меў жонку і Рагнедзінай рукі прасіў у якасці другой жонкі. Абодва — і Яраполк, і Уладзімір — пакланяліся стодам (ідалам). Але ці была язычніцкай веры Рагнеда? Тое, што яна згаджалася стаць другой жонкай Яраполка, сёння ўжо не можа быць бясспрэчна прынята ў якасці доказу яе паганскае веры. Заручыны і жаніцьба на той час былі актам глыбока палітычным. Па-другое, ёй, безумоўна, была добра вядомая гісторыя княгіні Вольгі — бабкі Уладзіміра і Яраполка, якая, стаўшы хрысціянкаю, кіравала народам паганскае веры і жыла ў яго асяроддзі. А гэта быў вялікі духоўны подзвіг. Па-трэцяе, на той час у Полацку ўжо існаваў хрысціянскі манастыр на Востраве. А як вядома, галоўную стаўку ў місіянерскай дзейнасці святары рабілі на прадстаўнікоў княжацкай улады, баяраў і дружыну. Так адбывалася паўсюдна: у Заходняй Еўропе, у Скандынавіі і, як мы ведаем, ва Усходняй Еўропе. Таму пазбегнуць такога ўздзеяння не магла ні Рагнеда, ні яе бацька — Рагвалод. Нарэшце, чацвёртае,— само летапіснае паданне і сведчанне Цвярскога летапісу: Рагнеда ў замужжы робіць замах на жыццё Уладзіміра. «За тое,— тлумачыць яна,— што бацьку майго забіў і зямлю яго ў палон узяў, а зараз не любіш ні мяне, а ні сына нашага». Як магла жанчына, адна з сямі афіцыйных жонак Уладзіміра-паганца, падняць на яго руку? У тагачасных умовах усеабдымнага патрыярхату, адпаведна агульнаеўрапейскаму рыцарскаму кодэксу гэта немагчыма было нават уявіць! Прасцей за ўсё ўчынак Рагнеды можна было б растлумачыць звычайнай жаночай рэўнасцю. Што, дарэчы, і рабіла большасць гісторыкаў. Але якая магла быць рэўнасць, калі мнагажонства ў тагачасным усходнеславянскім грамадстве — рэч больш чым звычайная. Яна — норма жыцця і залежала толькі ад сацыяльнага становішча мужчыны, яго магчымасці пракарміць адну ці сем жонак. І галоўнае, на той час такое палажэнне жанчыны не было для яе абразлівым, хутчэй наадварот. Яе адносіны з мужам вызначаліся колькасцю народжаных дзяцей. Чым больш іх было, тым больш прыязнымі былі адносіны. А як вядома, Рагнеда нарадзіла Уладзіміру: Ізяслава (будучага князя полацкага), Мсціслава (князя чарнігаўскага і тмутараканскага), Яраслава Мудрага (князя наўгародскага, затым — кіеўскага), Усевалада ды яшчэ дзвюх дачок.

Абразлівым становішча Рагнеды нам, сённяшнім, можа падацца толькі таму, што ўсе мы, атэісты ці вернікі, нясём у сваёй свядомасці хрысціянскія пастулаты, якія сталі заканадаўчымі нормамі нашага жыцця, адзін з якіх — кожны муж павінен мець адну жонку і наадварот: кожная жонка — аднаго мужа. Таму абразіцца Рагнеда магла толькі ў тым выпадку, калі была хрысціянкаю, а тым больш — першаю (!) афіцыйнаю жонкаю Уладзіміра. Усе астатнія — пасля яе. Апрача таго, дадалася помста за бацькоў, забітых Уладзімірам, за абрабаваную вотчыну — Полаччыну. Калі ж Рагнеда разам з сынам Ізяславам была выслана з Кіева, а Уладзімір тым часам ажаніўся ў чарговы і апошні раз з дачкою візантыйскага імператара і прыняў хрысціянства, ён прапанаваў Рагнедзе выбраць сабе мужа з яго акружэння. Гордая Рагнеда адмовілася, заявіўшы, што ў такім выпадку яна лепш стане нявестаю Хрыстовай. Пасля чаго

Заканчэнне на стар. 14—15.







Ад 862-га года нашай эры пачала свой адлік місія першаасветнікаў язычніцкіх славянскіх плямёнаў св. Кірылы і Мяфодзія.

Год 862-гі і год 1992-гі.

Паміж гэтымі датамі — нават цяжка ўявіць! — 1130 гадоў.

Цэлая Вечнасць.

Менавіта Вечнасць, бо Нязгасную лампаду, запаленую 25-га красавіка ад велікоднага агню каля Гроба Гасподня на святой зямлі Іерусалімскай, паломнікі пранеслі амаль што праз палову свету па тых знакамітых мясцінах, дзе некалі неслі славянам святло пісьменнасці і культуры браты-святары. Праз Турцыю, Грэцыю, Балгарыю, Венгрыю, Чэха-Славакію, Польшчу, Украіну, каб трапяткі агеньчык запалаў надзеяй на духоўнае адраджэнне і на шматлюднай плошчы Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Прыйшло свята славянскай пісьменнасці і культуры і на нашу незалежную вуліцу!

20 мая Нязгасную лампаду славянскай духоўнасці віталі мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Стані-

# ...І ЛАМПАДЫ





слаў Шушкевіч, кіраўнікі горада, мінчане і госці сталіцы.

Віталі Нязгасную лампаду тысячы вернікаў.

Віталі песнапеннем рэлігійны хор і харавая капэла АН Беларусі.

Вітаў маёвы вецер, які ласкава кранаў сваім крылом святочныя харугвы Хрэснага ходу, што велічна і павольна браў накірунак ад плошчы Незалежнасці да Кафедральнага сабора, дзе ў гонар Нязгаснай лампады адбылася велікодная вячэрня.

Нязгасная лампада начавала ў Мінску...

А раніцой — прадоўжыла свой шлях у Маскву, на спатканне з Кірылам і Мяфодзіем.

Свяшчэнны агонь лампады, запалены ад велікоднага агню Іерусалімскага храма Гроба Гасподня, 24 мая, у нядзелю, асвяцію на Славянскай плошчы новы помнік братам-асветнікам, і яны, Кірыла і Мяфодзій, прад вачыма тысяч масквічоў сталі з крыжам у руках нібыта жывыя.

...Хоць мінула 1130 гадоў Вечнасці.

**Іосіф КАЛЮТА,**
**Сяргей БРУШКО (фота).**

# НЯЗГАСНЫ АГОНЬ

# ШЛЯХ НЕМАРКОТНЫ

## *ПРАВЕДНАЯ САФІЯ, КНЯГІНЯ СЛУЦКАЯ*

Сафія Юр'еўна Алелькаўна, князёўна, а потым — княгіня Слуцкая, належала да дабрачэснага роду тых старадаўніх жанчын, якія звярнулі на сябе ўвагу сучаснікаў не веліччу аскетычных подзвігаў, не пакутніцкай гібеллю, але тым, што асвятлілі Дом Хрыстовы ўміраным, прыстойным, дабраталюбным, хоць далёка не ціхамірным жыццём у свеце, здолелі процістаяць ілжы і марнасці зямнога быцця, часта цярпелі нягоды і пакуты, але не спаганілі душу грахом адчаю, жывучы ў цноце і чысціні, і былі закліканы Госпадам, Які спаслаў на іх міласць Сваю і любоў.

Святая праведная Сафія паходзіла са слаўнага старадаўняга роду Алелькавічаў, нашчадкаў унука вялікага князя Літоўскага Альгерда — Алелькі (Аляксандра) Уладзіславіча. Род гэты даў свету нямала доблесных і хрысталюбных мужоў і дабрачэсных жанчын.

Так, дзед святой Сафіі, Юрый Юр'евіч, пасля смерці брата свайго Сямёна, што князяваў у Слуцку, вылучаўся шчырым дабравер'ем. У духоўным сваім завяшчанні (ад 6 кастрычніка 1578 г.) ён, падзяліўшы гарады паміж трыма сынамі, запавядаў ім апекавацца, падобна яму, над Слуцкім Троіцкім манастыром, не адбіраць у абіцелі дадзеных ім міласцін, захоўваць добрасную павагу да архімандрыта манастыра — мужа дастойнага і вучонага, цвёрда трымацца праваслаўнай веры. Гэты вялікі ўшанавальнік праваслаўных святыняў і любіцель кніжнай мудрасці вядомы ўласнаручна перапісаным Евангеллем, дадзеным у дар святой абіцелі інакаў; акрамя гэтага, захаваліся граматы князя Юрыя і ягонай жонкі Кацярыны з роду Танчынскіх аб слуцкіх цэрквах і манастырах.

Бацька шчаснай Сафіі Юрый Юр'евіч II аказаўся адзіным з трох сыноў, верным памяці свайго бацькі, які выканаў бацькавы запаветы. У той час як малодшыя браты Іван-Сімяон ды Аляксандр перайшлі ў каталіцтва, Юрый Алелькавіч не здрадзіў веры бацькоў і звычаям сваіх продкаў. Спрабуючы процідзейнічаць прыгнечванню веры ўсходняга абраду, ён адначасова жадаў узнавіць і былую веліч роду, які цярпеў уціск з прычыны канфесіянальнае прыналежнасці ягоных прадстаўнікоў, быў пазбаўлены кіеўскага княжання, а пасля — нават і месца ў літоўскім сенаце. Дабрачэсны князь Юрый, як і бацька яго, быў шчодры дарыцель для цэркваў і манастыроў (вядомы ахвяраваны ім у 1580 г. Благавешчанскай царкве Свята-Троіцкага манастыра настаяцельскі посах літага срэбра), з'яўляўся іх апекуном і добрасумленным прыхаджанінам. Юрый Юр'евіч быў жанаты з Кацярынаю з роду Кішак; ад гэтага нядоўгага шлюбу, які трываў менш як год, і нарадзілася ў 1586 г. (часам называецца 1 траўня 1585 г.) іх адзіная дачка, апошні парастак роду Алелькавічаў. Нібы ў азнаменаванне будучай мудрасці ды руплівасці аб праваслаўі, ахінутым добрасцю Мудрасці Божай, князёўну Алелькаўну назвалі ў святым хросце Сафіяй. І ці мог тады хто-небудзь здагадацца пра поўны смутку жыццёвы шлях, наканаваны Сафіі!

Калі немаўляці не споўнілася нават і года, скanала маці яе, а неўзабаве — 6 траўня 1586 г. — і сам князь Юрый. Так, яшчэ ў калысцы асірацеўшы, але стаўшы багатаю спадчынніцай, дзіця было аддадзена на выхаванне і пад апякунства ў сям'ю Хадкевічаў — спачатку да старасты жмудскага Юрыя (які пераве́з дзяўчынку ў сталіцу княства — Вільню), а пасля — брэсцкаму старасце, віленскаму кашталяну Іераніму, якія даводзіўся дзядзькам Сафіі.

Выяўляючы вонкавы клопат пра адзіную князёўну Слуцкую, Хадкевічы мелі, аднак, карыслівыя мэты. Апынуўшыся ў даўгу ў Радзівілаў, яны вырашылі аплаціць яго пасагам малалетняй князёўны — Слуцкім княствам — і сасваталі адзінаццацігадовую Сафію за князя Януша Радзівіла, сына віленскага ваяводы Крыштафа і ўнука знакамітага Мікалая Рыжага. Дагавор быў замацаваны пісьмовым дакументам, які пацвярджаў, што па дасягненні дастатковага ўзросту Сафія будзе аддадзена за нясвіжскага князя, прычым быў указаны нават і тэрмін вяселля — 6 лютага,— усё гэта пры адзінай умове, што нявеста не зменіць свайго (!) рашэння. Гэтага, урэшце, не надта асцярагаліся, бо князёўна была пакорная волі апекуноў нават насуперак свайму сэрцу, у якім былі мары пра іншае жыццё, вольнае ад свецкіх спакус і бед — жыццё, абяцанае Нябеснаму Жаніху.

Аднак усё гэта было толькі самым пачаткам будучых засмучэнняў.

Неўзабаве зноў усплылі грашовыя рахункі двух знакамітых родаў, у выніку чаго Хадкевічы ўчынілі спробу скасаваць заручыны сваёй выхаванкі з Янушам — зусім не клапоцячыся аб тым, што другі ўжо раз зняважаюць князёўну Сафію. Радзівілы, не жадаючы адмаўляцца ад пасагу багатай спадчынніцы, узбудзілі іск, па якім Хадкевіч асуджаны быў трыбуналам да выплаты 100 тысяч коп літоўскіх грошай няўстойкі альбо — у выпадку адмовы — да пазбаўлення правоў і выгнання. Кранугы за жывое князь Іеранім паказаў на дзверы Янушу, які працягваў заляцанні да Сафіі ў доме яе апекуна. Па меры набліжэння да вяселля страсці абвастраліся. Страціўшы надзею прыйсці да згоды мірным шляхам, абодва бакі збіралі войскі. Па закліку віленскага ваяводы і літоўскага гетмана Крыштафа Радзівіла пад яго сцяг прыйшлі тры сыны князя Канстанціна Астрожскага з 1600 вершнікамі і 70 гайдукамі, смаленскі ваявода Абрамовіч з 50 вершнікамі і шмат іншых ліцам да 6000. Хадкевіч сабраў да 1600 вершнікаў і 600 чалавек пяхоты — колькасць, якой зусім хапала для абароны ператоранага ў непрыступную крэпасць віленскага дома, які стаў турмою для юнай князёўны Сафіі,— аснашчанага да таго ж 24 гарматамі. Маладая нявеста безупынна маліла Бога спыніць немінучае кровапраліцце, прычынай якога міжволі стала сама. Пра тое ж, наколькі пагрозлівымі былі маштабы бедства, сведчыць пасланне ад 17 студзеня вельмі зацікаўленага ў гэтым міжканфесіянальным саюзе уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея, адрасаванае намесніку Слуцкага манастыра Ісаю Сабалеўскаму і ўсяму слуцкаму духавенству аб тым, каб яно малілася за шчаслівае заканчэнне цяжбы і запаведала трохдзённы пост. Акрамя уніяцкага мітрапаліта, сам кароль хадайнічаў аб прадухіленні бою, схіляючы абодва бакі да міру.

Каралеўскія паслы, аднак, не мелі поспеху, і 6 лютага ўсё было падрыхтавана да бітвы. Але Божая воля не дапусціла бессэнсоўнага кровапраліцця, і Радзівіл,— магчыма, ацаніўшы сітуацыю не на сваю карысць, адступіў. Неўзабаве паміж няўдаўнімі ворагамі зноў было дасягнута пагадненне аб тым, што Радзівілы, у абмен на руку князёўны, перапыняюць любыя грашовыя прэтэнзіі, а таксама засведчаць правільнае вядзенне спраў па апецы над майном нявесты (з чаго відавочны вывад, як несумленна абіралася апекунамі непаўналетняя наследніца). Новы дзень вяселля быў прызначаны на нядзелю 1 кастрычніка 1600 г., на свята Пакрова Багародзіцы, якой нібы ўручала свой лёс няшчасная нявеста. Аднак незадоўга да вянчання аказалася нявырашанаю яшчэ адна праблема. Занятыя меркантыльнымі клопатамі і звадкамі, відаць, забыліся спытаць у нявесты, ці жадае яна змяніць сваю веру дзеля шлюбу з жаніхом, які належаў да іншай канфесіі.

Але ж вера продкаў — адзінае, што заставалася ў Сафіі ад бацькаўскае спадчыны, і яна рашуча адмовілася здрадзіць ёй, хоць падобныя здрады праваслаўю былі нібы ў парадку рэчаў у тыя смутныя часы. Больш таго, Сафія настойвала яшчэ і на тым, каб і дзеці яе ад будучага шлюбу хрысціліся ў праваслаўе; гэта было адзінай, але непарушнаю ўмовай князёўны. Князю Янушу (які сам не звяртаў асаблівай увагі на пытанні веры і неўзабаве, здрадзіўшы каталіцтву, звярнуўся да кальвінізму) прыйшлося спешна прасіць дазволу ў Рымскага папы. Дазвол быў атрыманы, і шлюб адбыўся ў прызначаны тэрмін па праваслаўным абрадзе ў адным з берасцейскіх сабораў.

Ці была шчасліваю ў шлюбе з князем Янушам, які марнаваў жыццё ў пустых клопатах і забавах, яго маладая жонка? Наўрад. Усю сваю любоў і руплівасць аддавала блажэнная княгіня на праваслаўныя манастыры і храмы, на сцвярджэнне і захаванне праваслаўнае веры ва ўмовах распачатага насілля уніі. Слуцк, які ёй належаў, Сафіяператварыла ў цвярдыню праваслаўя, адну з нешматлікіх, а можа, і адзіную ва ўсім краі, якая выстаяла.

Маладая княгіня не толькі аказвала матэрыяльную і маральную падтрымку духавенству і слуцкім месцічам, якія аб'ядналіся ў Праабражэнскім брацтве, але і сама брала актыўны ўдзел у яго дзейнасці. Яна не толькі ахвяравала ўласнаручна вышытыя золатам царкоўныя рызы, выдзяляла сродкі для пабудовы храмаў, учыняла паломніцтвы ў аддаленыя цэрквы пад час храмавых святаў. Больш за тое: ёй удалося пераканаць мужа, каб дабіўся ў караля граматы аб забароне насільнага далучэння праваслаўных да уніі ў сваіх уладаннях, забяспечыўшы і юрыдычную абарону прыгнечанага праваслаўя.

Бог доўгі час не пасылаў Сафіі шчасця мацярынства, а калі ж завяршыўся прызначаны тэрмін, княгіня нарадзіла мёртвую дачку і сама скanала ў родавых муках 19 сакавіка 1612 г.

У памяць пра жыццё і дабратворствы княгіні Сафіі яна была ўрачыста пахавана ў Слуцкім Свята-Троіцкім манастыры ў свінцовай рáцы, над якою пазней быў зроблены надпіс: «1617 г., сакавіка 19 скanала дабраверная Сафія, князёўна Слуцкая Алелькаўна Юр'евічаўна, Альгердава племя, і была пакладзена ў Слуцку ў манастыры Святой жывапачынальнай Троіцы».

Гасподзь, Які бачыць у тайноце і дае яўна, уславіў святую княгіню Сафію нятленнем і цудатворствамі каля грабніцы яе.

Цяпер нятленныя мошчы, перанесеныя ў Мінскі Свята-Духаў кафедральны сабор, адкрыта спачываюць праваруч алтара, нагадваючы ўсім наведвальнікам храма пра добрасны подзвіг святой дабравернай слуцкай князёўны Сафіі, якая жыла ў Хрысце і была ўслаўленая Ім.

*Аляксей МЕЛЬНІКАЎ,*
**кандыдат філалагічных навук.**



**Малюнак Арлена КАШКУРЭВІЧА.**

Ганарар за ілюстрацыю аўтар просіць пералічыць у Акцыянерна-камерцыйны банк «Прыарбанк» г. Мінска, разліковы рахунак 700818, код 749 на рэстаўрацыю сабора св. Пятра і Паўла ў Мінску.

**Калі б я быў мастаком,**
**дык намаляваў бы**
**два партрэты князёў,**
**якіх нашыя жывапісцы**
**не надта песцяць увагаю.**
**Асветнік Ізяслаў**
**схіляўся б над кнігаю,**
**чытаючы выведзеныя**
**на пергаменце пісьмёны,**
**а Брачыслаў гуляў бы**
**з Эймундам у шахматы,**
**абдумваючы**
**паход на наўгародцаў.**
**У кагосьці**
**з мастакоў-прафесіяналаў**
**з'явіцца на вуснах**
**паблажлівая ўсмешачка.**
**Я ж магу**
**толькі нагадаць ім,**
**што ўсе еўрапейскія**
**народы даўно маюць**
**поўныя партрэтныя галерэі**
**заснавальнікаў**
**сваіх дзяржаў.**



# АД РАГВАЛОДА

**Уладзімір АРЛОЎ**

Калі вы знайшлі вольны дзень на падарожжа ў полацкую гісторыю, пераадолейце спакусу і пачніце яго не ад велічнай Сафіі, што, кажучы словамі Уладзіміра Караткевіча, «плыве над Дзвіною, нібы карабель». Прыйдзіце спачатку на зялёны бераг Палаты, туды, дзе недалёка ад Чырвонага моста стаіць сціплая стэла з надпісам: «Гарадзішча. Помнік археалогіі IX стагоддзя».

Вось тут некалі і вырас першы, яшчэ цалкам драўляны Полацк, упершыню ўспомнены ў «Аповесці мінулых часоў» у сувязі з дзяльбою гарадоў наўгародскім князем Рурыкам. Праз тры гады пасля гэтага, у 865-м, сюды прыйшло кіеўскае войска князёў Аскольда і Дзіра, што, як паведамляе Ніканаўскі летапіс, «ваявалі палачанаў і шмат зла ўчынілі», а ў выніку на нейкі час зрабілі горад залежным ад Кіева.

Тагачасны Полацк — гэта абнесены драўлянымі сценамі, абведзены валам ды ровам граддзядзінец, плошчаю ўсяго 1 гектар, а таксама неўмацаваны вакольны горад, дзе жылі рамеснікі. Яны сяліліся і каля княжага дзядзінца, і трохі далей, дзе цяпер стадыён. Полацк меў тысяч пяць жыхароў — крыху меней за Кіеў і Ноўгарад і болей за любы іншы ўсходнеславянскі горад.

У 907, 911, 941 і 944 гадах полацкія дружыны, даручыўшы лёс Перуну, выходзілі адсюль у паходы на далёкі Царгорад-Канстанцінопаль, сталіцу Візантыйскае імперыі. Паганскі бог вайны спрыяў продкам. Полацк мы знаходзім у пераліку гарадоў, якім Царгорад плаціў даніну. Сілу галоўнай крывіцкай цвярдыні ведалі і паўночныя суседзі. У скандынаўскіх сагах ён згадваецца дзесяткі разоў пад назваю Палцеск'я — ад старажытных усходнеславянскіх найменняў Полацеск, Полцеск, Полацьск. Аўтару адной сагі нават прымроіліся вакол горада каменныя сцены.

Кожны з нас сустракаўся з тым, што Полацк называюць «древнерусским городом», адным з цэнтраў старажытнарускае дзяржавы Кіеўскае Русі. Але, па-першае, такой назвы — Кіеўская Русь — вы не знойдзеце ні ў адным летапісе. Па-другое, «дзяржава» гэтая была шматковая — нетрывалая, аб'яднаная сілаю зброі, а Полацк трапляў у яе зусім ненадоўга, супроць свае волі і заўсёды імкнуўся як найхутчэй вызваліцца. А патрэцяе, «адзіная старажытнаруская народнасць», ад якой нібыта паходзяць тры ўсходнеславянскія народы,— міф, створаны дзеля абгрунтавання адвечных прэтэнзій маскоўскіх князёў і цароў на беларускія ды ўкраінскія землі. Логіка тут вельмі простая: усе мы, маўляў, з аднаго кораня, значыцца, жыць павінны ў адной дзяржаве — зразумела, у расейскай.

Дзіўная рэч: усе славянскія народы вядуць адлік свайго жыцця з VI—VIII стагоддзяў, а беларусы і ўкраінцы, калі верыць афіцыйным расейскім ды савецкім «герадотам», чамусьці выходзяць на гістарычную сцэну стагоддзі ў XIV, быццам раней не мелі нічога адметнага. Адсюль застаецца адзін крок да таго, каб заявіць, што і народаў такіх у сапраўднасці няма, а ёсць адзіны расейскі народ «от Карпат и до Курил». Аднак і летапісы, і старажытныя нашы храмы, і археалагічныя знаходкі абвяргаюць гэтыя выдумкі, сцвярджаючы, што мы — палачане, беларусы — вядзём сваю (не агульную з некім, а менавіта нашу ўласную, беларускую) гісторыю з таго самага гарадзішча на беразе Палаты.

Летапіс называе Полацк сярод гарадоў, дзе





# ДА БРАЧЫСЛАВА

сядзелі князі, якія прызнавалі старэйшым між сябе кіеўскага Алега. Разам з тым улада далёкага Кіева ніколі не была тут трывалаю. Горад нашых продкаў імкнуўся жыць незалежна і будаваць сваю дзяржаву. Добрыя ўмовы гэтаму ствprала выгаднае геаграфічнае становішча на шляхах, што звязвалі Арабскі халіфат і Хазарыю са Скандынавіяй і славянскім светам. Аб'яднанню прыдзвінскіх зямель спрыяла агульнасць прыродных умоў (а значыцца, і ладу жыцця), і, вядома,— этнічныя асаблівасці тутэйшых жыхароў, у чыіх жылах змяшалася балцкая і славянская кроў.

У 2-й палове X стагоддзя ў Полацку кіраваў незалежны ні ад Кіева, ні ад Ноўгарада князь Рагвалод. Відаць, ён быў сынам полацкай княгіні Прадславы, згаданай у дамове, якую ў 945 годзе падпісалі Візантыя і кіеўскі князь Ігар. Інакш кажучы, у Рагвалодавы часы пачала існаванне першая беларуская дзяржава — Полацкае княства.

На хаўрус з ёю мог разлічваць той, хто возьме за жонку полацкую князёўну Рагнеду. Магла віраваць над Палатою вясельная бяседа з хмельным мёдам і заморскім віном, з песнямі гусляроў і прысягамі на вечную ўзаемную вернасць. Гісторыя ж вырашыла па-свойму: не рамейскае віно лілося на Рагнедзіным вяселлі, а кроў...

Спачатку Полацк прымаў сватоў ад кіеўскага князя Яраполка. Рагвалоду найлепей было б, каб Кіеў ды Ноўгарад варагавалі, а крывіцкая дзяржава тым часам пашырала межы ды выходзіла на волакі, што злучалі Дзвіну з Дняпром і Ловаццю, дазваляючы трымаць у руках важную частку гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі». Але ў такім разе Полацк апынаўся паміж двух агнёў. Князь мусіў выбіраць і аддаў сваю прыхільнасць мацнейшаму, на ягоную думку, Кіеву. Па бацькавай волі дванаццацігадовая Рагнеда (у такім вяку дзяўчынка ўжо лічылася тады нявестаю) дала Яраполкавым сватам згоду і ўзялася рыхтавацца да замужжа. І тут нечаканна заявіліся сваты з Ноўгарада, ад Уладзіміра Святаславіча. Другі Рагнедзін жаніх пакіне ў полацкай гісторыі глыбокі і страшны след, а таму пра ягоную асобу варта сказаць падрабязней.

Уладзімір даводзіўся ўнукам князю Ігару, з якім крывічы два разы хадзілі на Візантыю. Разам з вайсковым талентам лёс надзяліў Ігара страшэннаю сквапнасцю, якая яго ўрэшце і загубіла. Аднойчы ён пайшоў другі раз за год збіраць з племені драўлян даніну, выклікаў гэтым паўстанне і быў забіты. Княгіня Вольга помсціла за мужаву смерць з нечалавечай вынаходлівасцю. Калі паслы ад драўлян прыехалі да яе з прапановаю ісці замуж за іхняга князя Мала, яна загадала жыўцом закапаць іх у яме з гарачым вуголлем. Пасольства драўлянскіх баяр адправіла мыцца ў лазню, дзе іх усіх спалілі. Пайшлі дымам драўлянскія гарады, ляцелі галовы знаных мужоў. Пяць тысяч мужчын забілі кіеўскія дружыннікі на трызне па Ігару. Зліталася Вольга адно з дачкі ды сына драўлянскага князя — з малых Дабрыні ды Малушы. Дзяўчынку княгіня зрабіла сваёй рабыняй-ключніцай, тая спадабалася Вольжынаму сыну Святаславу і нарадзіла яму Уладзіміра, які і захоча пазней парадніцца з Полацкам.

Уладзіміраў бацька ў жорсткасці не саступаў бабулі. Перамогшы ў адным з паходаў балгараў, Святаслаў загадаў разапнуць на крыжах або пасадзіць на палі дваццаць тысяч палонных. Далейшыя падзеі паказалі, што ў такіх справах Рагнедзін жаніх быў годным наступнікам сваіх продкаў.

Вяртаемся да прыезду наўгародскіх сватоў. Вось што апавядае Лаўрэнцьеўскі летапіс: «Калі Рагвалод трымаў уладу і княжыў у Полацку, Уладзімір быў яшчэ дзіцём і паганінам і жыў у Ноўгарадзе. І меў ён дзядзьку Дабрыню, храбрага ваяводу... І паслаў той да Рагвалода людзей, і прасіў яго аддаць дачку за Уладзіміра. Запытаўся ў дачкі Рагвалод: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуці рабыніча, а Яраполка хачу».

«Не хачу разуці» — тагачасная форма адмаўлення сватам. Існаваў звычай, што маладая жонка перад першай шлюбнаю ноччу здымала з мужавых ног абутак. Аднак тут не проста адмова, але і знявага, бо полацкая князёўна гучна абвясціла: жаніх — сын рабыні, а такі базродны ёй не трэба.

Далей летапісы кажуць пра гнеў Уладзіміра і ягонага дзядзькі, што сабралі з наўгародцаў, пскавічоў, чудзі, весі і меры, а таксама са смаленскіх ды ізборскіх крывічоў вялізнае войска і рушылі на Полацк, дзе ўжо збіраліся выпраўляць Рагнеду ў Кіеў. З Уладзімірам ішла дружына варагаў. Князь паабяцаў ім усіх жанчын і грыўню срэбра з кожнага захопленага двара. Трэба зазначыць, што летапісцы часта рэдагавалі гістарычныя падзеі — рабілі іх больш рамантычнымі, набліжалі да літаратурнага твора. Напраўду галоўная прычына нападу на Полацк — не адмова сватам, а паход палачан на наўгародскія валасці з мэтаю забраць волакі.

Недзе на падыходзе да горада варожую раць сустрэла Рагвалодава дружына. Уладзімір напаў раптоўна, і полацкі валадар не паспеў сабраць усе свае сілы. Нашы продкі былі разбітыя, князь уцёк у Полацк, ды не здолеў ні ўратавацца сам, ні выратаваць сям'і. «І паланілі Рагвалода,— піша летапісец,— і жонку ягоную і дачку. І зняважаў Дабрыня яго, і прыгадаў Рагнедзе, як назвала князя рабынічам, і загадаў Уладзіміру быць з ёю перад бацькам і мацерай. Пасля ж Уладзімір забіў бацьку яе, а самую ўзяў за жонку. І назвалі Рагнеду Гарыславаю». Іншыя летапісы дадаюць, што на вачах у князёўны правадыр чужынцаў пазбавіў жыцця яшчэ двух яе братоў і маці, вынішчыў увесь род.

Усё жыццё не магла Рагнеда забыць тое «вяселле»: папялішча на месцы крывіцкае сталіцы, целы бязлітасна выразаных мужчын і плач паланянак, якіх чакалі нявольніцкія рынкі. Мо якраз у тыя чорныя дні нехта з багатых палачан ці даверaны чалавек самога князя Рагвалода закапаў у зямлю скарб, што ў 1972 годзе знойдуць на свежаўзараным полі хлапчукі з полацкай вёскі Каз'янкі,— 7650 срэбных арабскіх манет агульнай вагою дваццаць кілаграмаў. Напэўна, з тых часоў Беларусь, а на беларускай зямлі — Полаччына па колькасці знойдзеных скарбаў трымаюць ці не першае месца ў Еўропе. Самалюбства палачан праз гэтае лідэрства, вядома, цешыцца, аднак прычына ў яго зусім невясёлая: хаваць набытак змушалі бясконцыя войны, што тры наступныя стагоддзі вогненнымі віхура-

мі праносіліся па Полацкай зямлі праз кожныя шэсць—сем гадоў. У горадзе і ў радыусе 25 кіламетраў вакол яго ўжо знойдзена блізу трыццаці старажытных скарбаў, і можна адно здагадвацца, колькі яшчэ тоіцца ў зямлі, дзе-небудзь проста ў нас пад нагамі.

Мужчынская лінія полацкіх князёў была высечана Уладзімірам пад корань. Рагвалод прайграў, але назаўсёды застанецца ў кнізе нашага мінулага не толькі як першы полацкі князь, імя якога вядома з летапісаў. Можна спрачацца, прыйшоў полацкі валадар з-за мора, як сцвярджаюць летапісы, або быў крывічом. Можна спрачацца, славянскія ці скандынаўскія імёны мелі князь і ягоная дачка. Мне здаецца, гэта не надта істотна. Важней тое, што, гаворачы словамі выдатнага беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча, Рагвалод «першы ўбачыў і па-сапраўднаму ацаніў вялікія магчымасці Полацкай зямлі як асобнай дзяржавы са сваімі мэтамі і інтарэсамі, супрацьлеглымі мэтам і інтарэсам самога Кіева».

Драма на берагах Палаты адбылася блізу 980 года, а праз колькі месяцаў Уладзімір Святаславіч ужо забіў Яраполка і зрабіўся князем кіеўскім. Знаную палачанку ён пасяліў водблізь сталіцы ў вёсачцы, што потым людзі назавуць па імені Рагнедзінай дачкі — Прадславіна. Князь быў паганінам, а гэтая рэлігія дазваляла шматжонства. Апрача полацкай князёўны, ён меў яшчэ сем ці шэсць жонак і трымаў дзеля ўцех восемсот наложніц. За ненатольную пажадлівасць Уладзімір заслужыў імя другога Саламона «в женолюбии»: біблейскі герой, як вядома, праславіўся і розумам, і нястомнасцю ў плоцевых забавах.

Рагнеда нарадзіла ад Уладзіміра сыноў Ізяслава, Яраслава (яго потым назавуць Мудрым), Мсціслава і дачок Прадславу і Праміславу. Князь жыў у Кіеве наездамі, у Прадславіна заяўляўся зусім рэдка. Бавячыся з малымі, Рагвалодаўна бясконца вярталася думкамі на паняволеную радзіму. Уладзімір, безумоўна, мае заслугі перад Руссю, аднак для палачан ён назаўсёды застанецца захопнікам і забойцам. Як жа павінна была ставіцца да яго Рагнеда, якую ён ударамі скрываўленага мяча пакінуў адну-адзінюткую на свеце, а потым зняважыў як жонку, месяцамі не наведваючы яе і дзяцей? У княгініных душы спялілася прага помсты.

Дамо слова летапісцу.

«Аднаго разу, калі Уладзімір прыйшоў да яе і заснуў, яна наважылася зарэзаць яго. І надарылася яму ў тую хвілю прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: «Ты бацьку майго забіў і зямлю ягоную паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцем». І загадаў ёй прыбрацца па-царску, як перад шлюбам, і сесці ў хораме на белым ложы, а ён прыйдзе і заб'е яе. Яна па словах мужавых і зрабіла. І дала ў рукі сыну свайму Ізяславу аголены меч і навучыла: «Як зойдзе твой бацька, скажы яму: не думай, што ты адзін тут». І ўчыніў так Ізяслаў. Уладзімір жа прамовіў: «А хто ведаў, што ты тут». І апусціў ён меч і, склікаўшы баяраў, расказаў ім усё. Яны ж парадзілі: «Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а аднаві яе бацькаўшчыну і дай ёй з сынам сваім». І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў горад гэты Ізяслаўлем. І з таго часу ўзнімаюць меч Рагвалодавы ўнукі супраць унукаў Яраслававых».

Рагвалодаў унук Ізяслаў меў тады ад нараджэння гадоў сем, Рагнедзе было трохі болей за дваццаць. Яраслававы ўнукі (нашчадкі князя Яраслава Мудрага) падымаць меч на полацкіх сваякоў яшчэ не маглі, бо не нарадзіліся. Праўда, ад гэтага двум парасткам спляжанага роду было не лягчэй. Рагнеду з сынам чакала невядомае, небяспечнае ад мужавай няміласці жыццё на крывіцка-дрыгавіцкім памежжы, дзе стаяла сярод лясоў маленькае драўлянае Заслаўе.

Уладзімір неўзабаве павянчаўся з грэчаскаю прынцэсаю Ганнай, пасек над Дняпром паганскія стоды і ўзяўся прыводзіць да веры ў Хрыста падуладныя землі. Перад вянчаннем князь зазнаў багата клопату, бо, зрабіўшыся хрысціянінам, мусіў неяк пазбыцца ранейшых законных жонак, не кажучы ўжо пра сотні наложніц. Дзякуючы новай веры, насельніцы вялікакняжых гарэмаў павярталіся дахаты, а жонак аддалі замуж за знатнейшых дружыннікаў. З Рагнедаю было складаней, бо яна, у адрозненне ад іншых, паходзіла з княжацкага роду. Летапісы паведамляюць, быццам Уладзімір прапанаваў ёй выйсці замуж





за аднаго са сваіх баяраў, ды ганарлівая княгіня вырашыла лепей прысвяціць сябе Хрысту і стала першаю на ўсходнеславянскіх землях манашкаю, прыняўшы імя Анастасія. Магло быць і інačaй, як рабілася ў такіх выпадках у Візантыі: Рагнеду пастрыглі ў манастыр, не пытаючы яе згоды, а малога Ізяслава павезлі ў Полацк.

Лёс адмераў чарніцы Анастасіі яшчэ дванаццаць гадоў жыцця. Яны прамінуць у келлі бясконцаю чарадою аднолькавых дзён — без дзяцей, без улюбёнага сына-заступніка, у расстанні з роднай зямлёй. Недзе там, у Заслаўі, яе і пахавалі. Будзеце ехаць праз старажытнае Заслаўе, паглядзіце ў акно, успомніце, што тут знайшла апошні спачын выратавальніца полацкай княжай дынастыі. Праз гарадок плывуць у Свіслач дзве рачулкі з адметнымі гістарычнымі імёнамі — Княгінька і Чарніца. На пачатку гэтага стагоддзя ўзвышша па-над Чарніцаю заслаўцы яшчэ называлі Чорнай гарою і апавядалі, што на ёй і жыла Рагнеда.

Ізяслаў перажыў маці адно на колькі месяцаў. Такое супадзенне дае падставы лічыць, што Уладзімір мог атруціць іх, каб не дазволіць Полацку ўзмацніцца, а старэйшаму сыну — прэтэндаваць калі-небудзь на кіеўскі княжы пасад. Існуе таксама думка, што сапраўдным Ізяслававым бацькам быў не Уладзімір Краснае Сонейка, а забіты ім Яраполк, а крывавае вяселле ў Полацку адбывалася, калі Рагнеда пасля прыезду кіеўскага князя са сватамі ўжо чакала дзіця.

Сеўшы ў Кіеве, Уладзімір выбраў з мноства паганскіх багоў шэсць галоўных: Перуна, Хорса, Даждбога, Стрыбога, Мокаш і Сімаргла. Жыхары зпаняволенага Полацка, пакуль там кіравалі кіеўскія стаўленікі, мусілі скарыцца з такой іерархіяй, хоць употай па-ранейшаму найбольш шанавалі Рода-Сварога. Але вось стод Перуна, як звычайнае бервяно, паплыў да дняпроўскіх парогаў, а ракў Уладзімір Краснае Сонейка зрабіў велізарную купеллю. Сагнаным на бераг кіянам князь кінуў пагрозлівае: «Хто не са мною, той супраць мяне». Баючыся суровай кары за непаслушэнства, паганцы заходзілі па шыю ў ваду і вярталіся ўжо хрысціянамі. Наўгародцаў, як сведчаць летапісы, кіеўскія ваяводы Дабрыня і Пуцята хрысцілі «агнём і мячом». Прыход новае веры ў беларускі Тураў таксама стаўся падзеяю драматычнай: нездарма там дагэтуль жыве паданне пра каменныя крыжы, што прыплылі з Кіева і афарбавалі Прыпяць крывёю.

Уладзімір Краснае Сонейка пасля хрышчэння пражыў яшчэ амаль трыццаць гадоў. У запавеце ён павучаў дзяцей: «Не давайце моцным губіць чалавека. Ні правага, ні вінаватага не забівайце і не загадвайце забіць яго. Калі і будзе варты смерці, усё адно не губіце ніякай хрысціянскае душы». Ці ўспамінаў князь пры гэтым жаніцьбу з Рагнедаю? Як успомніў, дык хочацца верыць, што шчыра раскаяўся. А што да настаўлення не ліць кроў — не той быў час, каб нашчадкі да яго прыслухоўваліся.

Ці не найлепшым выканаўцам бацькавага запавету мог бы стаць — каб дажыў да яго — князь Ізяслаў. «Бысть же сий князь,— паведамляе пра яго Ніканаўскі летапіс,— тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и прилежаще прочитанию божественных писаний, и отвращаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпив». Ёсць у гэтым партрэце відавочная ідэалізацыя, але ёсць і звесткі, вартыя даверу.

Ізяслаў — першы з усходнеславянскіх князёў, каго летапісы называюць кніжнікам. Менавіта ён увёў у Полацку пісьменства і навучанне грамаце. Пячатка з ягоным імем, якою змацоўваліся княжыя граматы, лічыцца самым даўнім помнікам беларускага пісьменства і другім па часе ва ўсіх усходніх славян.

Пра дзяржаўную дзейнасць Рагнедзінага сына нічога невядома. Ён застаецца ў гісторыі як першы беларускі асветнік і як князь, што аднавіў у старажытнай крывіцкай сталіцы полацкую дынастыю. Пачынаючы з яго, усе нашчадкі Рагвалода нязменна называлі сябе Рагвалодавічамі, а не Рурыкавічамі, як астатнія «рускія» князі.

Горад на той час ужо падняўся з папялішча. На высокім беразе Дзвіны, там, дзе яна прымае ў сябе Палату, стаяў рублены з бярвення новы дзядзінец, вакол якога рос пасад. Шырокую дзвінскую роўнядзь усё часцей упрыгожвалі ветразі купецкіх стругаў.

Князь Ізяслаў пакінуў Полацк і гэты свет неўзабаве па смерці маці. Цяжка сказаць, ці княжыў яго сканалы ў малалецтве старэйшы сын Усяслаў. Даты выстройваюцца ў загадкавы ланцужок: 1000 год — паміраe Рагнеда, 1001 — Ізяслаў, 1003 — Усяслаў Ізяславіч. Сын і ўнук развітваюцца з жыццём значна раней за бацьку і дзеда, што дажыве да 1015 года. Відаць, доўгія рукі меў Уладзімір Краснае Сонейка, вялікі быў ягоны страх перад адраджэннем Полацка.

Пасля таямнічай бацькавай смерці полацкі пасад заняў Брачыслаў Ізяславіч, які канчаткова верне княству незалежнасць.

Ён застаўся сіратою ў раннія гады. Бацька паспеў пасадзіць хлопчыка на каня, даў патрымацца за меч, паслухаў, як, водзячы пальцам па пергаменце, княжыч расчытвае кніжныя радкі. Далей яго выхаваннем займаўся нехта з мудрых полацкіх баяраў. Брачыслаў застаўся апошнім жывым Рагвалодавічам. Палачане бераглі малалетняга князя, як вока, і глядзелі на яго з вялікімі спадзяваннямі.

У Кіеве яшчэ сядзеў ненавісны Уладзімір. Рагвалодаў забойца мусіў аднавіць Полацкае княства, але забраў у яго волакі на гандлёвых шляхах. Ключы ад іх — Віцебск і Усвят — перайшлі пад уладу Ноўгарада, куды плыло цяпер багатае мыта з праезджых купцоў. Полацкія «мужы моцныя» марылі павярнуць гэты залаты ручай да сябе, аб'яднаць крыўскія землі і прырасціць да іх дрыгавіцкія. Ці здолее Брачыслаў паслужыць полацкай славе? — гадалі баяры.

Узмужнеўшы і ўвабраўшыся ў сілу, князь спраўдзіў надзеі землякоў. Як тое адбывалася, апавядаюць летапісы і «Сага пра Эймунда».

Памёр Уладзімір Краснае Сонейка, успыхнулі крывавыя ўсобіцы. Пераможцам з іх выйшаў

князь Яраслаў, празваны Мудрым. Малады полацкі валадар у змаганне за дзедаву спадчыну не лез, рыхтаваўся да іншага. А тут як быццам само неба паспрыяла палачанам: у горад прыйшла з Кіева варажская дружына Эймунда. Яраслаў не заплаціў ёй за службу, і пакрыўджаныя ворагі выбралі сабе новага гаспадара — Брачыслава, што было прызнаннем ягонае сілы.

Эймунд прывёз крывіцкаму князю важную навіну: яго кіеўскі дзядзька рыхтуецца да паходу ў Прыдзвінне. Полацк вырашыў не шкадаваць варагам грошай. Пагатоў, Эймундава папярэджанне хутка пацвердзілася: Яраслаў прыслаў ганцоў, вымагаючы памежныя з ягонымі ўладаннямі полацкія гарады. Праўдзіва варагаў за бяседным сталом сказаў Брачыславу: «Падобна, уладар, што будзе бойка з хіжым ваўком. Саступім цяпер — захоча ўрваць яшчэ болей».

Параіўшыся з баярамі, Брачыслаў Ізяславіч вырашыў не чакаць нападу, а самому ўдарыць на спадчыннае Яраславава ўладанне — Ноўгарад. У 1021 годзе палачане быццам з-пад зямлі выраслі пад магутнымі наўгародскімі сценамі і ўзялі горад прыступам. Сярэднявечны гісторык Ян Длугаш піша, што ўслед за сталіцаю Брачыслаў заваладаў усім суседнім княствам. У захопленых гарадах ён паставіў намеснікаў і з багатым палонам вырушыў дадому. Часам даводзіцца чытаць, што такім чынам Полацк адпомсціў за Рагвалода і Рагнеду. Не трэба блытаць помсту з палітыкай. Палачане не помсцілі, а імкнуліся далучыць Наўгародскую зямлю, каб больш паспяхова змагацца з Кіевам.

На сёмы дзень вяртання з паходу крывіцкае войска ўбачыла перад сабою баявыя харугвы Яраслававай дружыны. Сеча адбылася на рацэ Судоме, і, калі верыць летапісам, разбіты Брачыслаў збег адтуль у родны горад. Аднак дзіўная гэта была перамога, бо кіеўскі князь не толькі не пайшоў ваяваць Полацкую зямлю, а яшчэ і аддаў пляменніку Віцебск і Усвят — менавіта тыя гарады, якіх Полацку не хапала для моцных пазіцый на шляху «з варагаў у грэкі». Зноў мусім шкадаваць, што загінуў Полацкі летапіс: ён мог бы сказаць пра тую бітву праўду.

«Сага пра Эймунда» падае іншую версію падзей на Судоме. Сечы нібыта наогул не было. Кіяне з палачанамі стаялі насупраць адзін аднаго сем дзён, і Яраслаў чакаў, пакуль ваяўнічы пляменнік прышле паслоў з паклонам. Брачыслаў ірваўся ў бой, ды хітрамудры Эймунд прапанаваў яму таксама вырашыць спрэчку без крыві: выкрасці Яраслававу жонку, каб міру папрасілі самі кіяне. Варагава задума прыйшлася Брачыславу даспадобы. Эймунд з яшчэ адным супляменнікам зрабілі ў лесе за баявым кіеўскім станам засаду і ўрэшце захапілі княгіню ў палон, што і дапамагло атрымаць Віцебск і Усвят.

Як бы ні разгортваліся падзеі, Яраслаў Мудры прызнаў самастойнасць Полацка і ваяваць з Рагвалодавічамі болей не хацеў. Пасля сустрэчы на Судоме полацкі і кіеўскі князі дамовіліся быць «братанічамі». Брачыслаў назваў дзядзьку старэйшым, але абодва мелі на кіеўскую зямлю роўныя правы, і таму адзін сядзеў у Полацку, другі — у Ноўгарадзе, а Кіевам кіравалі праз намеснікаў. Летапісы кажуць пра існаванне там «Ярославля» і «Брячиславля» двароў.

«Будзь са мною за адно»,— сказаў дзядзька пляменніку, змацоўваючы дамову, «і ваявалі Брачыслаў з Яраславам разам усе дні жыцця свайго».

Як яны ваявалі разам, нічога не вядома. Пасля 1021 года Брачыславава дружына найчасцей выпраўлялася ў той бок, куды сядае сонца. Пра паспяховасць гэтых паходаў гавораць сёння ўтвораныя ад імя полацкага князя геаграфічныя назвы. На возеры Дрывяты стаіць горад Браслаў, што ў летапісах завуся па імені заснавальніка — Брачыслаўль. За пару дзесяткаў кіламетраў ад Краславы, на беларуска-латышскім памежжы, ёсць на возеры Сівер вёска Браслаў са старажытным гарадзішчам. Паселішча з такой назваю існуе і трохі на поўнач ад Воршы, якая з Копысем і часткаю Прыдняпроўя трапіла пад уладу Полацка зноў-такі за часам Брачыслава Ізяславіча.

**Фота Эрнста** Цецярэўскага.



**Заканчэнне. Пачатак на стар. 4—5.**

прыняла пострыг пад імем Анастасіі. На той час усходнеславянскія землі не ведалі жанчын-манашак. Па-другое, прыняць манаскі сан, не прайшоўшы паслушэнства, а тым больш без веры ў Хрыста, было немагчыма. Адсюль можна прыйсці да высновы, што Рагнеда да прыняцця новай веры Уладзімірам была ўжо хрысціянкаю. А гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі з пастулатамі хрысціянства яна і, вядома, яе бацька Рагвалод былі знаёмыя да 970 г., г. зн.— да захопу Полацка Уладзімірам.

Таму не выпадкова, што першы князь аднаўленай полацкай дынастыі — Ізяслаў, сын Рагнеды і Уладзіміра, быў хрысціянінам. Калі верыць летапісцам, ён быў «ціхі і лагодны», любіў і шанаваў царкву, чытаў святыя пісанні, «и слёзен, и умилен, и долготерпелив». Большасць гісторыкаў менавіта з імем гэтага князя звязвае хрышчэнне Полацкай зямлі. Але адразу ўзнікае пытанне: а што мы, уласна кажучы, разумеем пад хрышчэннем зямлі ці княства?

Хрышчэнне Кіева адбылося ў водах Дняпра, куды Уладзімір загадаў загнаць усіх гараджан, паўтарыўшы амаль даслоўна выраз Хрыста: «Хто не са мной, той супраць мяне». Ноўгарад ваяводы Уладзіміра — Пуцята і Дабрыня — хрысцілі мячом і агнём. Гэта давала падставы лічыць, што падобным чынам адбылося і хрышчэнне Полацка. Але чаму ў такім выпадку на старонках вядомых нам летапісаў няма звестак аб хрышчэнні Ізяславам Полаччыны? Калі прычынай лічыць адсутнасць полацкіх летапісаў, то нават у такім выпадку летапісцы-мніхі Кіева і Ноўгарада, якія падрабязна занатоўвалі ўсе звесткі, наўрад ці абмінулі б такую падзею. Што-што, а вялікі гвалт, накшталт наўгародскага, трапіў бы ва ўсе летапісы, не толькі ўласна полацкія. Аб гэтым сведчаць больш познія летапісныя запісы, якія тычацца Полацка, але якія мы ведаем з кіеўскіх, наўгародскіх, суздальскіх, цвярскіх і інш. летапісаў. Адсюль вынікае, што гвалтоўнага хрышчэння Полацкага княства не было. Чаму ж тады пралілася кроў язычнікаў у Ноўгарадзе? Таму што Ноўгарад быў даўняй, але вольналюбівай вотчынай Уладзіміра. Вялікаму князю кіеўскаму было неабходна сцвердзіць свае правы на гэты горад і яго валасць, падпарадкаваўшы яго не толькі адміністрацыйна, але і духоўна. Падобных правоў на Полаччыну ён не меў, як не меў, відаць, і дастатковай зброі. Бо ў Полацку напрыканцы Уладзіміравага жыцця (12 апошніх гадоў) правіў сын Ізяслава — Брачыслаў, вядомы сваёй смелай і незалежнай палітыкай. У Брачыслава, калі верыць летапісам і сагам, былі больш трывалыя сувязі з Балта-Скандынаўскім светам, чым з Кіеўскай Руссю. Нездарма на яго баку супраць Яраслава Мудрага біліся нармандскія дружыны. Апошняе відавочна тлумачылася тым, што полацкія князі свой радавод лічылі не адгалінаваннем Рурыкавічаў, а самастойным дрэвам Рагвалодавічаў. Пра што і летапіс паведамляе: «Адгэтуль уздымаюць меч Рагвалодавы ўнукі супраць унукаў Яраслава».

Такім чынам, сцвярджаць сваю ўладу пераводам у хрысціянскую рэлігію ўсіх жыхароў княства полацкім князям патрэбы не было. А з амбіцыямі кіеўскага ўладара Уладзіміра яны лічыліся мала. Тым не менш, полацкія князі прынялі хрысціянства. Праўда, у нас няма падстаў сцвярджаць, што гэту рэлігію яны праводзілі ў якасці афіцыйнай. Хутчэй за ўсё з боку княжацкай улады не было перашкод для натуральнага пранікнення хрысціянства ва ўсе сферы тагачаснага грамадства. Вядома, што развіццё новай рэлігіі ва ўсходнеславянскіх землях ішло па схеме: князь — дружына — горад — вёска. Разумеючы перспектывы новай ідэалогіі, новыя магчымасці, якія яна несла дзяржаве і народу, шырокія агульнаеўрапейскія палітычныя выгоды, палачане паступова схіляліся да хрысціянства.

У сувязі з гэтым цікава прасачыць за летапіснымі звесткамі аб полацкіх князях тых гадоў. У «Аповесці мінулых часоў» пры апісанні падзей пачатку — сярэдзіны XI ст. трапляецца вельмі цікавы, нешматслоўны блок артыкулаў, прысвечаных Полацку: смерць Рагнеды-Анастасіі (1000 г.), смерць Ізяслава (1001 г.), смерць Усяслава (1003 г.), вакняжанне Брачыслава (1003 г.), паход Брачыслава на Ноўгарад (1021 г.) і яго барацьба з Яраславам Мудрым. У гэтым полацкім блоку апынуўся артыкул «Перанесены святыя ў святую Багародзіцу» (1007 г.). Аб якіх святых і якой царкве ідзе гаворка?

Першыя кіеўскія (у далейшым — агульнарускія) святыя Барыс і Глеб, па-здрадніцку забітыя трэцім братам — Святаполкам, былі кананізаваны ніяк не раней смерці іх бацькі — князя Уладзіміра Святаславіча 15 ліпеня 1015 г., а дакладней, як лічаць сучасныя даследчыкі, паміж 1020 і 1039 гг. Перанесены ж у новую вышгародскую царкву яны былі яшчэ пазней — у 1072 г., аб чым ёсць адпаведны запіс у той жа «Аповесці мінулых часоў». Іншых святых на той час у Кіеве, як і ў Ноўгарадзе, і быць не магло. Тлумачыцца гэта тым, што ўсходнеславянская царква цалкам залежала ад канстанцінопальскай мітраполіі, дзе павінна была зацвярджацца любая кананізацыя. Адсюль вынікае, што гэтыя святыя не маглі быць кіеўскага ці наўгародскага паходжання.

Якая царква, прысвечаная Багародзіцы, прыгадваецца ў летапісе? На той час (1007 г.) найбольш славутай, безумоўна, была кіеўская, вядомая пад назвай Дзесяцінная. Але мала хто з даследчыкаў адзначае, што ў гэтыя ж часы аналагічная царква была ў Полацку. Летапісны запіс 1158 г. ведае нават дзве царквы ў Полацку, прысвечаныя Багародзіцы. Каб іх адрозніць, летапісец адну называе «старой». Якая царква магла лічыцца «старой», калі ў XII ст. у Полацку толькі-толькі пачалося шырокамаштабнае будаўніцтва мураваных храмаў? З дзесяці вядомых нам сёння старадаўніх полацкіх храмаў дзевяць адносіцца да XII ст. І толькі адзін — Сафійскі сабор — да XI ст. Разам з тым, ні ў адным горадзе, дзе існавалі падобныя саборы (Канстанцінопаль, Кіеў, Ноўгарад), яны наўрад ці былі першымі культавымі хрысціянскімі пабудовамі. Як немагчыма адразу паганцу стаць хрысціянінам, тым больш пад прымусам, так немагчыма адразу збудаваць вялікі храм Сафіі — сімвал і сутнасць веры. Хрышчэнне — гэта не рэвалюцыя ў яе крывава-гвалтоўным разуменні, гэта доўгі, паступовы працэс перамены чалавечай свядомасці, маралі, культуры. Таму ўзвядзенню Сафійскага сабора ў Полацку абавязкова павінна была папярэднічаць будоўля іншых храмаў. Адным з храмаў, як мы казалі вышэй, быў, відаць, храм манастыра Іаана Прадцечы на Востраве. Другім — Багародзіца Старая. На нашу

думку, менавіта яна і згадваецца ў летапісе пад 1007 г.

Але ў такім выпадку паўстае і другое пытанне: мошчы якіх полацкіх святых маглі быць перанесены ў Багародзіцу Старую? Перш чым адказаць на гэта пытанне, давайце памяркуем: а ці маглі ўвогуле ў Полацку быць свае святыя?

Царкоўна-палітычны расклад у Еўропе канца X — пачатку XI стст. быў вельмі складаны і не на карысць Канстанцінопаля. Рымскія місіянеры праяўлялі значна больш імпэту ў далучэнні да апостальскай царквы новых парафіян. Ужо ў другой палове X ст. рымская царква сцвердзіла свой уплыў на землях палякаў, чэхаў, харватаў. Абапершыся на агрэсіўную палітыку германскага караля — імператара Атона I, яна пранікае на землі венграў, лужычан, палабскіх славян. У канцы X ст. рымскі абрад прыняў польскі князь Мешка, а ў 1000 г. была заснавана самая ўсходняя на той час архіепіскапская катэдра ў Гнёзна. Не забывалі папскія паслы і Усходнюю Еўропу. З 960 па 1000 гг. яе наведала шэсць місій. Князь Святаполк Тураўскі, больш вядомы як «Акаянны», быў вялікім прыхільнікам рымскае веры.

Вось у гэтых складаных палітычна-царкоўных стасунках перад Полацкай зямлёю паўстаў выбар, як захаваць незалежнасць, не падпасці пад уладу Кіева цераз праваслаўе ці пад уладу Польшчы і Папежа цераз каталіцтва? А ў той жа час не застацца ў паганскай адзіноце сярод хрысціянскай Еўропы. Шлях быў адзіны: прымаць хрысціянства і паступова яго распаўсюджваць, але так, каб не выпускаць рэальнай улады са сваіх рук. А гэта было магчыма толькі пры ўмове пабудовы полацкай царквы як аўтакефальнай з улікам мясцовых традыцый. Гаварыць пра першапачатковую незалежнасць полацкай царквы ў нас ёсць падставы, таму што пранікненне хрысціянства сюды ішло самастойна як з поўдня, так і з поўначы і захаду. Прычым, нягледзячы на тое, што заходняя рымская царква была значна бліжэй за візантыйскі ўсход, абраны быў грэчаскі абрад. Па-другое (і на гэта чамусьці не звярталі ўвагі папярэднія даследчыкі), першы вядомы нам полацкі епіскап Нікіфар быў грэкам. Ён ніяк не быў залежным ад Кіева, бо ў 1092 г. яго паставілі мітрапалітам Кіеўскім. А такое стаўленне адбывалася толькі з ласкі канстанцінопальскага патрыярха. Адсюль вынікае, што ў Полацку ён мог з'явіцца толькі па накіраванню таго ж патрыярха, г. зн.— напрасткі з Візантыі. Наступны епіскап з'яўляецца ў Полацку толькі ў 1104 г. пасля смерці Усяслава Чарадзея, вядомага сваёй незалежнай самастойнай палітыкай. Ці можа гэта азначаць, што ў Полацку 12 гадоў не было свайго епіскапа? Вядома, не. Але паколькі ён трапляў у Полацкае княства ў абыход Кіева, то не згадваецца ў кіеўскіх ці якіх іншых летапісах.

Тое самае справядліва і да полацкай епіскапскай катэдры да 1092 г. Яна павінна была існаваць ад часу будаўніцтва полацкага Сафійскага сабора (1050—1055 гг.), а то і раней. Апрача таго, Полацкае княства спрадвек славілася сваімі моцнымі паганскімі традыцыямі. Яны былі абумоўлены ў першую чаргу поліэтнічным складам жыхароў княства, дзе сплялася ў адну тугую ніць балцкая і славянская кроў. Менавіта паганства ў многім было падставаю для кансалідацыі рознаэтнічных зямель вакол Полацка, яно было апірышчам у XI ст. князю Усяславу Чарадзею ў барацьбе за незалежнасць сваёй бацькаўшчыны. Дарэчы, абедзве гэтыя з'явы — незалежнасць і паганства — на фоне хрысціянскай Еўропы мелі свой вобразны сінонім — «Белы». Ці не адсюль пайшла Белая Русь? Назва, якая, як вядома, упершыню зафіксавана ў заходнееўрапейскіх крыніцах пачатку XIV ст. У сувязі з апошнім цікава, што сучасныя гісторыкі (у прыватнасці, доктар навук, прафесар В. Сядоў) лічаць, што гаварыць аб суцэльнай хрысціянізацыі Полацкай зямлі да канца XIII — пачатку XIV стст. проста не выпадае. Аб гэтым сведчыць і сучасная этнаграфія.

Вось і атрымліваецца, што першае стагоддзе «пераможнага шэсця» хрысціянства па Усходняй Еўропе на Полаччыне ішло побач з захаваннем, а ў некаторых выпадках нават з падтрымкаю паганскіх звычаяў і стварэннем самастойнай полацкай епіскапіі пры непасрэдных прамых стасунках з Канстанцінопалем. У такім выпадку толькі візантыйскі патрыярх мог даць дазвол на кананізацыю мясцовых святых. Апошнія ў любой мясцовай незалежнай царкве адыгрываюць надзвычай важную функцыю. Канстанцінопаль быў зацікаўлены ў хрысціянізацыі Полаччыны па ўсходняму абраду, Полаччына — у кананізацыі сваіх святых, а праз іх — у сцвярджэнні сваёй незалежнасці. Вось такімі першымі беларускімі святымі і маглі паўстаць мнішка Рагнеда-Анастасія, набожны Ізяслаў і памёршы малалетнім Усяслаў (1003 г.). Магчыма, што да іх быў далучаны і святы Торвальд. Тое, што іх імёны згубіліся ў святцах за смугою вякоў, не дзіва. З 1104 г. епіскапы, якіх рукапакладалі ў Полацк з Кіева, праводзілі палітыку выключна ў інтарэсах Кіеўскай імперскай дзяржавы. Яна была накіравана на развал Полацкай зямлі і падначаленне яе асобных частак Кіеву, Ноўгараду або Смаленску. Але гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся: магутная некалі «Імперыя Рурыкавічаў» трашчала па ўсіх швах. Тым не менш, з утварэннем Маскоўскай цэнтралізаванай дзяржавы палітыка праваслаўя на Беларусі працягвалася ў тым жа накірунку, толькі не ў бок Кіева, а ў бок Масквы. Наколькі яна была паспяховай, мы бачым нават сёння, калі ніводны праваслаўны храм на Беларусі не вядзе набажэнствы з улікам на беларускай мове.

Найбольш яскрава ўплыў непасрэдных сувязей Візантыі з Полаччынай назіраўся ў XII ст. Яны былі настолькі трывалыя, што нават права Кіева пакладаць у Полацк сваіх епіскапаў не магло іх парушыць. Сведчаннем таго можа быць уся гісторыя мастацтва і культуры Полацка XII ст. Прыгадайма: сярод шматлікіх храмаў, якія ўжо існуюць у Полацку, на той час у Бельчыцкім манастыры быў так званы «храм-трыконх», адзіны аналаг якога ва ўсходніх, блізкіх да Полацкага княства землях Смаленшчыны. Затое непадалёк ад Візантыі — у Сербіі і Харватыі — падобных храмаў безліч. Дойлід, будаўнік гэтага храма, мог быць выхадцам толькі з тых зямель. Хто ведае, ці не адыграла ролю тое, што адна дачка Рагнеды-Анастасіі была замужам за чэшскім князем Баляславам III Рудым, а другая — за прынцам угорскім Ласлам Сарам Лысым. Толькі дойлід той знік гэтак жа нечакана, як і з'явіўся. Прыблізна ў гэты ж час у Полацку з'яўляецца другі дойлід — Іаан, які будуе для Еўфрасінні Полацкай храм Спаса Праабражэння. Менавіта яму належыць аўтарства крыжовакупальнага храма з высока ўзнятым барабанам, якія дагэтуль будавалі ў землях Кіеўскай Русі. Адкуль мог з'явіцца такі майстар нябачнай раней праваслаўнай архітэктуры? Адкуль у фрэсках таго ж храма візантыйская суровасць лікаў, сцятасць вуснаў? Для Спаскага храма майстар Лазар Богша ў 1161 г. робіць напрастольны шасціканцовы крыж, аздоблены перагародкавымі эмалямі. Адкуль узялася такая незвычайная форма крыжа, калі на тэрыторыі Усходняй Еўропы яна дагэтуль нідзе не сустракалася? Можа, зноў-такі з Візантыі, дзе была мода на падобныя крыжы. І нарэшце, сама Еўфрасіння Полацкая, атрымаўшы каштоўныя падарункі ад імператара Мануіла Комніна і патрыярха Лукі Хрызаверга (у прыватнасці, кнігі і абраз Божай Маці, напісаны самім евангелістам Лукою), выправілася ў святое паломніцтва ў Палесціну праз Канстанцінопаль, дзе сустрэлі яе з пашанаю. Яскравым доказам таго, што ў Візантыі памяталі аб першых полацкіх святых, стала кананізацыя самой Еўфрасінні. Полацкая ігумення памерла ў Палесціне ў 1173 г. і адразу была пахавана на Афоне. У хуткім часе, напрыканцы 30-х XII ст., у яе гонар былі складзены Трапар і Сціхір. Канцом XII — пачаткам XIII стст., як лічаць даследчыкі, датуецца напісанне першага жыція Еўфрасінні Полацкай. А гэта магло быць толькі з нагоды яе далучэння да святых. Нагадаем, што кіеўская княгіня Вольга, хаця і шанавалася з XI ст., была кананізавана толькі ў XIII ст.

Усё вышэйзгаданае прымушае нас лічыць, што хрысціянства прыйшло на Беларусь непасрэдна з Візантыі, Канстанцінопаля. Няма сэнсу спрачацца, наколькі прагрэсіўнай і неабходнай была для Полаччыны новая рэлігія. Як усё новае, яна несла ў сабе прагрэсіўны пачатак, а на першым этапе спрыяла станаўленню Полацкага княства ў якасці самастойнай і незалежнага дзяржавы. На вялікі жаль, пазней, калі ішоў да завяршэння працэс утварэння ўсходнеславянскіх нацый, праваслаўе не змагло «перабудавацца» з улікам інтарэсаў гэтых нацый. Цень старадаўняй імперскай палітыкі цалкам пакрываў сабой дзейнасць Рускай праваслаўнай царквы, якая заставалася «рускай» і ў Літве, і ў Лівоніі, і ў Маларосіі. Гэтую нягнуткасць праваслаўя спрабавала скарыстаць апостальская рымская царква, якая даўно ўжо адышла ад догмату прапаведзі Закона Божага выключна на адной мове. У выніку на Беларусі з'явілася царкоўная Унія, дзе фармальнае прызнанне Папы было хутчэй з'едлівым рэверансам у бок Масковіі і праваслаўнага патрыярха, чым фактычным яму падпарадкаваннем. Унія на Беларусі — размова асобная. Яе росквіт прыпадае на росквіт новай беларускай дзяржавы — ядра і душы Вялікага княства. І калі «Трэцяму Рыму» спатрэбілася пасля вайсковага захопу падпарадкаваць сабе Беларусь яшчэ і ідэалагічна, дык гэта рабілася шляхам гвалтоўнага вынішчэння уніяцкай царквы і яе вернікаў.

Звычайна, калі прыгадваецца Унія, заўсёды задаецца адно і тое ж пытанне: вы што, за адраджэнне уніяцтва на Беларусі? А чаму не? Толькі за адраджэнне уніяцтва, як і праваслаўя, як і каталіцызму, мусульманства (беларускія татары), іудаізму. Права на існаванне маюць усе канфесіі, як і большасць сект. Іншая справа, якім мэтам служыць тая ці іншая царква. Тое, што яна сёння — частка палітыкі і ідэалогіі, бясспрэчна. Пытанне стаіць інача́й. Ці будзе весціся набажэнства ў касцёле на польскай мове, пасля чаго спрадвечны беларус не толькі стане пагарджаць сваёй мовай, але і адчуе на сабе комплекс непаўнацэннасці «поляка малага» на «крэсах всходніх», ці будзе ў царкве весціся служба на расейскай мове, пасля якой застаецца комплекс «младшего брата», прычым нават не другога, а трэцяга, і не беларуса, а «россиянина с испорченным наречием»?

Гісторыя паказвае, што агульначалавечыя, агульнагуманістычныя Божыя словы тым хутчэй дойдуць да душы народа, чым хутчэй загучаць яны на мове народа з царквы, якая на справе клапоціцца аб лёсе і будучым гэтага народа.





# „ХРЫСТОС ДА НАС З ДОБР

Бог у нас адзін. Але шлях у кожнага да яго свой. І шлях гэты — таямніца, вялікая, часцей за ўсё нябачная для іншых праца душы. Гэта важна зразумець усім нам. Мы жывём у складаны і супярэчлівы час, калі надзвычай многа стала людзей, якія лёгка і хутка, амаль без сумненняў адхрысціліся ад сваіх ранейшых перакананняў. Шлях да ісціны, калі гэта ісціна сапраўдная, а не чарговы ідал, заўсёды пакутлівы і цяжкі. Такім быў і апошні шлях Яго.

Рэчыца... Невялікі дамок на ціхай, амаль вясковай вуліцы. Тут жыве праваслаўны свяшчэннік Пётр Латушка, вядомы ў горадзе тым, што ўсяго за некалькі нядзельных дзён разам са сваімі прыхаджанамі пабудаваў царкву. І было гэта ў той час, калі далёка не кожны адважваўся адкрыта прыйсці ў храм і паставіць свечку, а не тое, каб на вачах усіх узводзіць сцены храма. Напэўна, гэта быў не толькі подзвіг, але і высокі грамадзянскі ўчынак людзей, якія не пабаяліся магчымых ганенняў. Але самае важнае ў гэтым учынку было, думаецца, тое, што будавалі яны храм у імя Бога, для людзей, якія будуць прыходзіць сюды і спасцігаць ісціну.

У панядзелак, калі ахоўнікі ідэалагічнай чысціні даведаліся пра такую дзёрзкасць, новая царква была зачынена на замок і каля яе выстаўлены пост міліцыі. Напярэдадні прыходу камісіі веруючым удалося разабраць старую драўляную хатку, якая раней служыла ім месцам малення. Слава Богу, надышоў такі час, калі нават самыя ўпартыя ганіцелі ўцямілі, што можна знесці купалы, можна спаліць іконы, але нельга знішчыць веру...

Я спытаў у айца Пятра, ці няма ў яго цяпер крыўды на ўлады, якія забаранялі будаваць новы храм, ды і наогул прычынілі нямала зла царкве? І пачуў у адказ:

— Апостал Павел гаварыў: мы павінны радавацца смутку. Ад скрухі — цярпенне. Ад журбы — спрактыкаванасць. Ад вопыту — надзея! Жаль нам неабходны, каб мы самі пра сябе даведаліся. Каб далі правільную ацэнку нашаму жыццю. Каб зразумелі: для чаго наогул жывём. Так што смутак патрэбен. Як золата кідаюць у агонь, каб, прайшоўшы горан, яно станавілася чысцейшым, так і Бог чалавеку пасылае розныя выпрабаванні. Каб засцерагчы яго, спыніць, навучыць... Трэба, каб у рэшце рэшт дайшло, што чалавецтва адзінае. Калі я ўчыняю грэх, то гэтае зло дабаўляецца да агульнага зла. Калі раблю добрую справу, то раблю дабро не толькі для сябе, але і для ўсяго роду чалавечага...

Бацька Пятра Латушкі быў селянінам. Родам з вёскі пад Смалявічамі. Ён не надта часта звяртаўся да Бога і тым больш ніколі не думаў, што адзін з яго сыноў стане свяшчэннікам. У самога айца Пятра тры сыны — усе служыцелі праваслаўнай царквы.

— Зразумейце правільна, прымусіць чалавека быць вернікам немагчыма. Нават калі гэта твае ўласныя сыны. Што тычыцца самой веры, то я іх не прымушаў ніколі. Упэўнены: адбылася б адваротная рэакцыя. Былі мае сыны і піянерамі, і камсамольцамі — вучыліся ж у звычайнай школе, дзе, самі разумееце, якія былі адносіны да рэлігіі... Праўда, жонка мая Таццяна ўвесь час спявала ў царкоўным хоры. Дзеці — маленькія, іх не было з кім пакінуць, і яна вымушана была браць з сабой. Так дзеці, можна сказаць, і выраслі на клірасе. Здаралася, што ў час службы і засыналі ў царкве...

Георгій, сын Пятра Латушкі, цяпер настаяцель Свята-Петрапаўлаўскай царквы, больш вядомай у Мінску як Свята-Кацярынінская. Да нядаўняга часу тут быў архіў, яшчэ нават не разабралі перакрыцці, усюды горы будаўнічага смецця. Але царква ўжо функцыяніруе: праводзяцца службы, вянчанні, хрэсьбіны. Тут жа працуе нядзельная школа.

Айцец Георгій быў адным з першых у рэспубліцы, хто заняўся выхаваннем дзяцей у нядзельнай школе. Цяпер тут вучацца каля чатырохсот школьнікаў — ад сямі да семнаццаці гадоў. А жадаючых значна больш.

— У праваслаўі самае галоўнае — свабода,— гаворыць айцец Георгій.— Мы не навязваем, як іншыя, сваю веру. Чалавек павінен зацікавіцца і выбраць сам. Без усялякага націску на яго сумленне...

— Але ў такім раннім узросце дзеці не могуць зрабіць свядомы выбар...

— Справа за бацькамі. Яны абавязаны несці адказнасць за духоўнае развіццё сваіх дзяцей. Але ў апошні час нярэдка адбываецца адваротнае, дзеці далучаюць сваіх бацькоў да веры.



*Шлях да ісціны, калі гэта ісціна сапраўдная, а не чарговы ідэал, заўсёды пакутлівы і цяжкі.*



# ПРЫХОДЗІЦЬ ЫМІ ЛЮДЗЬМІ...»

У пакой, дзе мы размаўляем, заходзіць дзяўчынка.

— Айцец Георгій, мы работу закончылі. Прыйдзем заўтра...

Латушка дзякуе ёй і сяброўкам за працу. Гэта мінскія школьнікі аказваюць пасільную дапамогу ва ўзнаўленні храма.

— А вось дзяржава зусім не думае, як аднавіць царкву, якую яна ж сама давяла да такога стану,— гаворыць айцец Георгій.— Паабяцалі некалькі тысяч рублёў, але не далі ні капейкі... Усе работы праводзім за грошы вернікаў, у асноўным — бабуль. Можа быць, з цягам часу знойдуцца спонсары. Але пакуль ніхто не зацікавіў лёс царквы...

Айцец Георгій доўга і падрабязна расказвае гісторыю Свята-Петрапаўлаўскай царквы. Высвятляецца: на працягу стагоддзяў была яна апорай праваслаўя на Беларусі. І вонкавы выгляд яе першапачаткова быў зусім іншы. Нядаўна пачалі збіваць слой тынкоўкі, а пад ім выявілі старажытныя фрэскі. Выклікалі мастацтвазнаўцаў і рэстаўратараў. На ўсё патрэбны грошы...

Работы тут на гады. А можа, і на ўсё жыццё. Але такой справе варта прысвяціць незваротны час...

Нядаўна айцец Георгій у саставе дэлегацыі беларускіх свяшчэннаслужыцеляў наведаў Грэцыю, пабываў на гары Афон. Афон — гэта святое месца для вернікаў.

— Мару ў Іерусалім з'ездзіць,— гаворыць ён.

У Іерусаліме вось ужо сем гадоў працуе сярэдні з сыноў Пятра Латушкі—Мікіта. Наогул па нараджэнню дык ён Сяргей. Пасля школы паступіў у Гомельскі чыгуначны, закончыў чатыры курсы. Але пасля, як і Георгій, крута змяніў лёс — паступіў у духоўную семінарыю. Калі прыняў манаства, далі імя Мікіта.

Пасля заканчэння Ленінградскай духоўнай акадэміі застаўся там выкладчыкам. Потым работа ў Іерусаліме сакратаром Духоўнай місіі. Цяпер — начальнік місіі. Праблем хапае. Калісьці рускія паломнікі купілі там зямлю. Было гэта яшчэ да рэвалюцыі. А пасля другой сусветнай вайны савецкі ўрад пачаў прадаваць гэту ўласнасць вернікаў, больш дакладна мяняць на... цытрусавыя. Што яму да праваслаўных святынь, да гісторыі, да веры...

Мікіта піша навуковую працу па... Дастаеўскаму. Спытаеце, якія адносіны мае вялікі рускі пісьменнік да багаслоўя?

— Фёдар Міхайлавіч быў чалавекам набожным,— расказвае айцец Пётр.— У яго творах пакуль што не вывучаны багаслоўскі пласт, які, думаю, па глыбіні раўназначны філасофскай і іншым граням творчасці пісьменніка.

Малодшы з сям'і Латушкі — Павел — служыць у царкве, якая знаходзіцца ў пасёлку Ракаў, непадалёку ад Мінска.

У свой час айцец Пётр Латушка чатыры гады правёў у Злучаных Штатах. Атрымаў невялікі прыход у мястэчку Пайм-Буш. Акрамя выканання прамых абавязкаў свяшчэнніка, займаўся сельскай гаспадаркай, рамонтам храма. Усё рабіў сваімі рукамі, нават купал змайстраваў і паставіў.

Службу спярша служыў на англійскай мове, але потым вернікі папрасілі перайсці на рускую. У асноўным жа гэта былі эмігранты, якія пакінулі сваю краіну шмат гадоў назад. Спачатку ў царкву прыходзілі жыхары навакольных вёсак, затым сталі прыязджаць і з вельмі аддаленых, за сотні вёрст...

Шчыра прызнаюся: айцец Георгій прасіў не расказваць пра яго сям'ю, казаў: «Няёмка гэта...»

І ўсё ж мне думаецца, што людзі павінны ведаць пра тых, хто нямала зрабіў для захавання і адраджэння веры сярод беларусаў. Аб тых, хто нават у самыя цяжкія часіны не губляў надзеі і ніколі не сумняваўся, што наступяць такія дні, калі зноў пачнуць шанаваць вучэнне Хрыста на нашай зямлі, як і раней.

Гэты час яшчэ не надышоў. Але намаганнямі сям'і Латушкі і іншых падзвіжнікаў ён значна наблізіўся.

— У праваслаўі,— гаворыць Георгій Латушка,— галоўнае: любоў да бліжняга, духоўнасць. Хрыстос прыходзіць да нас з добрымі людзьмі...

І сапраўды. Хрыстос прыходзіць да нас з добрымі людзьмі. Ён прыходзіць, але не кожнае разлютаванае сэрца прымае яго. Не, не просты шлях да ісціны. Але шчаслівы той, хто ступіў на гэты шлях...

**Уладзімір САМОЙЛАЎ.**
**Фота Міхаіла Жылінскага.**

# З ВЕРАЮ Ў АДЗІНСТВА І ДУХОЎНАСЦЬ



«Хвала Езусу Хрыстусу!» — гэтыя словы хвалы Збавіцелю ўпершыню прагучалі тысячу гадоў назад на старажытнай беларускай зямлі, якая датуль не ведала Імені Жывога Бога. Словы хвалы Сапраўднаму Богу былі прынесеныя місіянерамі Адзінай Усяленскай Царквы. У самым цэнтры старажытнай Беларусі, у Полацку, тысячагоддзе назад была ўтворана першая дыяцэзія, першае біскупства.

Прыняцце хрысціянства, несумненна, адна з самых важных і значных падзей у нашай гісторыі.

Цяжка пазбаўляўся народ ад сваіх ранейшых вераванняў і звычаяў, ад пакланення ідалам, да якога ён так прывык і з якім зжыўся, забыўшы пра сваё духоўнае ўдасканаленне, пра ачышчэнне ад грахоў і ўсялякага зла. Бо нашмат лягчэй і прасцей удасканальваць і абельваць ідалаў, чым удасканаліць і ачысціць сябе самога. Гэтак жа і ў наш час — лягчэй вучыць кагосьці іншага, лягчэй ім кіраваць і камандаваць, чагосьці патрабаваць і абурацца, чым быць патрабавальным да сябе, чым сябе ўдасканальваць.

Адзіным і бязгрэшным быў Збавіцель. І калі сёння нехта скажа, што не мае граху, што не мае патрэбы ачышчэння,— скажа няпраўду.

Дзеці, якія гуляюць у пясочніцы, усе аднолькава перапэцканыя ў пясок, ды раптам знаходзіцца адзін, які кажа: «Якія вы ўсе брудныя, а я чысты!» Але калі маці падвядзе яго да люстэрка і ён убачыць сваё адлюстраванне, то зразумее, што і ён таксама брудны.

А хіба мы чыстыя, жывучы ў гэтым свеце, як у адной вялікай пясочніцы? Наша святая Апостальская Царква, якую ўзначальвае адзінства Папы і патрыярхаў, усхваліўшы Жывога Бога, Тварца неба і зямлі, як добрая і любячая Маці, прынесла зямлі нашых продкаў люстэрка — хрышчэнне.

Паглядзі на сябе, ты, чалавек вялікай пясочніцы, што гуляеш сваім жыццём і лёсамі іншых, паглядзі ў ваду святога хрышчэння — свайго сумлення — і адмыйся.

Хрышчэнне — гэта вялікая перабудова мыслення і духу, гэта позірк на сябе і ачышчэнне, гэта духоўная рэвалюцыя, бо Дух — ёсць жыццё. Так як дрэва ўвосень скідае старое лісце дзеля новага, гэтак і душа чалавечая павінна ачысціцца ад грахоў дзеля свайго абнаўлення, дзеля новага жыцця.

Папа Ян Павел II сказаў: «Хрышчэнне, якое на працягу цэлага тысячагоддзя прымалі пакаленні нашых продкаў, не толькі далучала іх да таямніц смерці і змёртвыхпаўстання Хрыстуса, не толькі рабіла іх дзецьмі Божымі праз ласку, але пастаянна знаходзіла багаты рэзананс у гісторыі думкі, у мастацкай творчасці — паэзіі, музыцы, драматургіі, пластыцы, жывапісе і скульптуры».

Але чаму пакутуе сёння чалавек? Ён, які лічыць, што ўсё можа стварыць сваімі рукамі, як Бог. А таму, што ўсе мы хочам жыць добра, шчасліва, забываючы элементарную ісціну: ніхто не дачакаецца ўраджаю з поля, не засеяўшы яго папярэдне. Хочам мець добрае жыццё, добрых людзей вакол сябе, але забываем, што гэта ўжо канчатковы вынік, прадукт нашага ж духу, які кожны чалавек мае ў сабе, як зерне.

Бог хоча бачыць нас у сонме святых. Ён, абнаўляючы нас Хрышчэннем вады і Святога Духа, прымае нашае шчырае пакаянне, хоча, каб рай быў на зямлі, сярод людзей і мы разам з ім у вечнасці. Госпад палюбіў нашу зямлю і наш народ, але хіба толькі тады, у часе хрышчэння? Яго любоў да нас была праліта яшчэ на крыжы, праз свайго Адзінароднага Сына Езуса Хрыстуса, нашага Збавіцеля. Дык давайце ж і мы памятаць аб людзях, якія трапілі ў бяду, давайце адкрыем душы нашы насустрач чужому гору і сваім разуменнем, спачуваннем, міласэрнасцю дапаможам ім. Бо сказана ў Біблії: калі ўбачыш каля сваіх дзвярэй жабрака, падумай пра тое, што заўтра ты, можа, будзеш бяднейшы за яго. Рабі тое, што годна ўзнагароды, але не шукай узнагароды. Бо гэта пад выглядам няшчасных, гаротных, убогіх Хрыстус стукае ў многія дзверы хрысціянскіх хат. Прымаючы іх, мы прымаем Збавіцеля.

Чалавецтва перажывае вялікі духоўны заняпад. Людзі задыхаюцца ад недахопу духоўнага кіслароду. Знаходзячыся ва ўладзе бязбожнасці, чалавек укрыжаваў любоў, страціў душу, сваё духоўнае «я». І вельмі балюча, калі людзі не разумеюць, што, акрамя нашага цела — тае матэрыяльнае абалонкі, якую мы бачым, ёсць у чалавеку і духоўны пачатак, ёсць самае каштоўнае, што Бог даў нам,— душа: «Бачнае часова, а нябачнае — вечна» (2 Кар. 4:18). Кожны чалавек павінен найперш разабрацца, што каштоўней — бачнае ці нябачнае.

Нам так патрэбна цяпер духоўнае ачышчэнне, вера, малітва. А мы часта забываем пра сілу малітвы, бо прывыклі спадзявацца толькі на сябе, толькі ў сябе верыць. Але ж малітва мае такую ж сілу, як і вада для пасеваў: няма вады — няма росту, расліна засыхае, а ў выніку няма ўраджаю — пачынаецца голад. І калі ў хрысціяніна няма духоўнага плёну, таго самага ўраджаю, то гэта ў першую чаргу таму, што ён мала моліцца ці малітва яго няшчырая.

У часе святкавання вялікай даты — тысячагоддзя хрысціянства на Беларусі, разважаючы аб духоўнасці народа, яго еднасці з Богам, мы не можам не думаць аб адзінстве Святой Царквы, бо ведаем, да чаго прыводзіла людская нязгода ў Ёй на працягу ўсіх стагоддзяў. Цяпер мы імкнёмся адзін да аднаго, падаем руку ўзаемаразумення і адзінства. Лічу, што гэта вельмі правільна. Бо Хрыстус пакінуў нам адну Апостальскую Царкву, і ўсе мы павінны быць адзінага духу і адзінай любові да Бога. Тут, на зямлі, перад намі перашкоды, але на нябёсах іх няма, там вечная любоў Бога да бліжняга...

У некаторых выпадках мы не пярэчым супраць прыняцця каталікамі Святых Дароў у праваслаўных храмах. У сваю чаргу праваслаўныя таксама спавядаюцца і прымаюць Камунію ў касцёлах, калі паблізу няма цэркваў. Праваслаўныя людзі моляцца і ўдзельнічаюць у нашых набажэнствах. З узаемнае згоды мы здзяйсняем хрышчэнні. Гэтаксама даём шлюб. Хаваем праваслаўнага нябожчыка, калі ён быў веруючым. Асвячаем дамы і магілы праваслаўных вернікаў па іх просьбе. Стараемся навучаць веры на той мове, на якой гаворыць народ. Асабліва актуальная для нас усіх гэтая праблема цяпер, пад час нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Мы марым пра экуменізм, а прасты веруючы народ нас ужо аб'яднаў. Ён, як малое дзіця, цягне сваіх бацькоў да згоды і прымірэння. І нам, духоўным архіпастырам і пастырам, трэба не толькі прызнаць гэты факт, але і жыць у міры і згодзе, тым болей, што мы стаім на варце самага запаветнага, што нам дадзена Святая Апостальская Царква, будучы адзінаю.

Пра святасць Царквы клапоціцца сам Езус Хрыстус, а за яе адзінства адказваем мы.

Праваслаўны святар з Гомеля аднойчы сказаў: «Мы і народ жадаем, каб была адна паства і адзін пастыр. Каб насталі тыя добрыя дні, калі Папа Рымскі Ян Павел II і наш Святейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій служылі адну службу і прымалі святыя тайны з аднаго келіха». Гэта, канечне, вельмі добра, але хіба тады Царква будзе адзінаю, калі Папа Рымскі і Маскоўскі Патрыярх стануць перад адным алтаром? Перш за ўсё патрэбен адзіны Божы Дух. Дэкан каталіцкага прыхода ў Гродне на святкаванні тысячагоддзя Хрышчэння Русі выказаў цікавую, на мой погляд, думку: «Калі б у тыя старажытныя часы былі такія тэхнічныя магчымасці кантактаў, як радыё, самалёт, цягнік,— не наступіла б ракавога раздзялення нашай хрысціянскай Царквы».

Пэўна, не існавала б Неба, калі б там было такое дзяленне хрысціян, як на зямлі, бо, як сказаў Езус, «Раздзеленае царства не ўстаіць».

У нас цяпер ідзе працэс абнаўлення, пераацэнкі мінулага. Гэта абнаўленне закранула і Царкву: вяртаюцца народу і аднаўляюцца скалечаныя і апаганеныя храмы, нарэшце нам дадзена магчымасць унесці свой уклад у грамадскае жыццё айчыны, у духоўнае выхаванне людзей. Спадзяюся, што з Божаю дапамогаю Царкве ўдасца прычыніцца да выхавання ў нашых людзях такіх якасцей, як сумленнасць, дабрыня, паслушэнства, любоў да бліжняга...

Папа Ян Павел II нястомна наведвае ўсё новыя краіны Свету з міратворчаю місіяй, даючы гэтым зразумець сапраўднае прызначэнне хрысціяніна на зямлі.

Вельмі няпроста і часам пакутліва цяжка здзейсніць подзвіг хрысціянскае веры. Цяпер многія з нас перажываюць пастаянную трывогу і неспакой перад будучым. Страх, жорсткасць, варожасць усё глыбей пускаюць свае карані ў сэрцах людзей і выклікаюць усё большае раздзяленне ў грамадстве. Адны спадзяюцца знайсці супакаенне ў раўнадушшы і забыцці, другія шукаюць яго ў п'янстве, трэція — у пагоні за матэрыяльнымі дабротамі. Але разам з тым усё больш становіцца тых, хто паварочваецца да веры, хто спадзяецца на Божую міласэрнасць, усімі сіламі свае душы стараючыся заслужыць яе.

Памерлы і змёртвыхпаўсталы Езус Хрыстус абдорвае нас праз Духа Святога моцаю і сілаю, каб мы маглі перасіліць той страх, які нас прыгнятае, перамагчы недавер і непрыязнасць адзін да аднаго і заўсёды знаходзілі ў сабе святыя пачуцці міласэрнасці, любові, спагады да бліжняга.

Вельмі хочацца спадзявацца на сустрэчу другога тысячагоддзя нараджэння Езуса Хрыстуса дружную хрысціянскаю сям'ёю перад адзіным Божым алтаром.

Благаславі, Божа, нашых Архіпастыраў і Біскупаў.

Благаславі наша духавенства на Беларусі, як праваслаўнае, так і каталіцкае.

Благаславі, Божа, увесь наш народ на наступнае тысячагоддзе.

**Ксёндз Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК,**
**настаяцель касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску.**
**Фота Вячаслава ДУБІНКІ.**

# АБРАЗОК, КАТОРЫ ЁСЦЬ СЁННЯ НАЙСТАРАЖЫТНЕЙШЫ З УСІХ У ЗЯМЛІ НАШАЙ...



*...і рушыў рымскі імператар Канстанцін у чарговы паход.*
*І сталася знаменне яму ў дарозе — крыж нябескі.*
*І перамог імператар ворагаў. І ўверавау у Таго,*
*хто смерць крыжовую прыняў.*
*І паслаў Канстанцін людзей сваіх шукаць крыж*
*той на гары іерусалімскай.*
*І знайшлі яны месца пакуты Хрыстовай.*
*І цалаваў Канстанцін крыж той, і маці ягоная Алена*
*цалавала на знак вечнасці веры сваёй у Сына Божага.*
*І ўшанавалі полацкія разьбяры памяць пра тое*
*ў каменным абразку, каторы ёсць сёння*
*найстаражытнейшы з усіх у зямлі нашай...*



Маці Божая Замілаванне.



Хрыстос Валадар (Пантакратар).

## Абразы невядомых беларускіх мастакоў дзевятнаццатага







● Панцеляймон Лекар.



● Мікола Цудатворац.

стагоддзя з Гомельшчыны (прыватны іканаграфічны збор)

# «СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТВА ДЫ І НЕ ЎВАХОДЗІЛІ Ў СКЛАД РУСІ АХРЫШЧАНЫ УЛАДЗІМІРАМ...»

У адрозненне ад усходніх беларускіх зямель на заходніх амаль да XV стагоддзя існавала паганства. Гэта была апошняя цвержа славяна-балцкага язычніцтва ў Еўропе.

Чаму так адбылося, нельга разабрацца, калі мы не ўдакладнім геаграфічную карту старажытнай Беларусі. Няма патрэбы даводзіць, што летапісная Літва, якая і дала назву буйнейшай сярэдневяковай дзяржаве, знаходзілася ў Верхнім Панямонні. Гэта пераканаўча давёў Мікалай Ермаловіч і арыенціровачна вызначыў межы старажытнай Літвы «ў прасторы паміж Менскам і Наваградкам з усходу на захад і паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень». Я думаю, межы старажытнай Літвы былі куды шырэйшымі. Так на захадзе літвінская мяжа праўдападобна сягала да Дняпроўскай Беразіны.

На поўдні ж літвінская мяжа, пэўна, сягала да рэчкі Ясельды, бо «Хроніка Літоўская і Жамойцкая» адзначала, што рускія дружыны пававалі літвінскія землі — аж «за Ясельду». На захадзе на лініі Пружаны—Ваўкавыск—Гарадня ішла мяжа літвінаў і ятвягаў. А на поўначы ў раёне Крэва, Ашмян і Гальшан пачыналася Нальшчанская зямля, або Нальшчаны.

У старажытнай Літве знаходзілася і «Литва Миндовга», названая імем першага валадара Вялікага княства Літоўскага. Міндоўгавы землі ляжалі паміж Наваградкам і Здзітавам. На гэта дакладна ўказваў у сваёй «Хроніцы» Мацей Стрыйкоўскі: «...а самыя (галіцка-валынскія дружыны.— **В. Ч.**) ад Наваградка да Здзітава, бурачы і пустошачы краіну Мендогаву і шмат замкаў літоўскіх пабраўшы».

Сучасную Летуву складалі землі Жамойціі, Аўкштайціі, Угітэ, Дзяволтвы, і толькі пазней, калі яны ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, на іх распаўсюджвалася назва Літва. Але, прыкладам, яшчэ пры канцы XIV ст. раён Трокаў не лічыўся Літвой, так, заваяваныя Ягайлам Трокі лічыліся «впавши до Литвы».

Збліжала балтаў і славян-паганцаў агульнасць пантэона паганскіх багоў. Так літвінскі бог грому Пяркунас — гэта славянскі Пярун, бог святла Корас — у славян Хорас, бог зямлі Земенікас — у славян Земенік, бог падзямелля Пеклус — у славян Пекла, бог нябёсаў Велемас — Велес, бог вайны Кавас — Кава, агульная для славян і балтаў-літвінаў багіня кахання Лада. І вечны агонь, які гарэў перад стодам Перуна, называўся Знічам — ад славянскага «знікаць, знічка».

І таму, што старажытная Літва ды і іншыя балцкія землі не ўваходзілі ў склад Русі, дык яны і не былі ахрышчаны Уладзімірам.

З узвышэннем Русі і Полацкага княства Літва становіцца аб'ектам іх заваёўніцкай палітыкі. Калі палачане і дрыгавічы паступова каланізавалі Літвінскае памежжа і засноўвалі свае гарады Менск, Заслаўе, Браслаў, Гарадок, дык кіеўскія русы робяць шэраг паходаў у глыб Літвы і Етвязі. У выніку паходу Яраслава ў 1044 годзе Літва была заваёвана. На яе землях Яраслаў пабудаваў цвержу Наваградак. Першым хрысціянскім асяродкам на Літве стала Заслаўе, дзе княгіня Рагнеда пры канцы X ст. заснавала жаночы манастыр. Пазней Усяслаў Вешчая Душа пабудаваў у Менску Узнясенскі манастыр, дзе жыў славуты Баян. У 1130 годзе кіеўскі князь Мсціслаў пасля паходу ў Літву заклаў у Нава-



# ІНШЫЯ БАЛЦКІЯ ЗЕМЛІ ДЫК ЯНЫ І НЕ БЫЛІ

**Віктар ЧАРОПКА**

градку царкву. У другой палове XII ст. у Гародні, Ваўкавыску, гарадах, што ўзніклі ў выніку каланізацыі Етвязі, узведзены мураваныя цэрквы. Прыкладна ў гэты час Ефрасіння Полацкая заснавала ў Менску жаночы манастыр.

Але казаць пра актыўную місіянерскую дзейнасць праваслаўных святароў на Літве не выпадае. У гістарычных крыніцах пра гэта няма ніводнай згадкі. Болей таго, у кіеўскіх і полацкіх цэрквах на Літве і Етвязі разам з хрысціянствам мірна ўжывалася паганства. Так у Навагрудку захавалася да XV ст. капішча Перуна, і прыклад з нядаўніх часоў — наяўнасць у Менску паганскага каменя, да якога яшчэ ў 60-я гады нашага стагоддзя прыходзілі пакланіцца.

Першых жа каталіцкіх місіянераў у балцкіх землях чакала смерць. Загінуў ад жамойтаў біскуп Войцэх-Адальберт са сваімі паплечнікамі. Ятвягі забілі ў 1005 годзе на «мяжы Русі і Літвы» манаха Бруна, які прапаведаваў ім хрысціянства.

Але актывізацыя вайсковых паходаў літвінаў, ятвягаў і прусаў на суседнія хрысціянскія краіны паспрыяла і пранікненню хрысціянства на Літву, Етвязь, Прусію. Палонныя — хрысціяне і неслі паганцам хрысціянскую веру. І калі ў сярэдзіне XIII ст. ірландскі манах наведаў Жамойцію і Літву, дык адзначыў, што ў адрозненне ад жамойтаў, у якіх ніхто «не прамаўляе слова Божага без мяча», літвіны, ятвягі і нальшчаны «лёгка ахрышчваюцца, бо ад самых пялюшак гадаваліся хрысціянскімі нянькамі».

З'яўленне ў XIII ст. спачатку ў Лівоніі, а пасля ў Прусіі крыжакоў настроіла паганцаў варожа да хрысціянства. Метады, якімі неслі рыцары паганцам хрысціянства,— заваёва іх зямель, гвалтоўнае хрышчэнне, знішчэнне непакорлівых, рабаванне і разбурэнне паселішчаў,— прымусілі іх узяцца за зброю. Рыцары для іх былі перш за ўсё заваёўнікі — ворагі, а таму Хрыстос — варожы бог. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне, крыжакі скарылі і ахрысцілі прусаў, ліваў, селаў, куршаў, эстаў, земігалаў. Паганцамі заставаліся літвіны, жамойты, аўкштайты, нальшчаны, ятвягі. Іх хрышчэнне было справай часу.

І вось у 1246 годзе адзін з буйнейшых літвінскіх князёў Міндоўг, як паведамляе Густынскі летапіс, «приять веру христианскую от Востока со многими своими бояры... непомнозе же сын его Войшелк пострижене во иночество». Праўдападобна, што Міндоўг быў васалам навагрудскага князя Ізяслава. Гэтым і можна растлумачыць, чаму літвінскі князь выгнаны з Літвы сваімі праціўнікамі, «за ворожьство с ними» уцёк у Навагрудак. Верагодна, на той час князь Ізяслаў памёр і на яго нае месца навагрудцы абралі Міндоўга, таму і павінен быў ён прыняць праваслаўе. На чале навагрудскай дружыны Міндоўг заваяваў Літву і далучыў яе да Навагрудка.

Лагічным працягам гэтых падзей павінна было стаць хрышчэнне Літвы, але ўстрывожаны ўзмацненнем Навагрудка галіцка-валынскі князь Данііла пачаў супраць яго вайну. На баку Галіцка-Валынскага княства выступілі Етвязь, Жамойція, Лівонскі ордэн і літвінскія князі, якія не прызналі Міндоўгавай улады. Міндоўг вымушаны быў весці перамовы з лівонскім магістрам Андрэем Сцірландам. «Не выратуешся і не пераможаш ворага, калі не пашлеш да папы і не прымеш хрысціянства»,— заявіў магістр.

Міндоўг разумеў, што ў выніку пераходу з праваслаўя ў каталіцтва (а для католікаў праваслаўнае хрышчэнне лічылася «схізматычным») яму ўдасца заручыцца падтрымкай папы рымскага і Ордэна, разваліць антынавагрудскую кааліцыю. Ды і акт міжнароднага прызнання Вялікага княства Літоўскага магчымы быў толькі пасля афіцыйнага хрышчэння Літвы. «Так што нарэшце князь (Міндоўг.— **В. Ч.**) абяцаў, што ён прыме хрысціянства»,— паведамляе Ордэнская хроніка. У далёкі Рым з ордэнскімі паслами адправіўся і літвінскі баярын Парнус. Папа Рымскі Інакенцій IV прыняў Літву пад абарону апостальскага пасада і прызнаў Міндоўга літвінскім каралём. Каранаваў Міндоўга ў 1253 годзе ў Навагрудку рыжскі біскуп Альбрэхт.

Аднак першы літвінскі кароль павінен быў лічыцца з супраціўленнем паганцаў. Жамойты адкрыта заяўлялі: «жадаем, каб кароль загадаў перабіць усіх хрысціян, што жывуць у яго, і сам зноў стаў язычнікам і выракся хрышчэння». У такіх умовах Міндоўг імкнуўся не абвастраць адносін з паганцамі і часта ўдзельнічаў у паганскіх трэбах. Хаця і было ўтворана біскупства з рэзідэнцыяй у Любчы, Міндоўг так і не ахрысціў Літву. Прывабленыя шчодрымі абяцанкамі жамойцкага князя Траняты стаць уладаром Жамойціі і Лівоніі, Міндоўг выракся хрысціянства.

Пасля таго як Жамойція з дапамогай Літвы адбілася ад Ордэна, Транята расправіўся з Міндоўгам. Да ўлады ў Літоўскай зямлі прыйшоў паганец Транята, які звязеніў усіх хрысціян, што жылі там. Нядоўга ўладарыў Транята — ён сам стаў ахвярай змовы. Змоўшчыкі запрасілі ў Літву Міндоўгавага сына Войшалка, які раней прыняў манаства і заснаваў паміж Навагрудкам і Літвой у Лаўрышаве манастыр. На чале навагрудскай і пінскай дружын Войшалк прыходзіць у Літву, заваёўвае Дзяволтву і Нальшчаны.

Ахрысціць гэтыя землі новаму ўладару не ўдалося. Галіцкі князь Леў Данілавіч забіў Войшалка.

Наступнік Войшалка на Навагрудскім пасадзе Тройдзень падаецца Іпацьеўскім летапісцам як зацяты паганец. Незразумела, як Тройдзень мог заставацца паганцам, калі чатыры ягоныя браты «Живуще во светем крещении», а сам ён быў жанаты на хрысціянцы, мазавецкай княгіні Ганне. Трэба думаць, што ўслед за Тройдзеневымі братамі хрысціянства прыняла і частка літвінскіх вярхоў.

Чарговы крок да пашырэння Хрыстовай веры ў Літве зрабіў вялікі князь Віцень. Ордэнскія хронікі сцвярджаюць, што ён быў паганцам. Аднак полацкі епіскап Якаў у грамаце да рыжскага пробста і ратманаў называе Віценя «сынам маім». Так хрысціянскі святар мог назваць толькі свайго духоўнага выхаванца. Адзначым барацьбу Віценя за стварэнне Літоўскай праваслаўнай мітраполіі.

Спрабаваў Віцень усталяваць сувязі і з каталіцкім светам, нават вёў перамовы з рыжскім арцыбіскупам аб хрышчэнні Літвы. І, пэўна, рыхтуючыся да гэтага, Віцень пабудаваў у Навагрудку касцёл Ордэна Мінарэтаў.

Як ні парадаксальна, але галоўнымі ворагамі хрышчэння Літвы сталі ордэнскія рыцары. Яны здзейснілі паход на Навагрудак і спалілі касцёл. Менавіта Ордэн сарваў і спробу Гедыміна ахрысціць Літву, парушаючы мір з Вялікім княствам і падбіваючы жамойтаў выступіць супраць вялікага князя. Сам Гедымін у грамаце да папы Яна XXII прызнаваўся: «З-за крыўд, што нам чыняць (крыжакі.—**В. Ч.**), да сённяшняга дня знаходзімся ў памылках нашых продкаў».

Думка пра хрышчэнне Літвы не пакідала Гедыміна. У 1341 годзе Гедымін запрасіў да сябе 10 каталіцкіх святароў і шмат хрысціян. Як паведамляе чэшскі летапісец Бенеш Вентмілійскі: «Свае ж, параіўшыся, князя атруцілі». «Свае», пэўна, і былі паганцы, якія не жадалі прыняцця хрысціянства.

Здавалася, справу папярэднікаў завершыць Альгерд. І сапраўды, хто, як не ён? Яшчэ будучы віцебскім князем, Альгерд зафундаваў у Віцебску дзве праваслаўныя царквы. Калі ж Альгерд сеў на велікакняжацкі пасад у Вільні, дык загадаў разбурыць паганскае капішча, якое знаходзілася ў Вышнім замку, і ўзвёў прыдворную царкву св. Міхала. Аднак і Альгерд сутыкнуўся з супраціўленнем паганцаў. Цяпер у іх быў моцны лідэр — троцкі князь Кейстут, які дапамог Альгерду захапіць велікакняжацкі пасад. Менавіта з жадання не сварыцца з Кейстутам напярэдадні вайны з Ордэнам і барацьбы з былым вялікім князем Яўнутам і пінскім князем Глебам выдаў Альгерд на расправу трох навахрышчаных літвінаў Няжылу, Круглеца і Кумца. Аднак пазней ягоная другая жонка Ульяна Цвярская загадала на месцы пакарання трох хрысціян узвесці Траецкую царкву. Віленскія пакутнікі за сваё цвёрдае выкананне хрысціянскага абавязку сталі годнымі асаблівай Божай міласці — праваслаўная царква прылічыла іх да ліку святых.

А пазней у 1365 годзе Альгерд жорстка расправіўся з паганцамі, якія забілі некалькі манахаў, запрошаных у Вільню Янам Гаштольдам.

Яшчэ адзін выступ паганцаў адбыўся праз год, гэты раз у Лідзе. Вось запісанае ў 1889 годзе беларускае паданне пра гэтую падзею. «Здарылася гэта быццам яшчэ ў часы, калі ў Літве панавала язычніцтва. Прыйшлі сюды (Ліду.— **В. Ч.**) дзевяць манахаў-францысканцаў прапаведаваць хрысціянскую рэлігію. Аднак літвіны, не жадаючы прымаць хрысціянства, забілі гэтых місіянераў, а трупы ўкінулі ў яму на схіле Лідскага замка».

Альгерд добра разумеў: каб дамагчыся прызнання еўрапейскімі краінамі Вялікага княства Літоўскага як хрысціянскай дзяржавы, патрэбен быў афіцыйны акт хрышчэння Літвы паводле каталіцкага абраду. У чэрвені 1358 года ў Нюрнберг да імператара Карла IV прыбывае Альгердава пасольства на чале з Кейстутам. Паслы заявілі, што Альгерд жадае змірыцца з Ордэнам і прыняць каталіцкую веру. Альгерд гатоў быў выканаць сваё абяцанне пры ўмове вяртання Вялікаму княству Літоўскаму заваяваных Ордэнам зямель, перасялення рыцараў на мяжу з татарамі і «каб Ордэн не ўтрымліваў за сабою ніякага права на рускіх, каб уся Русь належала Літве». На такія ўмовы ні Ордэн, ні імператар не згадзіліся. У адказ Альгерд заявіў паслам: «Цяпер ясна бачу, што вы рупіцеся не пра маю веру, як кажаце, а пра грошы». Так і другі раз з-за карыслівых мэт крыжакоў не адбылося хрышчэння Літвы.

Ягайла, які прыняў Вялікае княства пасля бацькавай смерці, ставіў перад сабой шэраг важных задач — ліквідацыя ўдзельных княстваў, далучэнне да Літвы Троцкага княства і Валыні, перамога над Ордэнам. Становішча новага вялікага князя ўскладнілася непрызнаннем ягонай улады полацкім князем Андрэем і ноўгарадсеверскім князем Дзмітрыем-Карыбутам, якія шукалі заступніцтва ў Маскве. Ягайла, каб нейтралізаваць сваіх праціўнікаў, сватаўся да дачкі Дзмітрыя Сафіі, прапаноўваў яму мір і абяцаў хрысціць Літву ў праваслаўе. Дзмітрый патрабаваў ад Ягайлы васальнай залежнасці — прызнаць сябе «младшим братом». Тады Ягайла выбраў сваім саюзнікам Ордэн, паабяцаўшы саступіць яму Жамойцію. З да-

памогай крыжакоў Ягайла захапіў Трокі і расправіўся з Кейстутам. Аднак сын троцкага князя Вітаўт уцёк да крыжакоў і абяцаннем хрысціць, а пасля сваёй смерці і перадаць ім Жамойцію дамогся падтрымкі Ордэна. Пачалася вайна паміж Ордэнам і Вялікім княствам Літоўскім.

А ў Маскве рыхтаваўся да выступу Андрэй Полацкі. Якраз у гэты складаны для Ягайлы час польскія ўлады прапанавалі яму ажаніцца з дачкою Людовіка Угорскага Ядвігаю, якая атрымала ў спадчыну польскую карону, і такім чынам стаць польскім каралём. Узамен палякі патрабавалі ад Ягайлы далучыць Літву да Польшчы, а пасля і хрысціць яе ў каталіцтва. Ягайла прыняў прапанову. Па-першае, польская карона ратавала яго ад магчымага паражэння ад Вітаўта і Андрэя Полацкага. Па-другое, мацавалася сіла Польшчы і Літвы ў барацьбе з Ордэнам. Па-трэцяе, Ягайла перахопліваў ініцыятыву хрышчэння Літвы ў Ордэна і Вітаўта. Акт падпісання уніі з Польшчаю быў адобраны і Ягайлавымі набліжанымі.

Саступіўшы Вітаўту Троцкае княства, Ягайла памірыўся з ім і выехаў у Польшчу. У Кракаве Ягайла перахрысціўся ў каталіцтва пад імем Уладзіслаў. Пасля каранацыі ў пачатку 1387 г. Ягайла разам з Ядвігай адправіўся на Літву. Караля суправаджалі познанскі, кракаўскі, гнезненскі арцыбіскупы, а таксама шматлікія польскія феадалы.

У Вільні Ягайла склікаў сойм, на якім і пастанавілі: «усіх прыродных літвінаў, без розніцы плоці і стану, што знаходзяцца ў Літве і Русі, да каталіцкай веры й да паслухмянства святому Рымскаму касцёлу прывесці, прыцягнуць, намовіць, ды больш таго — змусіць, калі б да якой секты належалі». Дзеля заахвочвання знатных літвінаў Ягайла выдаў прывілей, паводле якога, той, хто прымаў каталіцтва, мог карыстацца маёмаснымі правамі.

У Вільні па Ягайлаваму загаду быў патушаны агонь Зніч і скінуты стод Перуна (Пяркунаса). Галоўнае паганскае свяцілішча на Літве перастала існаваць. Паганцы чакалі заступніцтва сваіх багоў, убачыўшы іх бяссілле перад руплівымі вялікакняжацкімі слугамі, заявілі, што жадаюць хрысціянства. Ягайла сам тлумачыў ім асновы хрысціянскай веры.

Каб прывабіць паганцаў з глухіх мясцін, ён раздаваў навахрышчаным суконныя кашулі і нагавіцы. Гэтая маленькая хітрасць апраўдалася — у Вільню ў надзеі атрымаць адзежу з'язджалася шмат народу. Святары не паспявалі хрысціць усіх жадаючых. Тады паганцаў дзялілі асобна на мужчын і жанчын. Кожная суполка акраплялася святой вадой і атрымоўвала адно на ўсіх імя.

Некалькі месяцаў Ягайла са святарамі ездзіў па Літве і Аўкштайціі. Разбураліся капішчы, высякаліся свяшчэнныя дубровы, паганцаў хрысцілі. Такім чынам, Ягайла павярнуў у хрысціянства 30 000 чалавек. Не так гэта і шмат, калі ўлічыць, што насельніцтва Вялікага княства складала каля паўтара мільёна чалавек. Але не колькасць неафітаў была важнай, а сам факт афіцыйнага прыняцця хрысціянства апошняй паганскай зямлі ў Еўропе. Вялікае княства Літоўскае стала хрысціянскай краінай.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



Паэзія

Галіна ТВАРАНОВІЧ

## НА ЧЫРВОНЫМ ХОДНІКУ

□ □ □

Маю збалелую матулю,
бы Беларусь
пакутніцу-шыпшыну,
па чырвоным ходніку
вядуць
ласкавыя анёлкі.
. . . . . . . . . . . . .
Верую:
травой зялёнаю збаўлення
барве горкай прарасці.

□ □ □

Мяжа горняга і дольняга
ахоплена полымем,
дзе лёсаносныя светы —
ахвяры сцюдзёнай пакуты,
бы з сухое бярозы паленцы,
паспешліва-роспачна ўгору шугаюць.
На мяжы горняга і дольняга
не красуюць валошкі.

□ □ □

Збягаю
ад глухой паныласці,
атрутнага сумніву
у маленне, расой душы
абмытае —
на светлы шлях,
дзе ўладарыць Існасць.

□ □ □

Вогненная сутнасць свечкі
мроіць маўкліва
аб палымяным дотыку,
каб урэшце спазнаць
імклівасць узыходжання —
свята здзяйснення лёсу.

Мо, гэтак у кожным з нас
гарачае неўмалятка духу
натужліва трызніць аб крылах,
каб у час скарыстаць
сваю спрадвечную сутнасць.

Ды руйнотны вецер шалее.
Сівер марозіць глыбіні.

□ □ □

Ад краю да краю Лёсу —
то цесная сцежка,
то прывольны бальшак.

Праз зачынены час
зрэдку ўчуеш
сэнс Шляху —
цярпенню ўзнагарода.

□ □ □

Ля студні маленства,
пад хатай з бярвенцаў,
натолены ўдосталь
бруістай вадзіцай,
барву церпкую спеляць
у лісці зялёным
зялёныя гронкі
агністай каліны —
матулінай рукою
пасаджанай.

□ □ □

Наканавання абдымкі
множаць сівую журбу.
Перасыхаюць летнія дні...

Над хатай і белым Сусветам —
споведзь салёнага воблака.
Мама цяжка хварэе...

Валянціна АКСАК

## ПРЫСТУПКІ

### Трэцяя

Кволяцца тонкія целы васковак,
цвыркае кнот,
як малы верабей,
а кандэлябры нянаскае коўкі
бліскаўкі шлюць у праёмы дзвярэй.

Там,
за парогам празрыстае проймы
часу цячэнне
мяне забярэ,
зноў у свабоднага неба абдоймы
моўчкі ўвайду,
як зышла з яго ў грэх.

Бліскаўкі шлях усцілаюць усцешны,
радасць вяртання праменіць вакол,
вось ужо ёсць і прагалы ў падстрэшшы,
момант —
ды гойстрага скіпетра ўкол.

Прывід які паўстае на дарозе?
Бачу пад пыльнікам схованы прэнг,
грузнае цела ў страшэннай знямозе
йдзе да мяне,
нібы неруш арэ.

Збоч ад яго
хтось знаёма-прывабны,
у мройнай паставе —
цярпенне вякоў,
рукі абвіслі лазой вінаграднай,



толькі па шчоках —
ці слёзы?
Ці кроў?

Хто вы?
Й чаму,
як пякельныя свечкі,
хціваю ноч спрабавалі сагнаць,
дзень высвячаючы
ў шлях старасвецкі,
вартай паўсталі
на выхадзе
з дна?..

## Дзевятая

Згоркнуў дзень,
загарэлася пасма заходу,
прыгаломшаны грак
пракружляў і прапаў,
хмара йдзе,
крываваяць парэзы з-пад споду,
адзінока ўціскаецца
ў поплаў
капа.

Лёгкі ўзлёт —
і прыкутыя ветрам да неба
галубіныя душы
на фоне дажджу,
з прыбудоўкі пад стрэху — дзяжу,
хай не льецца вада
без патрэбы
гніллю ў плот.

Кволы згук —
расплёскалася з кварты гарэлка,
памінальныя кроплі
плывуць у прыпол,
і пустой зіхаціць побач з чаркай талерка,
спрытных рук
больш не выпусціць
стоўчаны дол.

## Саракавая

Бачыш,
мой любы,
над полем бялее
воблачка дзіўных абрысаў.
Соннага збожжа
салома старэе,
вецер сціхае
і знойку шалее,
дождж,
далей снег пацярусіў.

Воблачка вісне
над месцам адзіным,
вецер не даў з ім управы.
Тыя, што ў жыце,
рудыя ўжо травы,
а на паўзмежках пракосы атавы,
вэлюм на іх
з павуціны.

Бачыш,
мой любы,
у мроіве белым
воблачка прагнага пляму —
быццам
азонная чорная яма
усмоктвае ў прорву
чароўныя спевы
гусляў тваіх нечуваных,

Я ўжо стамілася, чуеш,
мой любы,
быць нерухомай,
як час,
аблачынкай.
Цела,
даўно набрынялае згубай,
ты ўжо забыўся,
напэўна,
мой любы.

Кінь жа ў аблокі
кахання пясчынку,
І Херувім
табе
Вечнасць
пратрубіць.

---

**Мар'ян ДУКСА**

## З КНІГІ «ГОРН ПРЫМІРЭННЯ»

□ □ □

Чыіх памкненняў адгалоскі,
што адбыліся ў пахкім цвеце,
вы, цудадзейныя пялёсткі?
Хто вас паслаў з'явіцца ў свеце?
Хто ж ён, да радасці ахвочы,
далёкі творца невядомы,
што хоча так папесціць вочы,
дзе заплыла хмурынка стомы?
Хоць раз, хоць зводдалі няхай бы
ён паказаў свой пэндзаль хітры.
Адкуль свае бярэ ён фарбы —
з нябеснай ці зямной палітры?
Лагодны, ветлівы і ясны,
ваш позірк ўсё-такі шматзначны.
Ля ног рассыпаліся шчасна —
ганцы таго, хто нам не бачны.

□ □ □

Вятрыска, колкі снег, зіма.
Адзінае — тваё імя
мне свеціць, бы спакойны месяц,
цяпер, як не знаходжу месца.
Скразная золь, настырны холад.
Мне ён ніхто — азызлы горад,
яго душа, яго натура,
адметная архітэктура,
фасад і чорны двор ягоны,
пчаліныя мікрараёны,
дзе не знайшоў кутка сабе я.
Сагрэць ягоны сквер не ўмее.
Раскінуў голле парк пусты.
Адзіная каштоўнасць — ты...
Малая цёплая іскрынка.
Не знаю, у якім будынку
(чыя ці, можа, нічыя)
трапечацца душа твая.
Плыве твой позірк малады
ізноў праз камень і гады.

□ □ □

Ці патушыла спёку вуснаў ноч?
Бяздонную ці наталіла смагу?
Ці рады дню,
ці хочацца працягу —
святла і часу гулкага наўзбоч?
Чым скончыўся ўтрапёны позні баль,
дзе ў скрыпцы першай і апошняй — цела?
А вось душа паслухаць што хацела —
ці шум крыві,
ці ў небе пастараль?
Пад месяцам блукала давідна,
плыла павольна над зямлёю цёмнай.
Бязважкай, сумнай, чыстай і бяздомнай
хмурынкаю жадала быць яна.

□ □ □

Агонь душа душы нясе...
Дарэмна слоўнікі гартаць:
як нежывыя, словы ўсе —
не могуць факеламі стаць.
І па-вясенняму шумець
не ўмеюць, лапушыцца веццем
не здольныя. Яшчэ ледзь-ледзь —
зашалясцяць асеннім смеццем.
А што здзіўляцца? Доўгі шлях
ім скасаваў і бляск і шчырасць.
Хадзілі доўга па руках —
даўно ўжо страцілі цнатлівасць.
І паспрабуй цяпер адсей
ад пустазелля дзеясловы.
Фальшыманетчык-фарысей
пакінуў пудзіла ад мовы.
Дарэмна я пра заняпад...
Як сэрца, мова будзе грукаць.
Адно б, як слабых куранят,
нам слоўца кожнае адхукаць.

□ □ □

Гісторыі грымучы цеплавоз,
ты запраўляўся доўгі час крывёю.
О, колькі нас зрабілася травою,
каб ты кудысьці сябе нёс і нёс.
Ты не адзін падмяў пад колы лёс,
твой апетыт зубаста-непамерны,
твой рухавік — як молах ненажэрны,
гісторыі галодны цеплавоз.
Валіліся народы, як снапы,
твой шлях пустэчай значыўся навокал.
Хоць ты праехаў, зрэшты, недалёка,
ты круцішся на месцы, як сляпы.
Як ачмурэлы, рвешся на таран,
руйнуючы наўкруг усё святое...
А можа, ўсё-ткі паліва не тое —
дыспетчары цябе ўвялі у зман.
Наканаваны не асіліш крос
з драпежнай хваткай, з норавамі звера...
Энергія ж твая — любоў і вера,
гісторыі разбойны цеплавоз.

□ □ □

Не клічце на падмогу
вы Бога: ён жа маг...
Якая справа Богу
да вашых вечных звяг?
Якая справа Богу
да вас, зайздросны люд?
Караць ён будзе злога
не зараз і не тут.
Вам прэмію ў канверце?
Нябесны бутэрброд?
Ён не дае, паверце,
зямных узнагарод.
У вас жаданняў многа —
вялікія вазы.
Якая справа Богу
да ўсякай драбязы.
Хіба гасіць ён будзе
шал вашай галавы —
настолькі ўсё-ткі, людзі,
заблыталіся вы!
Калі гняце знямога,
бярэ жыццё ў палон,
не праклінайце Бога —
не вінаваты Ён!
І крыўдзіцца не трэба
за горыч дзён і спраў...
Ён нам не бохан хлеба —
Ён нам Дарогу даў!





Каталіцкі касцёл на Полачыне мае 800-гадовую гісторыю. У XII стагоддзі ў Полацку закладзены першыя каталіцкія парафіі. На пачатку XV стагоддзя касцёлы тут фундаваў вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт. Праз нейкі час пяць кляштараў узнеслі свае святыні па-над Дзвіною. У гісторыю Беларусі сваю старонку ўпісаў і езуіцкі калегіум. У канцы XVIII ст., перад далучэннем Беларусі да Расіі, у Полацку і яго ваколіцах было 6 мураваных і 4 драўляных рымска-каталіцкіх касцёлаў. Але ў XIX стагоддзі расейскі ўрад пачаў наступ на каталіцкія святыні: у Полацку былі скасаваны бернардзінскі і францысканскі кляштары, касцёл айцоў бернардзінцаў перабудаваны пад царкву, а францысканскі касцёл св. Антонія знішчаны. Быў зачынены езуіцкі калегіум, а таксама ліцэй айцоў піяраў, адмысловы езуіцкі касцёл св. Францішка Ксаверыя быў перабудаваны пад Мікалаеўскі сабор, падобны лёс напаткаў і астатнія святыні. Падамініканскі касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі ружанцовай доўгі час заставаўся адзіным парафіяльным касцёлам. Апошні будынак касцёла быў знішчаны ў 60-х гадах нашага стагоддзя.

# КАСЦЁЛ ЗНІШЧАНЫ... КАСЦЁЛ ЖЫВЕ

ДЫЯЛОГ ПІСЬМЕННІЦЫ ІРЫНЫ ЖАРНАСЕК З АЙЦОМ ЯНУШАМ СКЭНЧЭКАМ

**— Ойча Януш! Калі два гады таму я выпадкова трапіла на святую імшу, якую вы праводзілі пад восеньскім дажджом каля Сафіі, мне спачатку здалося, што я трапіла на чарговую інсцэніроўку. Тым больш, што было гэта пасля гучнага свята ў гонар Францішка Скарыны з яго шматлікімі прадстаўленнямі, дзе былі акцёры ў манаскім адзенні, таўшчэзныя кнігі — падробкі пад Біблію, нават «індульгенцыі», з дапамогай якіх арганізатары шыкоўнага свята адпускалі палачанам іхнія грахі. Спатрэбілася пэўнае намаганне, каб зразумець, што тут, каля Сафіі,— не працяг тэатральнага прадстаўлення, а жыццё, якое яно ёсць. А вы! Што адчувалі вы пад час сваёй першай імшы ў Полацку, які не змог зберагчы для сваіх вернікаў-каталікоў ніводнага касцёла!**

— Напэўна, калі б толькі мог уявіць, у якіх умовах мне давядзецца працаваць у Полацку, наўрад ці адважыўся б сюды паехаць. Гэта цяпер я ўжо загартаваны ў нейкім сэнсе і гатовы да новых непрыемных неспадзяванак, а тады... Ведаў, што ў Полацку не захавалася будынка касцёла, але што не будзе нават звычайнага даху над галавой?!. Таму ў першы дзень уражанне было вельмі непрыемнае, а на другі яшчэ больш прыгнечанае, бо зноў не спраўдзіліся мае надзеі і мы зноў вымушаны былі маліцца на дварэ, парушаючы тым самым закон, які, дарэчы, даволі сурова ставіўся да падобных сітуацый. Калі ж я зразумеў, што ў бліжэйшы час на лепшае не варта разлічваць, то і супакоіўся, і настрой палепшыўся — нягледзячы на тое, што, як і раней, набажэнствы адпраўляліся пад адкрытым небам, што блізілася зіма. Я ўбачыў, што людзі не адступаюцца, а наадварот, іх болей — значыць, гэта ім патрэбна па-сапраўднаму. Потым знайшоўся для нас і невялічкі куточак, дадалося і клопату, штораз новага. За тыя два гады было ўсяго — набажэнствы ў чырвоных ды ленінскіх кутках, кінатэатрах, на вуліцы, але гэта ўжо нашы ўнутраныя праблемы.

**— Наколькі іх было б меней, калі б збярогся хоць бы адзін касцёл...**

— А чаму вы думаеце, што ён не збярогся? Касцёл — гэта найперш вернікі. Ёсць яны — ёсць і касцёл. Першыя хрысціяне цэлыя два стагоддзі збіраліся для малітваў у лёхах, катакомбах, а ў трэцім стагоддзі, дзякуючы ім, Рымская імперыя прыняла хрысціянства. Трэба адрозніваць паняцце мураванага касцёла ад жывога. У Полацку знішчаны мураваны, але застаўся і квітнее жывы.

**— Але мураваны касцёл, на жаль, захаваўся толькі на фотаздымках, у старых часопісах ды кнігах.** Праўда, не толькі архівы берагуць звесткі пра яго, але яшчэ і людзі. Старэйшыя парафіяне, як светлыя часы сваёй маладосці, успамінаюць, у якім касцёле хто з іх браў шлюб, куды маці вадзіла іх да першай споведзі, памятаюць і апошняга полацкага ксяндза Лук'яніна, чым лёсам жорстка распарадзіліся сталіністы, забраўшы яго проста з велікоднай службы ў чорны воран. Пасля таго дня ў Полацку на працягу больш чым паўстагоддзя не адпраўляліся каталіцкія набажэнствы, да таго самага часу, пакуль два гады таму каля Сафіі не адбылася першая пасля зацяглага перапынку імша.

Неяк давялося пачуць ад праваслаўнага святара, што праблемы каталікоў у «праваслаўным Полацку надуманыя», бо жылі ж яны доўгі час без свайго храма, некаторыя хадзілі часам у царкву, могуць і цяпер прыходзіць, могуць і спавядацца ў свяшчэннікаў, могуць і прычасце прымаць — ніхто не забараняе...

— Арыгінальная, увогуле, думка. Толькі, на маё перакананне, калі ёсць каталікі, то яны павінны мець і свой храм, гэтак жа, як і праваслаўныя, пратэстанты, іудзеі, мусульмане і г. д. Скажам, у Польшчы жывуць пераважна каталікі, але ж гэта не азначае, што не павінна быць і праваслаўных храмаў, калі ў іх ёсць патрэба. І яны існуюць — на Беласточчыне дзейнічае некалькі цэркваў, ёсць яны і ў Варшаве, Кракаве, іншых гарадах. Цалкам нармальная з'ява. Што ж тычыцца таго, каб каталікі наведвалі праваслаўны храм, то ў гэтым таксама нічога дрэннага няма. Іншая справа, што часам у падобных сітуацыях здараюцца «маленькія» недарэчнасці. Неяк мае парафіяне з Віцебска расказвалі, як яны хадзілі да споведзі ў царкву. Да споведзі схадзілі, а пасля ім растлумачылі, што для таго, каб прыняць прычасце, трэба вырачыся свае каталіцкае веры — ні больш ні менш.

**— Непаразуменні паміж хрысціянамі, на жаль, ёсць, як ні сумна і ні сорамна пра гэта гаварыць. Здавалася б, што дзяліць паміж сабой людзям адной зямлі, аднаго горада, адной вёскі, але час ідзе, а мы ўсё дзелім і дзелім. І спрэчкі гэтыя найчасцей з-за храмаў, многія з якіх на працягу сваёй пакутлівай гісторыі мянялі назвы, пераходзілі з рук у рукі — усё залежала ад таго, хто на той час быў пры ўладзе. А цяпер, як рэха тых падзей, то там, то тут пачуеш узаемныя абвінавачванні, пошукі новых доказаў, каму калі належаў храм...**

— Старажытныя рымляне вырашылі праблемы ўласнасці вельмі мудра і проста. «Res clamat domino!» (Рэч кліча свайго гаспадара!),— запісана ў іх заканадаўстве, якое да сённяшняга дня з'яўляецца ўзорам заканадаўства для цывілізаваных краін усяго свету. Змена ўладальніка можа адбывацца праз продаж, дарунак, а не праз крадзеж, рабаванне альбо дзякуючы неразумным законам, якія самі ж і парушаюць справядлівасць.

**— На Беларусі цяпер ускладніліся дачыненні не толькі паміж канфесіямі, але і паміж свецкімі ўстановамі культуры і духоўнымі асобамі, вернікамі. Першая эйфарыя з тае прычыны, што храмы пачалі вяртаць вернікам, а святары пачалі з'яўляцца на экранах тэлевізараў, здаецца, прайшла. Здаецца, мізарнее і надзея, што інтэлігенцыя і духавенства пачнуць згодна працаваць на духоўнае**

**адраджэнне народа. Выйшла так, што нас проста стукнулі лбамі, а мы быццам і не зразумелі, што адбылося. Замест ідыліі сумеснай працы атрымалася: з аднаго боку — цэрквы, касцёлы, вернікі, з другога — музеі, канцэртныя ды выставачныя залы, дзеячы культуры. Я заўсёды адстойвала ідэю вяртання храмаў вернікам, але калі на вуліцу раптам выкідваецца музей, які і без таго не багата ў нас, робіцца крыўдна за лёс нашае культуры, не вельмі спешчанай увагаю. Быў час, і яшчэ не такі даўні, калі інтэлігенцыя адваёўвала права на існаванне тых жа музеяў, а цяпер ёй што, гэтак жа, як раней з уладамі, цяпер ваявадь з вернікамі ды святарамі!**

— Я не дасканала ведаю становішча ўстаноў культуры на Беларусі, але па маіх назіраннях, не вельмі шмат будынкаў, пабудаваных менавіта для гэтых мэт. Найчасцей гэта цэрквы, касцёлы, кляштары, іншыя рэлігійныя ўстановы, палацы магнатаў, шляхты, чые нашчадкі яшчэ недзе жывуць на свеце. І ў такім разе, здаецца, зноў жа да месца ўспомніць мудрых старажытных рымлян — Res clamat domino! А экспанаты ў музеях? Значная іх частка зноў жа — уласнасць цэркваў, касцёлаў, асобных людзей. Часам музеі нагадваюць своеасаблівыя склады нарабаваных рэчаў. Падобная ж сітуацыя і на Захадзе, дзе за агромністыя грошы набываюцца экспанаты, якія вырваны з іх арганічнага месца. Калі выбраць з прыгожай мазаікі некалькі каменьчыкаў, хіба не парушыцца яе арганічнасць і наша ўспрыманне яе як твора мастацтва?

**— Уладзімір Караткевіч пятнаццаць з лішнім гадоў таму пісаў, што апошнімі сполахамі дагараюць фрэскі Спаса-Ефрасінеўскай царквы... Нядаўна сучаснікі нібы зразумелі, што гэта не метафара пісьменніка. Цяпер у царкве рыштаванні, ідзе рэстаўрацыя. Дзякуй Богу, тут яшчэ ёсць што рэстаўраваць.**

— З душпастырскага пункту гледжання, трэба як найхутчэй будаваць новыя, можа, нават капліцы — калі няма магчымасцей і сродкаў на храмы. Гэта паможа хутчэй узнавіць духоўнае здароўе людзей, бо калі яно не будзе як след адроджана, то мала надзеі на эканамічныя, палітычныя рэформы. Калі ж усур'ёз клапаціцца пра адраджэнне культуры, то, відаць, і з падмуркаў не шкодзіла б некаторыя падняць — страчана ж на Беларусі гэтак шмат! Вось хоць бы Віцебск. У XVII—XVIII стагоддзях тут з'явіліся ордэны дамініканцаў, бернардзінцаў, піяраў, трынітараў, марыявітак. Але ў сярэдзіне XIX стагоддзя — разбуральны наступ на каталіцкія святыні, у выніку якога большасць храмаў знікла з твару зямлі, некаторыя пераробленыя пад праваслаўныя цэрквы, лютэранскую кірху. Не думаю, што духоўная ды і матэрыяльная культура беларусаў пабагацела ад гэтай зацяглай барацьбы.

**— Ад рэлігійнай, як і ад усялякае барацьбы, ніводная культура, відаць, не можа ўзбагаціцца. Я ўжо не кажу пра маральныя траўмы тых пакаленняў, на чыю долю выпала ўдзельнічаць у гэтай барацьбе. Гэткая ўжо доля беларусаў і нашае культуры. Польскі пісьменнік Казімір Падляскі піша ў сваіх даследзінах пра Беларусь, што, як яму выдае, беларусы заўсёды знаходзяцца на этапе стварэння сваёй культуры і творыцца яна ў жорнах, адзін камень якіх — польская культура, другі — руская. Страшнае параўнанне!**

— Параўнанне было б сапраўды страшным, калі б не ўсведамленне, што з мукі можна спячы жыццядайны хлеб.

**— Але ж якая цана гэтага хлеба! Ды калі нават і так, то хлеб той павінен быць наш, беларускі, спечаны па рэцэпту нашых продкаў. Хацелася б, каб гэтае цалкам натуральнае жаданне разумелі нашы суседзі, у тым ліку і місіянеры. Не прыміце, калі ласка, гэтыя словы на свой рахунак, бо, ведаючы вас ужо два гады, я не магу ўявіць, што асабіста вы маглі б у Полацкім касцёле (нават калі б ён і быў — мураваны) вывесіць партрэт нейкага польскага дзеяча, нацыянальную сімволіку Польшчы альбо заспяваць разам з вернікамі гімн вашай радзімы. Калі б я магла гэта ўявіць, то сённяшняй размовы на старонках беларускага часопіса проста не было б. Кажу гэта не ў якасці камплімента вам і не для апраўдання перад сваімі калегамі па творчым цэху, а, можа, наадварот, палемізуючы з некаторымі, хто бачыць у каталіцкіх місіянерах з Польшчы адно што ворагаў беларускага адраджэння.**

— Партрэты ў касцёлах? Людское глупства, здаецца, ніколі не было дэфіцытам, хапае яго і цяпер, не пагражае яму сур'ёзная небяспека і ў будучым. Ды ў касцёлах нельга нават партрэты Папы Рымскага вывешваць, не тое што палітычных дзеячаў! Божы храм — месца нашае размовы з Богам, калі і можа тут быць нечы партрэт, то толькі таго чалавека, якога Касцёл афіцыйна прызнаў святым. Адзін раз за сваё жыццё я чуў і бачыў, як у касцёле спявалі «Jeszcze Polska nie zginęła». Было тое ў Польшчы, у гады станаўлення «Салідарнасці», і пакінула тое відовішча вельмі цяжкае ўражанне: ускінутыя ўгору рукі, вочы гараць нянавісцю да ўлад, рашучасцю змагацца з імі. Тады для сябе зрабіў адназначную выснову: польскі гімн — не рэлігійны спеў і спяваць яго ў касцёле, нават у Польшчы, зусім не да месца. Не, гэта не для касцёла, не ў ім трэба выражаць палітычныя спрэчкі, падводзіць рахункі, няхай сабе і ў імя справядлівых мэт.

Галоўная задача каталіцкага місіянера, ці то ён з Польшчы, ці то з любой другой краіны,— кіраваць людзей да Бога, а не весці палітычныя дыскусіі. Пра задачы місіянераў лепш за ўсё сказаў Святы Айцец Ян Павел II у сваёй Энцыкліцы аб заўсёднай актуальнасці місіянерскага пасланніцтва. Ён сцвярджае, што місіянеры павінны вывучыць мову рэгіёна, у якім працуюць, як найлепей пазнаць тутэйшую культуру і гісторыю, што яны павінны несці Евангелле ў розныя культуры і аднačасова далучаць народы з іх аўтэнтычнымі культурнымі вартасцямі да Касцёла. Гэта працэс узаемаабагачальны.

**— Кіруючыся гэтай Энцыклікай, вы пачалі адпраўляць у Полацку святую імшу на беларускай мове!**

— Не, яшчэ да яе з'яўлення. Энцыкліка — толькі пацвярджэнне ранейшага стаўлення Касцёла да гэтых праблем. Іншая справа, як яно рабілася на практыцы кожным асобным святаром. Калі ж гаворка пра мяне, то я пачаў адпраўляць святую імшу па-беларуску з самага пачатку, як прыехаў у Полацк. Праўда, мову пакуль ведаю не дасканала, дапамагаюць кнігі, якіх, мякка кажучы, небагата. Увогуле ж, з уласнай практыкі ведаю, як сучасны каталіцкі святар на Беларусі вытрымлівае наступ з двух бакоў: з аднаго — свядомая інтэлігенцыя, дзеячы Народнага фронту патрабуюць набажэнстваў на беларускай мове, з другога — вернікі, якія на працягу доўгіх гадоў маліліся па-польску, просяць, а то і патрабуюць польскай мовы ў касцёле.

**— А вы на чыім баку?**

— Ні на чыім. Касцёл павінен несці слова Божае людзям на іх роднай мове, а ў выключных сітуацыях — на той мове, якая для іх больш зразумелая. Я не палітык, не культурны дзеяч, не асветнік. Мая місія будзе выканана, калі людзі зразумеюць Евангелле, прагнікнуцца ім, пачнуць жыць па-Божаму. Дарэчы, калі ехаў сюды, нават не думаў, што спаткаю тут палякаў. Але я іх спаткаў — у Вільні, Магілёве, Віцебску, Полацку. Вы ж не будзеце аспрэчваць, што набажэнствы і на польскай мове таксама павінны адбывацца на Беларусі?

**— Не буду. І ўсё ж польская мова ў нашых касцёлах не пакрыўджана, а вось беларуская пакуль што амаль на правах падчаркі — за некаторымі выключэннямі.**

— Дык жа для таго, каб становішча змянілася, трэба яшчэ вельмі і вельмі шмат папрацаваць той жа творчай інтэлігенцыі. Патрэбны грунтоўныя пераклады, найперш Святога Пісання, і, вядома, таксама літургічных кніг, малітоўнікаў, песень, кніг па гісторыі рэлігіі, патрэбны часопісы, газеты, літаратура для дзяцей.

**— Пераклады на беларускую мову ў асноўным робяцца з польскай, таму разлічваць на хуткае развіццё беларускіх традыцый у каталіцкім касцёле на Беларусі наўрад ці варта. Ці не атрымаецца ў нас зноў жа своеасаблівая калька з польскай?**

— Па-першае, ва ўсім свеце мусульмане, іудзеі, хрысціяне моляцца псаламамі, большасць якіх ствараліся на гебрайскай мове. Па-другое, старажытныя касцельныя гімны былі перакладзены на многія мовы свету альбо з грэчаскай, альбо з лацінскай моў, а грыгарыянскі спеў — таксама скарб усяго Касцёла. У свой час у Польшчы таксама рабіліся пераклады з іншых моў, натуральна, што для іх адбіраліся лепшыя здабыткі іншых народаў, а адначасна развівалася творчасць сваіх паэтаў, пісьменнікаў, святароў. Які іншы шлях можна прыдумаць — не ведаю. Магчыма, мы папросту павінны быць падобныя да гаспадара дома, які беражліва захоўвае ў сваёй скарбонцы найвартнейшыя рэчы — новыя і старыя.

**— Калі б у 20-х—30-х гадах беларускія святары не ўзяліся за ўвядзенне роднай мовы ў касцельную практыку, мы сёння не мелі б многіх тэкстаў, чатырох выданняў малітоўніка «Голас душы», многіх песень. Тыя тэксты, праўда, часам далёкія ад дасканаласці...**

— Як на маю думку, дык спяшацца правіць тэксты песень, якія ўжо часткова вядомыя ў народзе, не трэба. Яны ўжо — здзейснены факт гісторыі. Многія песні, напрыклад, у польскіх малітоўніках таксама маюць архаічную мову, можна было б і іх перапрацаваць, але ці варта? Гэта ж гісторыя, яшчэ адно сведчанне трываласці Касцёла, яго ных глыбокіх каранёў.

**— Нельга сказаць, што і ў наш час мала ствараецца перакладаў, тэкстаў. Праўда, не магу пазбыцца адчування стыхійнасці гэтай працы, быццам ідзе трохі дзіўнае спаборніцтва: у Менску робяцца адны пераклады, у Мёрах — другія, у Вішневе — трэція, у Гародні — чацвёртыя. Часта яны дублююць адзін аднаго і, што самае прыкрае, некаторыя з іх грашаць памылкамі — моўнымі, а часам і тэалагічнымі.**

**Не вельмі прыемна прызнаваць і тое, што духоўная тэма вельмі слаба распрацавана ў беларускай літаратуры, параўноўваць з польскай нават няма сэнсу, бо перавага апошняй відавочная. У вас творчасць адной Марыі Канапніцкай чаго вартая. У нас жа... Апошнім часам нібыта тое-сёе і з'яўляецца, але вось нядаўна чытала старонкі рэлігійнай кнігі, якую напісаў былы камсамольскі работнік,— ратуйце мяне ад гэткае духоўнасці... Таму калі ў гэтай справе не памогуць святары — слабая надзея, што яна вельмі хутка рушыцца наперад. Але, даруйце, гэта ўжо надзея ці не больш на беларускіх, сваіх святароў, а не на місіянераў.**

— Крыўднага ў вашых апошніх словах нічога няма. Безумоўна, для гэтай справы патрэбны мясцовыя святары, ды і ўвогуле: місіянерства — з'ява часовая, яна да таго часу, пакуль на гэтай зямлі не з'явіцца дастаткова сваіх святароў. Чым хутчэй гэта адбудзецца, тым лепей. Але пакуль што патрэбны паслугі місіянераў, якія павінны раскарчаваць ляды бездухоўнасці, узараць глебу, пасеяць першае пасля зацяглага перапынку насенне, дачакацца добрых усходаў. Місіянеры патрэбны, каб маладыя людзі мелі магчымасць размаўляць са святарамі, з іх дапамогай знаходзіць адказы на пытанні жыцця, чулі слова Божае. Людзі, вядома, вучацца на сваіх памылках, але гэта пачасту надта доўгі працэс, у дадзенай сітуацыі — гэта амаль раскоша. Найлепшая ж практыка — добрая тэорыя, а найлепшая тэорыя — святое Евангелле. Праўда Божая нязменная, і хто мае да яе доступ, той менш блукае ў цямрэчы.

**— Аднойчы давялося пачуць думку, што яшчэ невядома, якія беларускія святары атрымаюцца з выпускнікоў Гродзенскай духоўнай семінарыі — маўляў, калі ў народзе перарваныя духоўныя традыцыі, парушана сувязь пакаленняў, то хто ведае, ці не выпадковыя людзі пайшлі на шлях святарства...**

— Не ведаю, хто гэта вам казаў, але перакананы, што гэта няверуючы чалавек. Бо хіба святарства можна ўспрымаць, як і ўсе прафесіі? Хіба гэта не покліч Бога? Найлепей пра тое сказана ў кнізе прарока Іераміі: «І было да мяне слова Панскае: перад тым як Я стварыў цябе ў чэраве, Я пазнаў цябе, і да таго, як ты выйшаў з лона, Я асвяціў цябе, прарокам для народаў паставіў цябе. А я сказаў: о Пане Божа! я не ўмею гаварыць, бо я яшчэ малады. Але Пан сказаў мне: не кажы: «я малады»; бо да ўсіх, да каго пашлю цябе, пойдзеш, і ўсё, што загадаю табе, скажаш. Не бойся іх; бо Я з табою, каб выбаўляць цябе, сказаў Пан. І ўзняў Пан руку сваю, і дакрнуўся вуснаў маіх, і сказаў мне Пан: вось, Я ўклаў словы Мае ў вусны твае».

**— Ойча Януш! Шчыра жадаю, каб слова Божае, якое вы несяце людзям, даходзіла да іх сэрцаў і атрымлівала шчыры водгук. А яшчэ зычу, каб як найменей бытавых дробязных непрыемнасцей спатыкалі вы на сваім місіянерскім шляху.**

— Дзякуй за добрыя пажаданні, але скардзіцца на цяжкасці не выпадае, бо кожная справа Божая павінна прайсці праз крыж.

# Ужо блізкая разгадка таямніцы



*Народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч: «Іканапіс — не мастацтва. Вышэй. Пра гэта, як пра жывапіс, грэшна гаварыць. Ікона створана дзеля малітвы, дзеля зносін чалавека з Богам.*

Амаль усе вялікія творцы маюць за лепшае ўстрымлівацца ад гучных прамоў. І калі такую заканамернасць неяк лагічна можна вытлумачыць у дачыненні да тых, хто чаруе над словам, то зразумець маўчальнікаў ад выяўленчага мастацтва проста немагчыма. Натуральным уяўляецца стан, калі шматгадзінная штодзённая самота ў майстэрні падштурхоўвае мастака да слухацкага асяродку, каб выказаць нарэшце ўсе саспелыя рашэнні і застаялыя сумненні. І я магу назваць тузіны са два імён айчынных творцаў, ахвярай красамоўнасці якіх траплялася не раз.

Арлен Кашкурэвіч заўсёды задуменны. І таму ён — загадка ад першага нашага даўняга знаёмства. Спачатку я спісвала гэтую акалічнасць на рахунак нерэспектабельнасці сваёй асобы. Цяпер ведаю, што думаць так — вялікі грэх. Але гаворка не пра тое.

Што мы хочам пачуць ад мастака? Тлумачэнне сваіх карцін? Але ж ён ужо ўсё сказаў. Вось, глядзіце!.. Нам жа мала самога твора, мы хочам яшчэ і аўтара паслухаць. Наша невідушчасць абяззбройвае мастака: ягоная мова дзеля вачэй, мы ж — сляпыя, хочам бачыць вушамі, а ён не ўмее замяніць фарбы словамі. Бо гэта ўжо іншы від творчасці.

Потым, калі з'явіліся ілюстрацыі Арлена Кашкурэвіча да беларускіх перакладаў Новага Запавету, паўстала ўвачавідкі яшчэ адна ісціна: той, хто навучыцца слухаць сябе ў Творцу і Яго ў сабе, мае найлепшага ў свеце суразмоўцу. Людзі для яго становяцца цікавыя толькі ў сваёй здольнасці разумець гэтую ісціну.

**— Часам расказваю пра старыя абразы, паказваю ілюстрацыі да Біблії і адчуваю, што мае намаганні марныя, нібыта невідушчы чалавек апынуўся перад гэтай дасканалаю гармоніяй.**







Такое прызнанне даецца мастаку не проста, бо ён з тых, хто верыць у неспазнаныя здольнасці чалавечых душ. Проста абставіны не заўсёды спрыяюць абуджэнню сонных і прасвятленню сляпых.

Арлен Кашкурэвіч не адразу прыйшоў да таго, у чым сёння мае пастаянную патрэбу. Была пэўная падрыхтоўка на ўзорах класікі, прадстаўнікі якой, як вядома, не раз звярталіся да Вечнай тэмы. Але ўспрыманне і адбывалася толькі на ўзроўні класічнага жывапісу, а таму і не хвалявала, тым больш, што вакол правіла баль бязбожнае невуцтва, якое не магло не ўплываць нават на самыя падрыхтаваныя дзеля веры душы. Чытаць Святое Пісанне было справай амаль што грамадзянскай мужнасці, такой жа рызыкоўнай, як атэізм у сярэднявеччы. Багаборніцкая ўлада вогнішчаў, праўда, не распальвала, але яе майстэрству інквізіцыі мог пазайздросціць не адзін папскі суддзя.

**— А так хацелася пачытаць Біблію. І вось Алесь Адамовіч, калі я яго «Хатынскую аповесць» афармляў, даў Евангелле. Ведаеце, позна ўжо гэта, відаць, было, трэба раней, у юнацтве, пачынаць.**



Тут з мастаком нельга не пагадзіцца. Біблія — не толькі найвялікшая кніга цывілізаванага свету, але і найпершае пісанае слова для хрысціяніна. Яе чытаюць праз усё жыццё ад самага ранняга маленства, калі ілжэвыхавальнікі яшчэ не паспелі ператварыць душу дзіцяці ў каралеўства крывых люстэркаў.

«Айцец ува мне, а Я ў Ім»,— адно з любімых цяпер месц Кашкурэвіча ў Евангеллі паводле Іаана. Сталы ўзрост і бязбожнае мінулае не перашкодзілі адчуць справядлівасць Слова. А потым лёс у асобе Уладзіміра Караткевіча пазнаёміў яго са стваральнікам і ўладаром густоўнага збору абразоў мітрапалітам Антоніем, папярэднікам уладыкі Філарэта на Беларусі. Мітрапаліт не толькі меў (што не дзіўна для ягонага сану) самую багатую і высокамастацкую калекцыю іканапісу ў рэспубліцы, але і цудоўна разумеў свецкі жывапіс, захапляўся японскім мастацтвам, асабліва керамікай.

**— Лепшую школу іканапісу я там у яго і атрымаў. З гэтага і пачалося маё захапленне абразамі. Спачатку яны мяне зацікавілі як мастака, а потым інтарэс пайшоў глыбей. І з'явілася патрэба, каб ікона была побач, каб сустракацца з ёю кожны дзень.**



Музеі, манаграфіі, храмы, сустрэчы ў прыватных калекцыях, бясконцыя гадзіны роздуму над арыгіналамі і рэпрадукцыямі шэдэўраў. Здавалася, ужо блізкая разгадка таямніцы старадаўніх майстроў. Прасвятліў душу і розум твор Паўла Флярэнскага «Іканастас». І наспела смеласць напісаць **сваю** ікону.

Спроб было некалькі і... нічога не атрымалася.

**— Можа, трэба, каб лёг на ікону час, а можа,— каб яна жыла ў асяродку царквы, малітвы. Але ж і ў цэрквах я сустракаў сучасныя іконы, зусім не адухоўленыя. Зробленыя па ўсіх жывапісных законах, а — не абразы, проста выявы евангельскіх сюжэтаў. Ім не хочацца маліцца так, як старым абразам. Адбываецца імітацыя, рэанімацыя старой формы. Але ж мы ўжо іншыя, менталітэт іншы, і мастацкая форма павінна адпавядаць мысленню сучаснага чалавека. Калі глядзіш на іканапіс 14—16 стагоддзяў, то проста не верыцца, што абразы створаны мастаком-чалавекам. Я не ведаю вышэйшай гармоніі ў сусветным мастацтве, чым старажытныя абразы. Відаць, да нас не дайшлі тыя імпульсы, якія перадаваліся іканапісцамі ад сэрца да сэрца.**

Жывапісная малітва не стварылася, а графічныя казанні Кашкурэвіча займелі шырокае прызнанне сярод беларускай інтэлігенцыі, усіх заўзятараў мастацкіх выставаў. Вялікі поспех дастаўся дзвюм ягоным персанальным экспазіцыям у гарадах Нямеччыны, якая сёння пераняла ад Францыі пальму першынства ў еўрапейскім культурным працэсе.

Адзін і той жа евангельскі сюжэт хвалюе мастака вельмі доўга. Ужо робяцца іншыя замалёўкі, прыкідваюцца эскізы да новых тэм, а не-не ды і вернецца жаданне перарабіць ранейшае. Мы сустракаліся з Арленам Міхайлавічам пад час заканчэння ягонай работы над ілюстрацыямі кнігі літаратурных перакладаў Новага Запавету, зробленых Анатолем Клышкам. Выдавецтва прыспешвала, быў тэрмін здачы рукапісу ў набор, і ў мастака даўно ўжо ўсё гатова, але жаданне штосьці перайначыць не адпускала. Дзесяткі закончаных варыянтаў красаваліся на сталах і паліцах, ён хадзіў па майстэрні, прыкладваў паспарту то да аднаго, то да другога малюнка, прыпыняўся ў роздуме. Праз нейкі час узгадваў пра маю прысутнасць.

**— Ведаеце, калі я пачынаў ілюстраваць Евангелле, то прагледзеў шмат выданняў Біблій, зробленых рознымі мастакамі свету. Француз Гюстаф Дарэ лічыцца найлепшым ілюстратарам. Памайстэрску ўсё ў яго зроблена, рамантычна, але неяк на душу мне не лягло. Наогул, не знайшоў таго, што б усхваляваала. Тут яшчэ такая справа: на кожнага мастака накладвае адбітак ягоны час, мы ўсе знаходзімся пад уплывам падзей таго грамадства, у якім жывём. Таму і акцэнты кожны ілюстратар робіць свае. Цяпер мне вось хочацца маляваць сюжэты выгнання Ісусам гандляроў з храма, двурушніцтва Іуды.**

Гэтыя тэмы неяк самі сабой звялі нашу гаворку на надзённасць, на праблему ілжывых прарокаў, на балючую для думаючага чалавека сітуацыю міжканфесіянальнай нецярпімасці.

**— Абраднасць, рытуалы — гэта яшчэ не вера ў Бога. Хрысціянінам трэба быць у галоўным, у выконванні Божых запаведзяў. Вобраз Хрыста — гэта ідэал, даведзены да абсалюту, і каб чалавек хоць крыху набліжаўся да ідэалу, ён павінен прытрымлівацца Нагорнай казані. А ці так часта вернік у храм ходзіць, не галоўнае, бо сапраўдная шчырасць у малітве з'яўляецца толькі на самоце. Я бываў у многіх каталіцкіх і пратэстанцкіх храмах, маёй жа душы бліжэй праваслаўны. Але па ладу эстэтычнага мыслення я — заходнік. Тут усё вельмі ўмоўна і людзей нельга падзяляць па канфесіях. Вобраз Хрыста веруючы чалавек носіць заўжды ў сваёй душы, а знешнія праявы ягонай веры важныя толькі ва ўчынках.**

Казань — не малітва. У ёй вельмі яскрава выяўляецца індывідуальнае разуменне ісцін. І чым ярчэйшая асоба, тым больш запамінальныя мастацкія вобразы прапаведніка. Свабода творчага спасціжэння Вечнага Слова народным мастаком Беларусі Арленам Кашкурэвічам даецца яму ў жанры ілюстрацыі. Ён будуе вобразы на інтуіцыі, якая не падманвае тых, у каго дапытлівы розум абаронены ад халоднага рацыяналізму шчыраю верай у тое, што нясеш людзям. Вера ж змушае ўсё глыбей спасцігаць сутнасць Вечнае тэмы. Таму з кожным новым малюнкам мастак набліжаецца да разгадкі тых запаветных таямніц, валоданне якімі сцірае межы паміж свабоднай казанню і сакральнаю малітвай.

Валянціна **АРЛОВА.**








# Жыццё душы трымаецца на любові

«Я заўсёды лічыў і лічу дасягненне міру і згоды паміж людзьмі справай вышэйшай чалавечай справядлівасці і гатовы супрацоўнічаць з усімі, хто імкнецца да той жа высакароднай мэты. Перакананы, што мір і на нашай зямлі, і на ўсёй Планеце сёння можа быць забяспечаны толькі пры ўмове захавання правоў і годнасці чалавечай асобы, культурнага ўзаемаяднання народаў і, нарэшце, пры памнажэнні любові паміж усімі людзьмі незалежна ад іх ідэалагічнай, нацыянальнай ці рэлігійнай прыналежнасці».

Чытаю строгія, упарадкаваныя радкі кнігі — і чую голас Уладыкі, разважлівы, спакойны, што настройвае і цябе на немітуслівасць, на ціхі роздум — пра жыццё і пра Вечнасць. Адчуваеш сілу і ўпэўненасць, што перадаюцца табе праз словы, і разумееш: яны ідуць ад суладнасці душы і розуму твайго суразмоўцы, грунтуюцца на мудрасці, якая спадарожнічае таму, хто настойліва і руплівa крочыць цярністым і цяжкім шляхам да Ісціны.

Такім суразмоўцам для нас стаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, член Свяшчэннага Сінода. Дадам: народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, чыё слова ў нашым парламенце гучыць узважана, кліча да развагі. Святарскі аўтарытэт узбагачаецца аўтарытэтам свецкім, бо ўсе мы зараз горнемся да тых сіл у нашым грамадстве, што перасцерагаюць ад раздзірання варажнечы, вучаць і спрыяюць прыязнасці і любові паміж людзьмі. Магчымасцю прыяднацца да плёну думак і разваг Уладыкі стала кніга **Валерыя Няфёдава** «Гутаркі з мітрапалітам Філарэтам», што выйшла ў выдавецтве «Полымя».

Пра што гэтыя гутаркі? Пра самае наша балючае, самае пакутнае — забруджаныя злом душы, паблытаныя арыенціры, забуялыя ў сэрцах зярняты нянавісці, што пагражаюць узрасці бядою і разбурэннем. Мір і святло ў душы, мір і святло ў адносінах паміж людзьмі і паміж народамі — вось тая сцяжынка і той бальшак, што вядуць у будучыню. Іначай — морак і бездань, небыццё. «Выжыць у наш няпросты ядзерны век азначае перш за ўсё зразумець адзін аднаго, зразумець не толькі розумам, але і сэрцам!»

Ці здольныя мы на гэта, ці засталіся сілы на духоўную працу альбо яны незваротна патрачаны на пагоню за дабротамі ды ўцехамі, на згрызоты і ўзаемныя выкрыванні? «Чалавек нясе ў сабе сапраўды боскія сілы, якія перамогуць усе дэструктыўныя тэндэнцыі ў чалавечай прыродзе,— сцвярджае Мітрапаліт.— Як добрую надзею ўспрымаем мы словы прарока Ісаі: **«І перакуюць мячы свае на аралы, і коллі свае — на сярпы, не ўзніме народ на народ меч, і не будуць больш вучыцца ваяваць».**

Ці не праўда, зашмат часу мы змарнавалі на войны паміж сабою, на тое, каб пераўзысці адзін аднаго ў сродках вядзення гэтых войнаў замест адзіна вартага — развіцця, удасканалення сябе, сваёй існасці. Бо «якіх бы вышынь ні дасягнуў чалавек у сферы развіцця навукі, тэхнікі і тэхналогіі, само па сабе гэта не вядзе да прагрэсу ў чалавечых адносінах, да ўдасканалення асобы». Нашто ж мы выбіваемся з сілы, бяжым, даганяем, губляем, калі вынікам гэтай гонкі становіцца амярцвенне нашага галоўнага скарбу — жывой душы? Мы жывыя, пакуль жывыя нашы душы. А душа жыве, пакуль ёсць у ёй любоў. Дык ці жывыя мы?

Адухоўлены чалавек — вось галоўны скарб любога грамадства, любой дзяржавы, напамінае нам Уладыка. Той чалавек, які мае здольнасць сваім сэрцам «адрозніваць дабро і зло, ацэньваць свае імкненні і ўчынкі, фармуляваць для сябе маральныя прадпісанні, патрабаваць ад сябе іх выканання... Дзякуючы гэтаму ён набывае новую ступень свабоды, якая робіць яго здольным служыць вышэйшым каштоўнасцям культуры, пошукам ісціны, сэнсу быцця». Можна доўга спрачацца пра тое, ці з'яўляемся мы свабоднымі, а можна проста ўсвядоміць сэнс прапанаванай філасофскай думкі: свабоднымі мы робім сябе самі.

У кнізе глыбока аналізуюцца вытокі найбольш вострых сённяшніх супярэчнасцей, што робяць наша жыццё жорсткім і пакутлівым, перайначваюць лёсы цэлых народаў. **«І зрабіў з аднае крыві ўвесь род чалавечы, каб жыў на ўсім аблічны зямлі»,**—гэтыя евангельскія словы цытуюцца, каб яшчэ раз звярнуць увагу на страшны людскі грэх — братазабойствы, крывавыя нацыянальныя канфлікты, замах на дараванае кожнаму з нас жыццё. **«Няма Грэка і Юдэя, абрэзання і неабрэзання, барбара, Скіфа, раба, свабоднага, але ўсё і ва ўсім Хрыстос».** Калі нас не здолелі аб'яднаць розныя хуткаспелыя і штучныя тэорыі, то, можа, вяртанне да хрысціянскіх вытокаў зможа хоць крыху наблізіць адну за адной нашы пасвятлелыя душы? У тым выпадку, вядома, калі яны сапраўды пасвятлеюць, ачысцяцца, калі людзі ўспомняць светлыя свае карані, мову сваю, традыцыі, што не гвалцяць душу, а даюць ёй магчымасць вольна і гожа развівацца і прыгажэць.

Праблематыка «Дыялогаў» шырокая — сям'я, моладзь, міжнацыянальныя адносіны, але галоўная іх ідэя — як перамагчы зло, як памножыць у сэрцы людзей любоў. «Калі Мікеланджэла папыталі, як ён стварае свае скульптуры, ён адказаў, што проста ссякае камень, які акружае тое, што ён бачыць сваім унутраным поглядам. Будзем верыць, што мы сваімі міратворчымі працамі зможам скалоць глыбу зла, якое перашкаджае людзям...»

Будзем верыць у гэта.

**Людміла РЫЖАНКОВА.**




# „Раскажу пра кляштар...”

Манастыры Беларусі... Колькі іх было тут, а колькі засталося па гарадах і мястэчках?.. Дамініканскія, кармеліцкія, францысканскія, бернардзінскія кляштары, езуіцкія калегіумы, праваслаўныя, уніяцкія манастыры... Ці шмат нам вядома пра іх? Толькі кароткія і ўрыўкавыя звесткі, ды і тое далёка не пра ўсё.

Пра уніяцкія, заснаваныя ордэнам базыльянаў, вядома зусім мала, хоць яны адыгрывалі істотную ролю ў жыцці беларусаў на працягу двух стагоддзяў. Базыльянскім манастырам, а іх было больш сотні, падпарадкоўваліся шматлікія парафіі са сваімі цэрквамі. Манастыры ўтрымлівалі школы, у якіх спасцігалі першапачатковую навуку сыны мясцовай шляхты і святароў. Дочкі са свецкіх і духоўных сем'яў беларусаў выхоўваліся ў манастырах базыльянак. Ім тут выкладалі ўрокі французскай, польскай, беларускай (пазней расійскай) моў, навучалі граць на фартэпіяна, гітары.

Манастырскія ансамблі ўзводзіліся няспешна, працаю лепшых дойлідаў, будаўнікоў, скульптараў, рэзчыкаў, цесляў, залатароў, жывапісцаў. Майстры стваралі ўзоры высокага мастацтва, укладваючы ў яго ўласнае разуменне прыгажосці. У выніку кожны помнік набываў своеасаблівае, непаўторнае аблічча. Па ім лёгка чытаць вядомыя, а часам нібыта ўзнікаючыя з нябыту старонкі гісторыі.

...Пачатак уніі. Рашэнні Брэсцкага сабора 1596 года прымаюцца ў катэдральным гарадскім храме св. Мікалая. З часам пры ім складваецца манастыр базыльянаў, адбудоўваецца Петрапаўлаўская царква.

Праз некалькі дзесяцігоддзяў унія прыходзіць у Менск. Яго праваслаўныя насельнікі аб'ядноўваюцца і падпарадкоўваюцца манастыру Святога Духа, які занава ўзводзіцца з каменю разам з храмам незвычайнай архітэктуры.

Жыровічы знакамітыя цудадзейным абразом Маці Божай і іншымі святынямі. Тут базыльяне паставілі тры храмы: Успенскі сабор, Яўленскую і Страсцей Гасподніх цэрквы.

З полацкай Сафіяй звязаны многія падзеі уніяцтва. Ва ўсходнім прыдзеле сабора захоўваліся мошчы полацкага архіепіскапа, заснавальніка полацкіх манастыроў базыльянаў і базыльянак блажэннага Іасафата Кунцэвіча. Збудаванне цяпер існуючага храма на месцы старажытнай Сафіі адбывалася паўтара стагоддзя пасля стварэння уніяцкіх манастыроў.

Перабудаваная Сафія стала новым тыпам храма, які неаднаразова быў выкарыстаны пры пазнейшых праектах уніяцкіх святыняў. Перш за ўсё яго архітэктура выразна праявілася ў абліччы царквы Нараджэння Багародзіцы Беразвецкага манастыра, які некалі дзейнічаў паблізу Глыбокага. Мастацкія вартасці гэтага храма пераўзыходзілі

многія іншыя помнікі архітэктуры віленскага барока. Па-свойму ўвасобіўся стыль у Пакроўскай царкве мужчынскага базыльянскага манастыра ў Оршы.

Нельга абысці ўвагаю самыя трагічныя падзеі з жыцця уніятаў, непасрэдна звязаныя з віцебскім Успенскім манастыром. Пасля таго, як на Лысай гары пры старажытнай царкве адбылося забойства Іасафата Кунцэвіча, каралеўскі суд пастанавіў разбурыць храм, а на яго месцы ўзвесці новы. Пазней ён гарэў і чатыры разы адбудоўваўся. У апошні раз храм закладваўся як самы вялікі ў горадзе і пры ўсіх базыльянскіх манастырах. Аднак канец яго будаўніцтва супаў з пачаткам скасавання уніі. Успенская царква была пераасвечана ў праваслаўны катэдральны сабор, які стаў месцам падпісання дакументаў 1839 года аб уз'яднанні уніяцтва з праваслаўем.

Горка ўсведамляць, што многія з названых помнікаў сёння нельга ўжо ўбачыць. На месцы некалі велічных кляштараў — руіны ці пусткі. Ці ў сілах мы зберагчы хаця б чароўныя вобразы страчанай спадчыны?

**Інеса СЛЮНЬКОВА.**

● **Брэсцкі катэдральны сабор св. Мікалая (з Загалоўнага ліста візітацыйнай кнігі XVIII ст.).**
● **Полацкі Сафійскі сабор.**
● **Жыровіцкі Успенскі манастыр (фота пач. XX ст.).**
● **Аршанскі Пакроўскі манастыр.**
● **Віцебск. Выгляд на Успенскі манастыр (фота пач. XX ст.).**
● **Беразвечча (Глыбоцкі раён). Манастыр Нараджэння Багародзіцы.**













КАНТЭКСТ

# І ПАЎСТАЎ РОД НА РОД

У час сацыяльных катаклізмаў, калі падзеі нагрувашчваюцца адна на адну, а звыклыя тлумачэнні прычын ужо не ўспрымаюцца, душа міжволі настройваецца на ўзвышана-біблейскі лад. І тады нас надзейна супакойваюць адвечныя і неабвержныя ісціны, забытыя, на жаль, у мітусяніне дзён.

Менавіта ў гэты час быў напісаны чацвёрты, заключны раман Вячаслава Адамчыка «Голас крыві брата твайго»[1]. Пісьменнік, заўсёды вельмі чулы да павеваў у духоўным жыцці, не мог не выявіць вось гэта нязвыклае светаадчуванне ўсіх нас сённяшніх у сваім новым творы. Хаця раман і апавядае пра Вялікую Айчынную вайну. Хада падзей пацвярджае мастакоўскую правату аўтара тэтралогіі, папярэднія часткі якой, раманы «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», выйшлі з друку ў мінулыя гады. А менавіта: свет, у якім парушаны ці не ўсе дзесяць запаведзяў, не можа доўга знаходзіцца ў стане хісткай раўнавагі паміж мірам і вайной. Ён непазбежна скочваецца да ваеннай канфрантацыі яшчэ ўчора міралюбных бакоў. Біблейскае «І паўстаў род на род» не страціла сваёй злабадзённасці і ў наш цывілізаваны час, калі людзі, здаецца, зведалі цану жыцця чалавечай адзінкі і імкнуцца жыць паводле законаў розуму.

Назва рамана В. Адамчыка вяртае нас да падзей, якія некалі разыграліся на зямной цвердзі і апісаны ў Вялікай Кнізе. Ёсць сэнс у тым, каб нагадаць адпаведныя біблейскія мясціны. «І сказаў Каін Авелю, брату свайму: пойдзем у поле.

[1] Вячаслаў Адамчык. Голас крыві брата твайго. «Мастацкая літаратура», 1991.

ГАРАЧЫЯ ДЭБАТЫ ПРА ЭКАНОМІКУ, ФОРМЫ ЎЛАСНАСЦІ НА ФОНЕ ПУСТЫХ ПАЛІЦ МАГАЗІНАЎ УЖО ЎСПРЫМАЮЦЦА ЯК ФАРС, ЯКІ СЫТЫЯ ЎЧЫНІЛІ НА ПАТРЭБУ ГАЛОДНЫМ. У ТАКІХ АБСТАВІНАХ, СЯРОД УСЕАГУЛЬНАГА МЕРКАНТЫЛІЗМУ, УСЁ ЧАСЦЕЙ ЧУЮ ЗАКЛІКІ ДА ДУХОЎНАСЦІ, ДА БОГА. АЛЕ ЧАС ПЕРАМЕН І ЦАРКВУ ЗМУШАЕ ЗАЙМАЦЦА СУРОВЫМІ СВЕЦКІМІ ПРАБЛЕМАМІ, З ЯКІМІ Ў МІНУЛЫЯ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ ЁЙ АМАЛЬ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ СУТЫКАЦЦА.
ВОСЬ, ДА ПРЫКЛАДУ, ПАЛІТЫКА. ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА ВА ЎСЕ ЧАСЫ З ГЛЫБОКАЙ СТАРАЖЫТНАСЦІ ЗАБАРАНЯЛА СВЯТАРАМ МЕЦЬ ГРАМАДЗЯНСКІЯ ПАСАДЫ, А ЗАЙМАЦЦА ПАЛІТЫКАЙ МОЖНА БЫЛО ТОЛЬКІ ІНДЫВІДУАЛЬНА. ШТО МЫ НАЗІРАЕМ ЦЯПЕР? СВЯШЧЭННАСЛУЖЫЦЕЛІ — НА ЭКРАНАХ ТЭЛЕВІЗАРАЎ, НА ШМАТЛЮДНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ МІТЫНГАХ, НА ПАРЛАМЕНЦКІХ ТРЫБУНАХ. ТОЛЬКІ Ў НАШАЙ РЭСПУБЛІЦЫ ЧАТЫРЫ ПРАДСТАЎНІКІ ЦАРКВЫ З'ЯЎЛЯЮЦЦА НАРОДНЫМІ ДЭПУТАТАМІ РБ, 15 — НАРОДНЫМІ ДЭПУТАТАМІ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ. ЯНЫ ЎВАХОДЗЯЦЬ У СТРУКТУРУ ДЗЯРЖАЎНЫХ ОРГАНАЎ, ХОЦЬ ЦАРКВА І АДДЗЕЛЕНА АД ДЗЯРЖАВЫ. ЦІ НЯМА ТУТ СУПЯРЭЧЛІВАСЦІ?
НА ГЭТАЕ І ІНШЫЯ ПЫТАННІ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ПАПРАСІЎ АДКАЗАЦЬ НАРОДНАГА ДЭПУТАТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, НАСТАЯЦЕЛЯ БАРАНАВІЦКАГА СВЯТА-ПАКРОЎСКАГА САБОРА, ПРОТАІЕРЭЯ

**АЛЯКСАНДРА ДЗІЧКОЎСКАГА.**

# «У ЛЮДЗЕЙ РОЗНЫЯ СТУПЕНІ ЎВАХОДЖАННЯ Ў РЭЛІГІЮ, РОЗНАЯ СТУПЕНЬ І БЕСКАРЫСЛІВАСЦІ...»

— Прызнаюся шчыра, мне вельмі не хочацца закранаць тэму палітыкі,— выслухаўшы мэту майго прыезду, адказаў айцец Аляксандр.— І тут я мушу звярнуцца да гісторыі. Успомнім, што Гасподзь Ісус Хрыстос на Страшным Судзе не спытае нас, ці разбуралі мы таталітарныя рэжымы, ці змагаліся за правы прыгнечаных. Ён спытае, ці кармілі, ці апраналі мы канкрэтных беднякоў, ці наведвалі хворых і вязняў... Справа Хрыста ў свеце была і ёсць — не перабудова грамадства, а перабудова, пераўтварэнне душ чалавечых...

**— І тым не менш вы ў свой час уступілі ў барацьбу за атрыманне дэпутацкага мандата.**

І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго. І сказаў Госпад (Бог) Каіну: дзе Авель, брат твой? Ён сказаў: не ведаю; хіба я вартаўнік брату майму? І сказаў Госпад: што ты нарабіў? Голас крыві брата твайго крыкам крычыць да Мяне ад зямлі, якая расчыніла вусны свае прыняць кроў брата твайго ад рукі тваёй; калі ты будзеш абрабляць зямлю, яна не стане болей даваць сілу сваю дзеля цябе; ты будзеш выгнаннікам і бадзягаю на зямлі» (Кніга Быцця, 4, 8—12). Так быў пакладзены пачатак працэсу расчалавечвання, які доўжыцца вякі і вякі. У рамане В. Адамчыка падрабязна ўзнаўляецца і вывучаецца адзін з этапаў гэтага грэхападзення.

Відавочна, што аўтар рамана «Голас крыві брата твайго» свядома арыентаваўся на паэтыку і патэтыку Вялікай Кнігі. Аб гэтым сваім ярасным характвом і сілай пранікнення ў глыбіню з'яў сведчаць асобныя старонкі твора. Вось як велічна, напрыклад, з замахам на касмізм створанай карціны, пачынае аўтар: «Па вечным і таемным крузе ходзіць сонца. І на змену яму выясняюцца зоры, каб бясконца плысці ў сіняй і халоднай прасторы неба. Час адмервае і лічыць вечнасць. А ў ёй — і жыццё наша. Ён гоіць і насякае новыя раны». У раманах В. Адамчыка, і ў папярэдніх, і ў апошнім, вельмі шмат такіх адначасова маштабных і надзіва выразных, пластычных апісанняў нашага вечна маладога зямнога свету. Пісьменнік перакананы ў тым, што, не адчуўшы акалічнасцей, у якіх жывуць і дзейнічаюць яго героі, жыхары заходнебеларускай вёскі Верасава, мястэчка Дварчаны, лёгка прайсці міма галоўнага ў кнізе і падмяніць яе жывую існасць голай арматурай разумовых пабудоў, да якіх мы ўсе такія ахвочыя. Свет беларускай прыроды ў творы менш за ўсё нагадвае вядомыя з літаратуры пейзажныя замалёўкі і так званыя лірычныя адступленні. Гэта не дэкарацыі, на фоне якіх разгортваюцца драматычныя падзеі. Адвечны кругаварот прыродных з'яў і такі знаёмы зямным істотам штодзённы гаспадарчы клопат напаўняюць твор глыбокай паэтычнасцю і жыццёвасцю. Гэта свет, адзіны і непаўторны, бо іншага няма, дзе адбываецца містэрыя жыцця і смерці сялянскага роду Корсакаў і іх аднавяскоўцаў.

Адчуванне жыцця як галоўнай чалавечай каштоўнасці надзвычай абвастрылася ў гады вайны. І асабліва ў яе канцы, калі засвяцілася кволая надзея дажыць да мірных дзён, каб спакойна, без прынукі, працаваць на роднай зямлі. Як неаднолькава перажываюць гэты стан розныя персанажы! Паліцыянт Пясэцкі, якому губляць няма чаго, каб прымеў, то жыўцом бы з'еў і павалок услед за сабою ў магілу ўсіх, вінаватых і невінаватых, злых і добрых, старых і маладых. Камузвода Беларускага войска («пад нямецкай камандай») Костак Камашыла, які з адчаем усведамляе бязвыхаднасць свайго становішча, цынічна ўцягвае ў злачынства супраць чалавечнасці свайго сябра Міцю Корсака, хоць добра ведае, што для таго забіць чалавека — значыць паставіць крыж на сабе. Але і партызан Жэнік Рэпка, які, здаецца, павінен помніць, што ваюе супраць ворага чалавецтва, нямецкага фашызму, выкарыстоўвае сваё становішча, каб адпомсціць усім уяўным і сапраўдным крыўдзіцелям і сведкам яго прыніжэння. Менавіта ён забівае свайго аднавяскоўца Міцю, не зважаючы на абставіны, якія апраўдваюць таго. «Якія, зрэшты, яны

— Паверце, гэта было выключэннем з правілаў. Без дазволу і благаславення Свяцейшага Патрыярха я зняў бы сваю кандыдатуру адразу, як даведаўся, што мяне вылучылі кандыдатам у дэпутаты. На маю думку, тут праследавалася вельмі важная мэта — прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем царквы. А іх у нас, як і ва ўсёй дзяржаве, нямала. І мы, дэпутаты-святары, імкнуліся іх вырашыць. Варта прыгадаць адно Закон аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях, які не толькі надаў царкве статус юрыдычнай асобы, але і адкрыў прастору міласэрнасці, благачыннасці, выхаванню людзей у духу веры — хрысціянскай маралі. Да гэтага часу мы жылі ў нейкім вакууме. Дзейнічала палажэнне аб рэлігійных аб'яднаннях 1929 (!) года, а жыццё патрабуе новых падыходаў. Грамадства чакае ад царквы актыўнага ўдзелу ў духоўным абнаўленні.

Альбо возьмем пенсіённае забеспячэнне святароў. Нядаўна нарэшце іх прыраўнавалі з астатнімі грамадзянамі Беларусі. Служба ў царкве залічваецца ў агульны працоўны стаж, і яны маюць права на атрыманне пенсіі. Я мог бы прывесці і іншыя прыклады...

**— І ўсё ж, айцец Аляксандр, ці не здаецца вам, што, прымаючы ўдзел у галасаванні ў парламенце, вы парушаеце царкоўныя каноны?**

— У парламенце мы кіруемся сваім сумленнем, светапоглядам, якія не звязаны неабходнасцю нейкага іерархічнага падпарадкавання. Іншымі словамі, там мы — прадстаўнікі народа, які нас выбраў, і мы павінны абараняць яго інтарэсы, а зыходзячы з гэтага, і галасаваць, і прымаць законы.

**— Да якога блока вы сябе адносіце?**

— Я — незалежны дэпутат, ні да якога блока не прымыкаў.

**— Але ж па выніках галасавання гэтага не скажаш. Вы галасуеце за тыя рашэнні, за што галасуе найбольш кансерватыўнае крыло Вярхоўнага Савета. Возьмем лёс Кампартыі рэспублікі і яе маёмасці...**

— Так, пры галасаванні аб забароне партыі я ўстрымаўся.

**— Даруйце, але зразумець вашу пазіцыю цяжка. Успомніце, за апошнія 70 гадоў ні адна з сістэм у краіне не была заканадаўча асуджана на поўнае знішчэнне — акрамя царквы. Былі разбураны мноства храмаў, расстраляны, кінуты ў турмы тысячы святароў, спалены кнігі, вытручана са слоўнікаў уся царкоўная тэрміналогія.**

— Тое, што царква аказалася ў такім своеасаблівым гета, у нейкай ступені пайшло ёй на карысць, і дзякуючы гэтаму мы змаглі захаваць некранутымі багаслужэнні, нашы звычаі, веравучэнне...

**— Аднак прырода царквы, яе першая якасць — быць адкрытай свету, добразычлівай і благачыннай.**

— У тым і справа, што гэтую місію яна не змагла выканаць у выніку бяспраўнага існавання. І як вынік, часта мы не здольны адказаць на выклік грамадства. Аднак вярнуся да вашага пытання: чаму я галасаваў так, а не інакш? Дзесяцігоддзямі КПСС вуснамі сваіх лідэраў называла нас ідэйнымі ворагамі, так. Дык што, мне цяпер штодзень з амбона заклікаць: «Лупцуйце камуністаў!»? Бальшавікі забаранялі іншадумства, цяпер, наадварот,— дэмакраты змушаюць слухаць толькі сябе. Такімі метадамі прававую дзяржаву мы ніколі не пабудуем. На маю думку, дэмакратыя пачынаецца з цярпімасці. Гэта неад'емны прынцып дэмакратычнай дзяржавы, яе палітыкі ў сацыяльнай, культурнай і іншых сферах.

**— Няўжо за час работы вы не адчувалі ціску гаркома партыі, аддзела УКДБ, ваяўнічых атэістаў?**

— Прамога ціску не было, скажу шчыра. Я нават былога першага сакратара гаркома Уладзіміра Заламая ўпершыню ўбачыў не ў Баранавічах, а ў Вярхоўным Савеце. Па ўсіх пытаннях я звяртаўся непасрэдна ў гарвыканком. Так, помніцца, у дні вялікіх свят дзецюкі пад гальштукамі не пускалі моладзь у храм. Ды і часта пад час службы кідаліся ў вочы асобы ў строгіх касцюмах, якія ні разу не перахрысціліся... Але я ніколі не крыўдаваў — яны выконвалі заданні сваіх начальнікаў.

**— Неяк мне на вочы трапіла лістоўка, у якой вас называлі стаўленікам партапарата.**

— На мяне і не такія ярлыкі навешвалі: атрымоўваў, як кажуць, і злева, і

---

аднакавыя,— думае Міця перад смерцю,— той (Камашыла.— **М. Т.**)— там, каля ржавагліністай ямы, гэты тут — у счарнелай нізкай хаце з малымі аконцамі. Той там быў храбры, гэты — тут».

Зусім інакш, куды больш абвострана і ўсвядомлена, успрымае навакольны свет Міця Корсак. Вядома, ён паэт. Хаця больш у душы, чым на самай справе: яго юначую ахвоту да вершаў надоўга адбілі ў пастарунку і ў Бярозаўскім канцлагеры. Міця, як і яго стары бацька, прымае жыццё як Божы дар, а прыроду як Божае Стварэнне, якім ніколі не надакучыць любавацца і захапляцца, як самы неабвержны доказ таго, што ў жыцці чалавека ёсць свой высокі, хоць і не спазнаны да канца, сэнс, і гэты сэнс заключаецца ў тым, каб быць сатворцам і будаваць свет паводле законаў харастава. «І раптам так нечакана і выразна Міцю ўбачылася свая старана, абмялелая пасля паводкі рэчачка, алешнік з начапляным брудам і галлём, старыя крываваталекія вербы ў зеляніне маладога лісця, Верасава, што высунулася на касагор карычняватымі ад моху стрэхамі, жоўтыя, як кроп, ад цвету кляны, чорна-ружовыя ад набрынялых, нібы дзявочыя саскі, пупышак старыя, яшчэ прадзедаўскія ліпы. І свая, са знаёмымі, паточанымі шашалем сценамі хата, і бацька на дрывотні каля казлоў з пілою-аднаручкаю, з ружаватымі пілавінамі, што насыпаліся ў закарвашы». Колькі разоў спыняюцца гэтак героі адамчыкаўскіх раманаў, уражаныя харатвом і магутнасцю зямнога быцця!

Зразумела, што людзі з такім абвостраным светаўспрыманнем асабліва чула перажываюць і неўладкаванасць жыцця, калі сама прырода заклікае да шчасця і радасці. Гэта, бадай, агульная думка-пакута і ў старога Корсака, які па-свойму як бы зайздросціць нябожчыцы-жонцы, бо тая не дажыла да відовішча гэткага жахлівага заняпаду ўсіх маральных каштоўнасцей, і ў маладога Міці, які пасля ўсяго бачанага не ведае, як ён зможа жыць з такім параненым сумленнем і незагойнымі ранамі на сэрцы, і ў яго сястры Алесі з яе вечным адчуваннем сваёй вінаватасці перад роднымі і блізкімі, якіх спасцігае кара за зроблены ёю грэх, калі яна звяла са свету сваіх свякроў і залвіцу. Стары Корсак пасля смерці любай жонкі Караліны цалкам павернуты да думак пра нябыт: «Няўжо ўсё будзе расці, красаваць і пасля нашай смерці?.. Няўжо ўсё паўторыцца нанова? І няўжо гэтаксама чалавек будзе катаваць чалавека, як катуе цяпер?» Яго душа супраціўляецца гвалту. Ён па сваёй чалавечай сутнасці не можа прыняць людзей, у якіх згасла Божая іскра. Ён да канца верыць у чалавечае ў чалавеку і намагаецца папярэдзіць бяду: ідзе да карнікаў з просьбаю не паліць Прылуцкія хутары разам з невінаватымі людзьмі і гіне разам з усімі ў агні.

Душу яго сына, Міці Корсака, разрывае на часткі тая ж пакутлівая думка-пытанне, на якое няма адказу. Аднак у адрозненне ад бацькі, выхаванага на веры ў неўміручасць усяго існага, Міця, які вырас у час, калі ў культуры запанавала сумненне ў быцці Божым, адчайна, дзёрзка паўстае супраць Творцы: «Дзе ж тая вялікая боская праўда на свеце? Няўжо няма?» Чалавек новага часу, калі грамадства ўсвядоміла непаўторную значнасць чалавечай асобы, але яшчэ не знайшло спосабаў увасобіць свае веды ў жыццё, герой рамана В. Адамчыка спрабуе сам разабрацца ў блытаніне з'яў і падзей: «Але ж свет — гэта вечнасць,

справа. Разам са мною за званне народнага дэпутата змагаліся прадстаўнік партыйна-дзяржаўнай наменклатуры і прадстаўнік БНФ «Адраджэнне». У другім туры перамог я. Як святар да ўсіх партый і рухаў я адношуся цярпіма, і мне вельмі не падабаецца, калі іх прадстаўнікі адзін аднаго абліваюць памыямі. Але ж гэта іх справа. Царква існуе для міру і спакою, для таго, каб служыць людзям, а не варагаваць з імі. Сын Божы прыйшоў не для таго, каб караць, а каб мілаваць. Таму і мы павінны несці людзям ісцінную міласць Бога, любоў Бога да людзей. Несці ісціну даравання.

**— Крушэнне ідэалогіі марксізму вядзе да таго, што вакуум патрабуе запаўнення. І людзі вяртаюцца да веры сваіх продкаў, да рэлігіі бацькоў, да вечных каштоўнасцей, нацыянальных, культурных. Без веры чалавек ператвараецца ў жывёліну, гэта адназначна. Аднак ці няма тут шараханняў у крайнасці: то мы называлі рэлігію опіумам для народа, а то раптам бачым у ёй адзінае выратаванне ў цяжкім сваім жыцці.**

— У людзей розныя ступені ўваходжання ў рэлігію, розная ступень і бескарыслівасці. Камуністычная ідэалогія — гэта не проста ідэалогія, а сурагат рэлігіі. І тое, што цяпер усе кінуліся да царквы, лепшы доказ ілжывасці тых каштоўнасцей. Утопія, якую стварылі класікі марксізму-ленінізму, разбурана, і гэта прывяло да таго, што чалавек шукае новыя вечныя каштоўнасці.

А што датычыцца, як вы кажаце, шараханняў... Мяне заўсёды насцярожвае рэзкая перамена ў паводзінах чалавека. У тым ліку і ў адносінах да царквы. Насіць крыжык на шыі і лаянца на людзях — гэта святатацтва. Я супраць вянчанняў у імя «моды». У храм трэба ісці з верай. Чалавек адлучыў сябе не толькі ад Бога, але і ад зямлі і неба, ад усяго жывога. І ў гэтым сэнсе хрысціянская праваслаўная царква ўяўляе сабою сапраўдную скарбніцу, якою трэба ўмець карыстацца, каб адраджаць і сябе, і іншых, і нашу зямлю.

**— Як, па-вашаму, ці справядліва навешваць ярлык амаральнасці на чалавека толькі таму, што ён вернік ці атэіст?**

— Думаю, што неправамерна праводзіць размежаванне паміж рэлігіяй і атэізмам па лініі «маральна — амаральна». Супрацьлегласць паміж імі галоўным чынам светапоглядная, філасофская. Таму несправядліва і амаральна навешваць такія ярлыкі. Трэба разабрацца, у якіх умовах і пад уплывам якой сукупнасці фактараў фарміравалася і рэалізавалася яго маральная пазіцыя, а потым рабіць вывады.

**— Айцец Аляксандр, давайце вернемся да пачатку нашай размовы. Як я вас правільна зразумеў, царква павінна быць апалітычнай! Аднак людзі сочаць цяпер за кожным яе крокам, спрабуючы зразумець, за каго яна. Скажу болей: думка і падтрымка царквы — значная сіла. Але, на жаль, гэтую сілу імкнуцца скарыстаць і нацыянал-патрыёты, і кансерватары... Зноўтакі, для святароў настаюць хмарныя дні!**

— Царква павінна займаць нейтральныя пазіцыі ў палітычным жыцці. Але ж яна жыве ў грамадстве і павінна жыць яго клопатамі. Свет быў створаны адзіным, чалавек адзіны з Богам, з прыродай, і той, хто вядзе да канфрантацыі, падвяргае сябе суду Божаму і ніколі не атрымае бласлаўлення царквы. А роль святара... Ён павінен стаць пастырам, які нікога не адхіляе і які вядзе ўсіх людзей — як бы ні былі яны далёка ад царквы — да Хрыста.

**— І апошняе пытанне. Вы амаль не выступаеце на сесіях Вярхоўнага Савета, таму для многіх жыхароў Беларусі з'яўляецеся ціхім, сціплым і інертным дэпутатам. Раскажыце аб сабе.**

— Я сапраўды не рвуся да мікрафона, не крычу ў зале, не тупаю нагамі, як гэта робяць некаторыя найбольш «актыўныя» калегі. І мяне мае выбаршчыкі за гэта не крытыкуюць, не пагражаюць адклікаць з дэпутацкага корпуса. Па меры магчымасці я раблю ўсё, каб выканаць іх наказы, просьбы і пажаданні.

Пра сябе? Нарадзіўся ў шматдзетнай сям'і святара ў Лунінцы. Затым бацьку далі прыход на Гомельшчыне. Чатыры мае старэйшыя браты — таксама святары. Пасля заканчэння Гомельскага палітэхнікума я працаваў на рачным флоце. У 1969 годзе, ужо будучы жанатым, паступіў у Маскоўскую духоўную семінарыю. У Баранавічах жыву пятнаццаты год, маю траіх дзяцей. Сын Ігар таксама звязаў свой лёс з царквою — служыць у нашым саборы.

**Гутарыў Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ.**
**Фота Уладзіміра ЯКАВЕНКІ.**

---

бясконцасць і неспазнанасць. Нехта ж будзе жыць. Хіба ж можна вынішчыць жыццё? Можна рашыць, знявечыць сябе, забіць суседа і брата, але нельга змяніць большае — павярнуць вясну на зіму. Усё роўна для некага будзе распускацца дрэва, і будзе свяціць ласкавае сонца, і вернецца гора, і шчасце, і ўсё пачнецца спачатку...» Вялікі смутак агортвае душу Міці, калі ён уяўляе свет, дзе не будзе ні яго блізкіх, ні самога яго: «Але ў тым новым свеце не будзе нас, як няма і тых, хто жыў, радаваўся і пакутаваў перад намі. Час сцёр іхнія імёны, зруйнаваў магілы, але ж пакінуў хоць маўклівыя камяні, шчарбатыя муры будынкаў, старавечныя кнігі... Малы, але напамінак, што ўсё было... Няўжо сухі і жорсткі мох даўнасці няшчадна і няўмольна ўкрые нашы імёны? І ніхто не будзе думаць пра той вялікі грэх, што нас няма? А хто ж на старых надмагільных камянях будзе шукаць праўду і няпраўду?»

У рамане «Голас крыві брата твайго» вельмі шмат смерцяў — гінуць адзін за адным героі, з якімі чытач зжыўся і якіх палюбіў на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў, калі пісаліся і публікаваліся ўсе чатыры часткі тэтралогіі, своеасаблівага народна-беларускага эпасу напрыканцы XX стагоддзя. Гараць у агні вайны беларускія вёскі Ведравічы, Ятвязь, Прылукі, Лезнявічы. Чарга даходзіць і да Верасава. Знікаюць з твару зямлі цэлыя сялянскія роды, такія, як сям'я Корсакаў. Таго ж Міцю непакоіць ужо не столькі пагібель, надыход якой ён, змучаны вайной з фашызмам і вайной з народам, якую наладзілі сталіністы, ужо спакойна чакае, колькі пытанне, ці змогуць нашчадкі як след разабрацца ў мінулым і аддзяліць зерне ад мякіны. «Наша праўда і няпраўда, дабро і зло,— разважае герой,— жывуць толькі з намі і ў нас. У пакаленнях, што прыйдуць за намі, будзе свая сляпая радасць і цёмная бяда, што праясняе вочы. Але няўжо астанецца тая ж самая і вялікая несправядлівасць, што поруч лягуць і подлы забойца і чысты душою і пясок вечнасці праглыне іх...»

Час, у які нам усім выпала жыць, здаецца, садзейнічае таму, каб нарэшце здзейснілася справядлівасць, выказаная ў народнай прымаўцы: «Усё мінецца, адна праўда застанецца». Той жа час, і раман В. Адамчыка гэта таксама пацвярджае, падводзіць людзей да думкі, што настала пара не руйнавання, а творчасці. Што трэба знаходзіць тую агульную мову, якою роды і народы валодалі да пабудовы славутай Вавілонскай вежы. Але не пра Вавілонскую вежу гаворка — хопіць і іншых спраў на нашай грэшнай зямлі.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

## АНЕКДОТЫ? АНЕКДОТЫ!

● Англійскі маёр «чытае мараль» лейтэнанту:
— Я даведаўся, што вы сёння вярнуліся ў казарму пад ранак, на падпітку, штурхаючы перад сабой каляску. Вы аштрафаваны на 5 сутак.
— Слухаюся, сэр! Дазвольце толькі нагадаць, што ў калясцы я вёз вас...

● Маці выгаворвае сыну:
— І табе не сорамна? Зноў класны кіраўнік скардзілася на тваё паводзіны. Хоць браў бы прыклад з бацькі. За добрыя паводзіны яго датэрмінова вызваляюць з турмы.

● — Што такое муж?
— Гэта намеснік каханага па гаспадарчай частцы.



Кот Леапольд, унук Лявон і бабуля Насця...
Фотаэцюд Віктара ЖЫЛІНА

## «АПОШНІ ВАГОН»

## САМАВУЧЫЦЕЛЬ АПАРАТНАЙ ГУЛЬНІ

(Кароткі слоўнік ухілістых адказаў)

| АДКАЗЫ | САПРАЎДНЫ СЭНС АДКАЗАЎ |
|---|---|
| 1. Ваша пытанне мы вырашым у комплексе! | 1. У бліжэйшы тэрмін гэтым пытаннем мы займацца не будзем... |
| 2. Лічыце, што ваша пытанне вырашана! | 2. Адчапіся хоць бы на месяц, а там пабачым... |
| 3. Баюся, што «наверсе» нас не зразумеюць. | 3. Я і сам тут нічога не разумею... |
| 4. Патэлефануйце мне ў сераду! | 4. У сераду я буду адсутнічаць увесь дзень, а ў чацвер вылятаю за мяжу... |
| 5. Лічыце, што вы мяне пераканалі. | 5. Ад гэтага ўсё роўна нічога не зменіцца. |
| 6. Вам трэба звярнуцца да майго намесніка. | 6. Галоўнае — перакласці справу на іншыя плечы... |
| 7. Вашым пытаннем мы зоймемся заўтра! | 7. Мая сакратарка «згубіць» ягоную скаргу ўжо сёння... |
| 8. Ну, што ж, тады дзейнічайце па свайму разуменню! | 8. Браць на сябе адказнасць за гэтую справу я і не збіраўся! |

P. S. Гэтая апаратная гульня можа доўжыцца бясконца...

## ГАВОРАЦЬ, ШТО БЫЛО ТАК...

● Вучні спыталі ў Сакрата:
— Колькі ўмоў патрэбна для ідэальнага шлюбу?
— Дзве,— адказаў Сакрат...— Муж павінен быць глухім, а жонка сляпой.

● Італьянскага дырыжора Артура Тасканіні аднойчы спыталі, чаму ў яго аркестры няма жанчын. Дырыжор адказаў:
— Бачыце, жанчыны прыносяць адны непрыемнасці. Калі яны чароўныя, то перашкаджаюць маім музыкантам, калі непрыгожыя — замінаюць мне.

● На вяселлі адной са сваіх натуршчыц Дэга заўважыў:
— Якая ж яна чароўная! Праўда, я ўпершыню бачу яе ў суконках, але як яна ёй да твару!..

● Адзін малады, але дастаткова самаўпэўнены тэнар сказаў неяк Энрыка Карузу:
— Учора мой голас гучаў на ўсіх ярусах тэатра!
— Так,— згадзіўся Каруза,— я сам бачыў, як публіка вызваляла для яго месцы.

● Адзін пасрэдны музыкант наведаў Ф. Ліста і папрасіў прачытаць партытуру напісанай ім рэчы.
— Ваш твор,— сказаў Ліст, прачытаўшы партытуру,— мае многа цудоўнага і многа новага.
— Вы так лічыце? — расплыўся ва ўсмешцы музыкант. Але Ліст перапыніў яго, заўважыўшы:
— Толькі шкада, што цудоўнае не новае, а новае — не цудоўнае.

● Ньютану спатрэбілася зварыць яйка. Узяўшы гадзіннік, ён заўважыў час пачатку варкі. А неўзабаве да яго дайшло: трымае ў руках яйка, а варыць... гадзіннік.

● Агата Крысці так гаварыла пра сваё доўгае і шчаслівае жыццё:
— Мой муж археолаг і любіць мець справу са старажытнасцю.

ПАДРЫХТАВАЎ
Алесь БЯРЖЫНСКІ.

Вясёлы фламастэр
Алега ПАПОВА.



Гэта я.








● У кватэру зайшла суседка, і маці кажа:
— Сынок, пацалуй цёцю.
— Баюся!
— Чаго?
— Аднойчы яе пацалаваў тата і адразу ж зарабіў аплявуху!

● Трох асуджаных па чарзе выклікаюць у суд. Вярнуўся першы і кажа:
— Далі 5 гадоў!
Другі:
— Мне — 8.
Трэці:
— Вышка. Напэўна, я вас ахоўваць буду...



## ЗДАЛІСЯ... АБОДВА

Па-рознаму паводзяць сябе шашысты ў безнадзейным становішчы. Пачаткоўцы звычайна гуляюць да апошняй шашкі. Майстры, каб не выклікаць у гледачоў усмешак, а то і з'едлівых каментарыяў, здаюцца адразу. А вядомы беларускі майстар Дзяніс Гардзевіч лічыў, што спартсмен павінен змагацца да апошняга «патрона». Гэта, калі яго выратоўвала, то, як кажуць, гады ў рады. А вось ветэран Барыс Берлінкоў, якому, дарэчы, споўнілася 80 гадоў, у такіх выпадках выглядаў як сапраўдны джэнтльмен. Так, на матчы 1954 года ў Вільнюсе паміж зборнымі камандамі Літвы і Беларусі Б. Берлінкоў гуляў супраць Ю. Ажынскаса і меў значную перавагу. Як гэта часцяком здараецца, у нейкі момант ён пачаў гуляць самаўпэўнена, і неўзабаве сам трапіў у безнадзейнае становішча.



Ход белых.

Берлінкоў, канечне ж, засумаваў. Яшчэ раз агледзеў сваю пазіцыю і збіраўся здацца. Але Ажынскас таксама быў не надта вясёлы, бо ўбачыў камбінацыю, якую мог правесці ягоны праціўнік: пасля ходу 1. fe5 і на адказ 1... fq7 было б — 2. cb4 a:c3 3. d:b2 і 4. e:a7. Але Берлінкоў, разлічыўшы на многа хадоў далей, убачыў, што атака ў цэнтр не выратоўвае яго. Бо чорныя маглі «крутнуць» контркамбінацыю: 1... bc5! 2. e:g7 cb4! 3. a:c5 ef6 4. g:e5 gf4 5. e:g5 h:d2 і — выйгравалі!

Менавіта гэтай камбінацыі, як прызнаўся пазней Ажынскас, ён не бачыў. Таму абодва сапернікі адначасова спынілі гадзіннікі і разам прамовілі адно і тое ж слова: «Здаюся».

Суддзі разгубіліся, у зале пырснуў смех. Улічваючы, што матч таварыскі, а беларуская каманда яго ўжо і так выйграла, суддзі зафіксавалі... нічыю.

## «РЭЦЭПТ» ПСІХОЛАГА

Вас нешта трывожыць? Паспрабуйце... узяць у руку аловак або фарбы і намаляваць тое, што каменем ляжыць у вас на сэрцы. Вы не ўмееце маляваць? Не засмучайцеся! Прымусьце сябе зрабіць гэта — і вы заўважыце, што вам стала лягчэй. А малюнак (няхай ён і не шэдэўр) абавязкова ўразіць вас.



## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталі:** 5. Возера на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка. 6. Устойлівы трапічны вецер. 9. Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды, грамадства. 11. Беларуская пісьменніца. 13. Плод некаторых лісцяных дрэў. 15. Нерухомая аснова машыны, станка. 16. Мужчынскі голас. 17. Вогненна-вадкая маса зямнога шара. 20. Вадзяная ці балотная злакавая расліна. 22. Урачысты бальны танец. 23. Споры дзеразы. 28. Сярністая ртуць. 29. Найвялікшы фізік і матэматык старажытнасці. 30. Афіцыйнае распараджэнне. 32. Хлебны злак. 34. Невялікая пеўчая птушка. 36. Казацкі атаман, які ў XVI стагоддзі пачаў асваенне Сібіры Рускай дзяржавай. 38. Рэчавы мяшок. 39. Вогнетрывалы будаўнічы матэрыял. 40. Вага тавару з упакоўкай. 41. Хваёвае дрэва.

**Па вертыкалі:** 1. Планета. 2. Аптычная з'ява. 3. Урачысты агляд войск. 4. Сімфанічная паэма М. Балакірава. 7. Музыкант. 8. Камісар Петраградскага ВРК на крэйсеры «Аўрора». 10. Князь Кіеўскай Русі. 12. Моцны вецер, бура. 14. Партовы рабочы ў некаторых краінах. 18. Парода сабак. 19. Шматлюдная экскурсія, прагулка. 21. Кампазітар, народны артыст СССР. 22. Першая ступень гамы. 24. Промыславая рыба. 25. Краявы цэнтр РСФСР. 26. Горад у Магілёўскай вобласці. 27. Рух паветра ў гарызантальным напрамку. 31. Урачыстая песня. 33. Паўза ў вершаваным радку, абавязковая для пэўнага вершаванага памеру. 35. Спартыўны суддзя. 36. Народ цюркскай моўнай групы. 37. Хімічны элемент.

**Склаў Мікалай КУРЫЛЬЧЫК.**

**ВАШ ХОД, КАМП'ЮТЭР!**

## КАРАЛЕЎСКІ ДЭМАРШ «ЧЭЛІНДЖЭРА»

Кандыдат у майстры спорту А. Суцін знакаміты на ўсю Маскву тым, што ён калекцыяніруе... шахматныя камп'ютэры. А яшчэ тым, што раз-пораз выклікае ЭВМ на дуэль...

Чым жа заканчваюцца тыя дуэлі? Кандыдат у майстры, на жаль, прайграе, а гэта сведчыць пра тое, што электронныя шахматысты не толькі навучыліся разлічваць безліч варыянтаў і весці «бой» з чалавекам на чорна-белых палях, але і з упартасцю дамагацца прыгожай перамогі.

Толькі адзін прыклад. ЭВМ па мянушцы «Чэлінджэр» атакуе А. Суціна.



У гэтай пазіцыі «Чэлінджэр» падрыхтаваў нечаканы ўдар: 21. С:е6!? Далей было: 21... fe 22. Л:d7 Крf6 (Пасля 22. ...Крg8! электронны шахматыст наўрад ці змог бы выратавацца).

Яшчэ адна ахвяра з боку «Чэлінджэра» — 23. Cg5+! Кр:g5. Суцін быў перакананы, што ўсе гэтыя ахвяры... ад адчаю. На самай жа справе — ЭВМ беспамылкова пралічыла шматхадовую камбінацыю.

24. Фе5+ Фf5 (Няма паратунку і пасля — 24... Лf5 25. f4+! Крg4 26. Лg7+ Крf3 27. Ф:c3+, і белыя перамагаюць).

25. Фg3+ Крh5 26. Л:h7+! Ф:h7. А гэты ход сапраўды каралеўскі — 27. Крg2! Усё скончана...

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 7.



## СЯМ'Я, ЯКУЮ ВЫ БАЧЫЦЕ НА ЗДЫМКУ, СВОЙ ВЫБАР УЖО ЗРАБІЛА — ЯНА ВЫПІСВАЕ І ЧЫТАЕ «БЕЛАРУСЬ».

# А ВЫ ?




**ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ-93 ПРАЦЯГВАЕЦЦА, ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**У каталогах перыядычных выданняў індэкс часопіса «БЕЛАРУСЬ»**

*застаўся ранейшым — 74820.*
*Змяніўся толькі кошт.*
*Са студзеня 1993-га*
*гадавы камплект «Беларусі»*
*будзе каштаваць 120 рублёў.*
*На палову года — 60.*
*На тры месяцы — 30.*
*Кошт нумара ў розніцу — 10 рублёў.*

Дарэчы, трэба мець на ўвазе, што яшчэ маюць намер
узяць за паслугі «сваю даніну» друкарня і паштавікі.
А якой яна будзе —
гэта ўжо не ў нашай кампетэнцыі.
10 рублёў за экземпляр...
«Не танна!» — скажаце вы. Сапраўды не танна.
Але ж і не дорага, калі ўлічваць кошт нашага
сённяшняга «спажывецкага кошыка».
А жыццё, між іншым, працягваецца.
Будзе жыць і «Беларусь»!


# БЕЛАРУСЬ

ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА

**№ 8 (644)**
**ЖНІВЕНЬ 1992**




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: **Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.**
**Фота Эрнста ЦЕЦЯРЭЎСКАГА.**


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

**Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Мінск.**

**Журнал «Беларусь» на белорусском языке.**

**Здадзена ў набор 15.06.92. Падпісана да друку 19.07.92. Фармат 70×108 1/8. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 9000 экз. Зак. 1108.**

**Кошт у розніцу — 3 рублі.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19.**
**Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54.**
**Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 10 машынапісных старонак.**
**Допісы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі, атрыманыя рэдакцыяй, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.**
**220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79.**
**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».**

**1000 ЛЕТ**
**ПРАВОСЛАВНОЙ ЦЕРКВИ**
**НА БЕЛАРУСИ**



**1000 ГОД**
**ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ**
**НА БЕЛАРУСІ**

Беларускі Экзархат Маскоўскага Патрыярхата святкуе 1000-гадовы юбілей Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

Асноўныя ўрачыстасці адбудуцца 25—27 верасня — у дні пярэдадня і свята Усясветнага Уздзвіжання Пачэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподня.

Мерапрыемствы юбілейных урачыстасцяў пачне 25 верасня ў Мінску царкоўна-навуковая канферэнцыя, прысвечаная 1000-годдзю Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

У канцы гэтага дня адбудзецца Урачысты акт і духоўны канцэрт.

26 ВЕРАСНЯ

адбудзецца малітоўнае і грамадскае святкаванне ў старажытным беларускім горадзе Заслаўі, а ўвечары — святочнае Усяночнае дбанне з чынам уздзвіжання крыжа ў Свята-Крыжа-Уздзвіжанскім саборы Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

27 ВЕРАСНЯ

ў Полацку будзе ўчынена Боская літургія, а затым Хрэсны ход накіруецца да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Тут адбудзецца малебен і пакланенне пачэсным мошчам святой найпадобнай маці нашай Еўфрасінні, ігуменні Полацкай.

З глыбокай павагай

Камісія па падрыхтоўцы юбілейных урачыстасцяў
Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Адрас камісіі па падрыхтоўцы юбілейных урачыстасцяў:
Рэспубліка Беларусь, 220004, Мінск, вул. Вызвалення, 10. Тэл.: (0172) 23-25-70.

